М. А. ПАЎЛЕНКА

# НАРЫСЫ ПА БЕЛАРУСКАМУ СЛОВАЎТВАРЭННЮ

*Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове*

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1978

М. А. ПАЎЛЕНКА

# НАРЫСЫ ПА БЕЛАРУСКАМУ СЛОВАЎТВАРЭННЮ

## Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1978

4С(Бел)
П 21

Рэцэнзент
доктар філалагічных навук
прафесар А. І. Жураўскі

Навуковы рэдактар
доктар філалагічных навук
прафесар А. Я. Супрун

**Паўленка М. А.**

П21 Нарысы па беларускаму словаўтварэнню. Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове. Мн., Выд-ва БДУ, 1978.

136 с.

У рабоце даследуецца станаўленне і развіццё жаночых асабовых намінацый у старабеларускай мове, вызначаецца функцыяніраванне словаўтваральных мадэлей, структурныя і семантычныя адносіны паміж утвараючымі і вытворнымі словамі, аналізуецца словаўтваральная сінанімія фемінінатываў.

Кніга прызначаецца для навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў, студэнтаў-філолагаў і ўсіх тых, хто цікавіцца праблемамі гістарычнага словаўтварэння беларускай мовы.

70103—004
П————————46—78 4С(Бел)
М317—78

# ПРАДМОВА

Тэарэтычная распрацоўка пытанняў беларускага словаўтварэння, якая асабліва інтэнсіўна праводзіцца ў апошнія дзесяцігоддзі, пакуль што ў недастатковай ступені закранула гістарычны аспект гэтай з'явы. Між тым гістарычнае словаўтварэнне заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі і дэталёвага даследавання, бо ў словаўтварэнні так ці інакш знаходзіць адлюстраванне, зразумела, праз змяненні ў слоўніку, гісторыя народа, усе зрухі, якія адбываюцца ў грамадскім жыцці, найбольш поўна раскрываецца лексічнае багацце слоўніка даследуемай мовы, яе развіццё, інакш кажучы, сістэма словаўтварэння служыць паказчыкам ступені развіцця мовы.

Улічваючы гэта, аўтар дадзенай работы зрабіў спробу даць аналіз станаўлення, развіцця і функцыяніравання адной з катэгорый лексічнай сістэмы старабеларускай мовы — жаночых асабовых намінацый.

Катэгорыя фемінінных асабовых назваў з'яўляецца даволі шырокім аб'ектам лінгвістычнага даследавання. Але яна да апошняга часу амаль не прыцягвала ўвагі беларускіх моваведаў. Усё, што ёсць у беларускім мовазнаўстве па гэтаму пытанню, уяўляе сабой асобныя нататкі, артыкулы, параграфы ў вучэбных дапаможніках, заўвагі ў манаграфіях ці дысертацыях. І толькі адно даследаванне прысвечана спецыяльна вывучэнню жаночых асабовых намінацый у беларускай мове[1]. Але ў ім, па-першае, даследуюцца не ўсе разрады фемінінных назваў, а па-другое, аналіз праводзіцца на зрэзе сучаснага развіцця беларускай мовы. Гісторыя ж станаўлення і функцыяніравання фемінінных Nomina agentis застаецца не вывучанай. Няма такіх манаграфічных даследа-

[1] *Пискун В. Т.* Женские личные номинации в современном белорусском литературном языке (на материале спортивной терминологии). Автореф. канд. дис. Минск, 1972.

ванняў таксама ў рускім і ва ўкраінскім мовазнаўстве.

Вывучэнне катэгорыі жаночых асабовых намінацый у гістарычным плане дапаможа не толькі ўстанавіць заканамернасці функцыяніравання фемінінатываў у старабеларускай мове, але і выявіць агульныя тэндэнцыі станаўлення і фарміравання назоўнікаў розных разрадаў. Тым самым будзе ўнесены пэўны ўклад у распрацоўку тэорыі гістарычнага словаўтварэння беларускай мовы наогул.

Жаночыя асабовыя намінацыі ў гэтай рабоце, якая з'яўляецца часткай шырока задуманага даследавання фемінінатываў, разглядаюцца ў першую чаргу ў словаўтваральным аспекце. Даследчык імкнуўся раскрыць спецыфіку фарміравання ўказаных намінацый у старабеларускай мове, выявіць мадэлі, па якіх адбывалася ўтварэнне фемінінных назваў, устанавіць структурныя і семантычныя ўзаемаадносіны паміж матывуючымі і матываванымі словамі, акрэсліць словаўтваральныя магчымасці дэрыватэм, якія ўдзельнічаюць ва ўтварэнні фемінінатываў, разглядзець варыянтнасць і словаўтваральную сінанімію жаночых асабовых намінацый, вызначыць асноўныя лексіка-семантычныя разрады вывучаемых назваў.

Работа прадстаўляе не гісторыю словаўтварэння асобных слоў, слоў-адзіночак, а спробу прааналізаваць фемінінныя намінацыі ў іх сістэме і тым самым вырашыць найбольш важныя пытанні станаўлення і функцыяніравання жаночых асабовых намінацый у старабеларускай мове. Натуральна таму, што многія прыватныя пытанні развіцця асобных Nomina feminitatis не знаходзяць месца ў нашым даследаванні. Ахапіць іх — значыць ператварыць работу ў набор кароткіх нарысаў, прысвечаных асобным фемінінатывам.

Непасрэднаму аналізу моўных фактаў папярэднічае раздзел, у якім выкладзены пытанні сінхраніі і дыяхраніі ў мове. Ён знаёміць чытача з некаторымі аспектамі гэтай праблемы і раскрывае методыку даследавання словаўтваральных працэсаў.

Моўны матэрыял, які аналізуецца намі, узяты з помнікаў розных жанраў старабеларускай пісьменнасці (актаў, дагавораў, грамат, судовых і публічных спраў Літоўскай метрыкі і іншых юрыдычных дакументаў, твораў палітычнай сатыры, публіцыстычнай, рэлігійна-палеміч-

най і агіяграфічнай літаратуры і г. д.). У працэсе работы была выкарыстана фундаментальная картатэка Слоўніка старабеларускай мовы, якая захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Дзякуючы гэтаму многія моўныя факты ўводзяцца ў навуковы ўжытак упершыню.

Інверсійны слоўнік, змешчаны ў дадатку, дае чытачу ўяўленне аб аб'ёме і характары даследуемага матэрыялу.

Аўтар выносіць падзяку членам кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства БДУ імя У. І. Леніна, прафесарам П. П. Шубе і А. І. Жураўскаму, дацэнту БДУ імя У. І. Леніна І. А. Карабаню, старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР І. К. Цішчанку, чые заўвагі і парады садзейнічалі паляпшэнню працы.

# СІНХРАНІЯ І ДЫЯХРАНІЯ Ў МОВЕ

## З гісторыі распрацоўкі паняццяў сінхраніі і дыяхраніі. Статыка і дынаміка ў мове

Сярод шматлікіх пытанняў сучаснага мовазнаўства, звязаных з вывучэннем заканамернасцей гістарычнага развіцця і функцыяніравання мовы, даследаваннем яе структуры і сістэмы, праблема сінхраніі і дыяхраніі займае адно з цэнтральных месц.

Нягледзячы на тое, што проціпастаўленне сінхранічнага і дыяхранічнага падыходу да вывучэння мовы было даволі выразна сфармулявана Ф. дэ Сасюрам[1], у навуцы і цяпер няма адзінства поглядаў на гэту праблему. Час ад часу ўзнікаюць спрэчкі аб змесце сінхраніі і дыяхраніі, іх дыхатамічным характары, друкуюцца дыскусійныя артыкулы[2].

---

[1] Гл.: *Сосюр Ф. де.* Курс общей лингвистики. М., 1933, с. 90 і інш. Кароткая гісторыя закранутага пытання змешчана ў рабоце: *Lieb H. H.* Synchronic versus diachronic linguistics. A historical note.— «Linguistics», 1967, v. 36.

[2] Гл., напрыклад: *Жирмунский В. М.* О синхронии и диахронии в языкознании.— «Вопросы языкознания», 1958, № 5; О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960; *Pulgram E.* French (ə): Statics and Dynamics of Linguistic subcodes.— «Lingua», 1961, v. 10, № 3; *Зализняк А. А.* О возможной связи между операционными понятиями синхронного описания и диахронией. — У кн.: Симпозиум по структурному изучению знаковых систем. Тезисы докладов. М., 1962; *Косериу Э.* Синхрония, диахрония и история.— У кн.: Новое в лингвистике, вып. 3. М., 1963; *Сешэ А.* Три соссюровские лингвистики (критика «Курса общей лингвистики»).— У кн.: *Звегинцев В. А.* История языкознания XIX—XX веков в очерках и извлечениях, ч. 2. М., 1965; *Мельчук И. А.* О соотношении синхронических и диахронических описаний (к постановке вопроса).— У кн.: Материалы всесоюзной конференции по общему языкознанию, т. 1. Самарканд, 1966; *Malmberg B.* Synchronie et diachronie.— У кн.: X-éme Congrès International des Linguistes. Bucarest, 1967; *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии.— «Вопросы языкознания», 1968, № 3; *Baldinger Kurt.* Diachronie et synchronie. Plaidoyer pour leur equivalence.— Studii şi cercetări linguistice, 1973, 5; *Климов Г. А.* Проблема разграничения синхронии и диахронии.— У кн.: Общее языкознание. М., 1973; *Трубачев О. Н.* Этимологические исследования и лексическая семантика.— У кн.: Принципы и методы семантических исследований. М., 1976, с. 149, 152, 154 і інш.

Гэта, відаць, абумоўлена, з аднаго боку, тым, што, пры ўсёй выразнасці канцэпцыі Ф. дэ Сасюра, у ёй існуе нямала момантаў, якія аб'ектыўна даюць падставы для яе рэвізіі, а з другога боку, дыктуецца імкненнем абагульніць тое новае, што паяўляецца ў тэорыі мовазнаўства па сінхраніі і дыяхраніі, і тым самым намеціць агульны напрамак для плённых сінхранічных і дыяхранічных даследаванняў у далейшым[3].

Як вядома, пад сінхраніяй[4] Ф. дэ Сасюр разумеў мову як сістэму статычных проціпастаўленняў яе элементаў, якія знаходзяцца ў адной гарызантальнай плоскасці, на «восі адначасовасці» [5], дзе з адносін паміж моўнымі элементамі «выключана ўсякае ўмяшанне часу»[6], гэта значыць, дзе аналізу падлягаюць моўныя факты, якія ўяўляюцца як статычныя для дадзенага стану мовы[7]. «Вывучаць мову статычна на практыцы значыць занядбаць малаважныя змены»,— гаварыў Ф. дэ Сасюр[8]. Дыяхранія ж, сцвярджае ён, наадварот, павінна «вывучаць адносіны, якія звязваюць элементы ў парадку паслядоўнасці, не ўспрымаемай адной і той жа калектыўнай свядомасцю» [9], гэта значыць разглядаць адносіны паміж markрознымі фазамі эвалюцыі мовы[10] на «восі паслядоўнасці», улічваючы фактар часу. Тым самым дыяхранія спецыяльна канцэнтруе ўвагу на моўных зменах (дынаміцы), улічвае храналагічную перспектыву [11]. Паколькі ў дыяхраніі адбываюцца змены не ўсёй мовы, а асобных яе звенняў, дыяхранія ў адрозненне ад сінхраніі, на думку Ф. дэ Сасюра, не ўтварае сістэмы, і таму

---

[3] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 112.

[4] «Сінхроннае вывучэнне мовы не ўяўляе само па сабе якой-небудзь навіны ў мовазнаўстве. Лінгвістыка, якая існавала да ўзнікнення гістарычнага мовазнаўства XIX ст., на працягу многіх стагоддзяў як на Захадзе, так і на Усходзе, заўсёды мела сінхронны характар...»— Гл.: *Жирмунский В. М.* О синхронии и диахронии в языкознании, с. 43. Іншая справа, што Ф. дэ Сасюр падышоў па-свойму да трактоўкі гэтай з'явы.

[5] Гл.: *Жирмунский В. М.* Назв. работа, с. 46.

[6] *Соссюр Ф. де.* Назв. работа, с. 88.

[7] Гл.: *Климов Г. А.* Проблема разграничения синхронии и диахронии, с. 109.

[8] *Соссюр Ф. де.* Назв. работа, с. 104.

[9] Там жа, с. 103.

[10] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 113.

[11] Гл.: *Соссюр Ф. де.* Назв. работа, с. 134; *Hoenigswald H. M.* Language change and linguistic reconstruction. Chicago, 1960, p. 3.

адносіны і сувязі паміж моўнымі элементамі тут не могуць быць такім паўнацэнным аб'ектам даследавання, як у сінхраніі. Гэты скепсіс да магчымасцей дыяхранічнага даследавання мовы з цягам часу распаўсюдзіўся не толькі на прадстаўнікоў Жэнеўскай школы[12], але і на іншых даследчыкаў[13].

Уведзенае Ф. дэ Сасюрам строгае размежаванне сінхраніі і дыяхраніі, абгрунтаванне сістэмнага характару элементаў мовы ў сінхраніі ў далейшым адыграла вялікую ролю ў апісанні мовы на адным з плоскасных зрэзаў, у вывучэнні спецыфічных рыс моўнай структуры, дапамагло выявіць суадносіны паміж рознымі элементамі моўнай сістэмы, усвядоміць цэласнасць гэтай сістэмы [14], удасканаліць методыкі сінхранічнага апісання мовы [15] і г. д. Але, як паказала практыка, не ўсе пункты тэорыі Ф. дэ Сасюра аказаліся безагаворачна прымальнымі. Мабыць, першае, што выклікала сумненне і небеспадстаўныя пярэчанні — гэта бескампраміснасць размежавання сінхраніі і дыяхраніі і адмаўленне сістэмнага характару моўных фактаў у дыяхраніі [16].

---

[12] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 113.

[13] Гл., напрыклад, заўвагу аб несумяшчальнасці паняццяў моўнага развіцця і сістэмы мовы ў Л. Ельмслева (*Hjelmslev L.* Princips de grammaire générale. Copenhaque, 1928, p. 54) ці сцвярджэнне А. А. Рэфармацкага аб тым, што сінхранічны аспект важней дыяхранічнага, што сінхранія і сінхранічнае апісанне не павінны мець нічога агульнага з дыяхраніяй і дыяхранічным развіццём мовы.— Гл.: *Реформатский А. А.* Принципы синхронного описания языка.—У кн.: О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960, с. 23; *Яго ж.* Заключительное слово.— Там жа, с. 123; *Будагов Р. А.* Заключительное слово.— У кн.: О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960, с. 128; *Malmberg B.* Systême et mèthode.— «Lunds Learbook of the New Society of Letters». Lund, 1945, p. 22.

[14] Гл.: *Ярцева В. Н.* Диахроническое изучение системы языка.— У кн.: О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960, с. 39.

[15] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 113.

[16] Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, Ф. дэ Сасюр не быў такім катэгарычным пры практычным размежаванні сінхраніі і дыяхраніі. Ён неаднаразова ўказваў на цяжкасці такога размежавання і ніколі не ігнараваў дыяхранію (гл.: *Кузнецов П. С.* Выступление на дискуссии.— У кн.: О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960, с. 101) і не адмаўляў ні сувязі змен у сістэме, ні ролі гэтых змен у трансфармацыі сістэмы (*Madonia Giovanna.* Diachronie. Linguistique. Guide alphabetique. Sous la direction

Ужо самыя блізкія вучні Ф. дэ Сасюра Ш. Балі і А. Сешэ, пры актыўным удзеле якіх быў выдадзен сасюраўскі «Курс общей лингвистики», па-рознаму ўспрынялі сасюраўскую канцэпцыю сінхраніі//дыяхраніі [17]. Ш. Балі, напрыклад, амаль без агаворак згаджаўся з Ф. дэ Сасюрам і, больш таго, паслядоўна праводзіў яго антыномію сінхраніі//дыяхраніі ў сваіх работах [18], тады як А. Сешэ лічыў неабходным вывучаць не толькі сінхранію, але і звяртаць увагу на дыяхранічны аналіз, паколькі гэта дае магчымасць параўнаць два станы мовы, каб выявіць змяненні, якія адбыліся ў мове, высвятліць, якія элементы мовы падвергліся гэтым змяненням [19]. Насуперак Сасюру пачынае разглядаць эвалюцыю гукавага ладу розных моў як эвалюцыю сістэмы і большасць ранніх фаналагаў [20].

Агульнавядомы таксама выказванні І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ аб сінхраніі і дыяхраніі, статыцы і дынаміцы, якія накіраваны супраць гіпертрафаванага проціпастаўлення сінхраніі і дыяхраніі Ф. дэ Сасюрам [21]. І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ гаварыў, напрыклад, што «ў мове, як і наогул у прыродзе, усё жыве, усё рухаецца, усё змяняецца. Спакой, спыненне, застой — з'ява, якая толькі здаецца; гэта прыватны выпадак руху пры ўмовах мінімальных змяненняў. Статыка мовы ёсць толькі прыватны выпадак

---

d'André Martinet. Paris, 1969, p. 73—78; *Mounin Georges.* La linguistique du XX-e siècle. Paris, 1972, p. 61; *Слюсарева Н. А.* Теория Ф. де Соссюра в свете современной лингвистики. М., 1975, с. 87—88). Усё гэта дае падставу лічыць, што патрабаванне бескампраміснага размежавання сінхраніі і дыяхраніі было выклікана метадычнымі меркаваннямі (гл.: *Слюсарева Н. А.* Назв. работа, с. 87). Што датычыцца спрошчанай трактоўкі і не зусім правільнага разумення канцэпцыі Ф. дэ Сасюра, то гэта ў шэрагу выпадкаў абумоўлена непаслядоўнасцю, непаўнатой і дыспрапорцыяй асобных частак яго кнігі, «якую аўтар ніколі не пісаў, але якая цалкам належыць яму і толькі яму» (гл.: *Реформатский А. А.* Принципы синхронного описания языка, с. 26).

[17] Гл.: *Леонтьев А. А.* Синхрония—диахрония.— У кн.: Основы теории речевой деятельности. М., 1974, с. 52.

[18] Гл. *Будагов Р.* Вступительная статья.— У кн.: *Балли Ш.* Общая лингвистика и вопросы французского языка. М., 1955, с. 6, а таксама с. 32 і наступн. гэтай кнігі.

[19] Гл.: *Сешэ А.* Три соссюровские лингвистики (критика «Курса общей линвистики»), с. 77.

[20] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 114.

[21] Гл.: *Леонтьев А. А.* Синхрония—диахрония, с. 52.

яе дынамікі ці, хутчэй, кінематыкі»[22]. Таму пры аналізе мовы на сінхронным зрэзе трэба лічыцца «з фактам наяўнасці, з аднаго боку, перажытачных форм, што атрыманы ў спадчыну ад мінулага і ўжо не адпавядаюць дадзенаму агульнаму ладу мовы, з другога ж боку, з'яў, якія прадвяшчаюць, так сказаць, будучы стан дадзенай ...мовы»[23]. Паводле Бадуэна дэ Куртэнэ, сістэмнасць уласціва як сінхронна ўзятым фактам, так і дыяхранічным зменам у мове[24].

Блізкім да бадуэнаўскага было разуменне складанай узаемасувязі сінхраніі і дыяхраніі Л. У. Шчэрбай, адным з яркіх прадстаўнікоў так званага лінгвістычнага мадэрнізму пачатку XX ст.[25], які ў заўвазе, змешчанай у прадмове да доктарскай дысертацыі, пісаў, што «добрае псіхалагічнае апісанне дадзенай мовы ў дадзены момант часу само па сабе дае паняцце аб найбольш блізкім яе мінулым і магчымым будучым»[26].

Спробы пераадолець абсалютнасць проціпастаўлення сінхраніі і дыяхраніі рабіліся ў далейшым і іншымі савецкімі і замежнымі вучонымі (Я. Д. Паліванавым[27], В. У. Вінаградавым[28], Г. О. Вінакурам, Э. Касэрыу[29] і інш.). Г. О. Вінакур, напрыклад, указваў, што «процірастаўленне «сінхраніі» і «дыяхраніі» ў мове ёсць процірастаўленне ўяўнае, якое не мае ніякай глебы ў гіста-

---

[22] *Бодуэн де Куртенэ И. А.* Избранные труды по общему языкознанию, т. 1. М., 1963, с. 349.

[23] *Бодуэн де Куртенэ И. А.* Избранные труды по общему языкознанию, т. 2. М., 1963, с. 186.

[24] Гл.: *Леонтьев А. А.* Синхрония—диахрония, с. 52.

[25] Гл.: *Жирмунский В. М.* О синхронии и диахронии в языкознании, с. 44.

[26] *Щерба Л. В* Восточнолужицкое наречие, т. 1. Пг., 1915, с. XIX (заўвага 1).

[27] Гл.: *Поливанов Е. Д.* Где лежат причины языковой эволюции? — У кн.: Статьи по общему языкознанию. М., 1968, с. 75—89.

[28] Гл.: *Виноградов В. В.* Русский язык. Грамматическое учение о слове. М.—Л., 1947 (2-е выд. М., 1972), дзе мова аналізуецца сінхронна, як сістэма, «якая знаходзіцца ў руху і развіцці — як у цэлым, так і ва ўсіх сваіх частках».— Гл.: *Жирмунский В. М.* О синхронии и диахронии в языкознании, с. 44.

[29] Праўда, думкі Э. Касэрыу паводле сінхраніі і дыяхраніі супярэчлівыя. Ён то прызнае, што змены ў мове «адбываюцца паміж двума момантамі часу, і таму з'яўляюцца дыяхроннымі», і яны «павінны адлюстроўвацца якімсьці чынам і ў сінхраніі», то сцвярджае, што «ў сінхроннай праекцыі змяненні не могуць назірацца самі па сабе».— Гл.: *Косериу Э.* Синхрония, диахрония и история.— У кн.: Новое в лингвистике, вып. 3. М., 1963, с. 150.

рычнай навуцы», што «гісторыя мовы ёсць паслядоўная змена моўных сістэм». Пры гэтым пераход ад адной сістэмы да другой, на яго думку, падпарадкаваны пэўным сувязям і адносінам, якія абумоўлены сацыяльнай прыродай мовы[30].

Але усё ж у канцэнтраваным выглядзе ідэя непрыняцця безагаворачна канцэпцыі Ф. дэ Сасюра была сфармулявана ў Тэзісах Пражскага лінгвістычнага кружка (ПЛК). У адным з тэзісаў так і запісана, што «нельга будаваць неадольныя перапоны паміж метадам сінхранічным і дыяхранічным, як гэта рабіла Жэнеўская школа. Калі ў сінхранічнай лінгвістыцы элементы мовы разглядаюцца з пункту гледжання іх функцый, то аб змяненнях, якія зазнае мова, нельга гаварыць без уліку сістэмы, закранутай гэтымі змяненнямі». Таму «дыяхранічнае вывучэнне не толькі не выключае паняцця сістэмы, але, наадварот, без уліку гэтых паняццяў з'яўляецца няпоўным». У Тэзісах указвалася, што сінхранічны аналіз фактаў мовы «не можа цалкам выключыць паняцця эвалюцыі, таму што нават у сінхранічна разглядаемым сектары мовы заўсёды ў наяўнасці ўсведамленне таго, што існуючая стадыя змяняецца стадыяй, якая знаходзіцца ў працэсе фарміравання»[31].

Ідэі і прынцыпы, выкладзеныя ў Тэзісах ПЛК, знайшлі сваю тэарэтычную і практычную распрацоўку як у працах членаў кружка[32], асабліва ў работах Н. С. Трубяцкога, Р. О. Якабсона[33], так і ў працах прыхільнікаў ідэй і паслядоўнікаў традыцый пражцаў. Як вядома, першапачаткова прынцыпы ПЛК распрацоўваліся на фаналагічным узроўні. І толькі пазней, калі дастаткова была сфармулявана і абгрунтавана ідэя ізамарфізму

---

[30] Гл.: *Винокур Г. О.* Избранные работы по русскому языку. М., 1959, с. 215.

[31] Пражский лингвистический кружок. М., 1967, с. 18.

[32] Падрабязную бібліяграфію работ членаў ПЛК гл.: *Булыгина Т. В.* Пражская лингвистическая школа.— У кн.: Основные направления структурализма. М., 1964.

[33] Гл.: *Troubetzkoy N. S.* La phonologie actuelle.— «Journal de psychologie normale et pathologique», v. XXX. Paris, 1933; Polabische Studien. Wien, 1930; *Трубецкой Н. С.* Основы фонологии. М., 1960; *Jacobson R.* Remarques sur l' évolution phonologique du russe comparée à celle autres langues slaves. TCLP, 1929, № 2; Prinzipien der historischen Phonologie. TCLP, 1931, № 4 (спасылка на іншамоўныя крыніцы па Л. М. Скрэлінай). Гл.: *Скрелина Л. М.* Некоторые вопросы развития языка. Минск, 1973, с. 27.

моўных узроўняў, асноўныя палажэнні пражцаў былі перанесены і на другія ярусы мовы[34].

Цяпер ідэі і прынцыпы ПЛК аб сінхраніі і дыяхраніі падзяляюцца большасцю лінгвістаў[35].

Для савецкіх моваведаў характэрны погляд на мову як на сістэму, якая заўсёды змяняецца, развіваецца. Таму ўзаемасувязі і ўзаемаадносіны паміж састаўнымі элементамі сістэмы павінны вызначацца не толькі ў проціпастаўленні гэтых элементаў на сінхронным зрэзе, у гарызантальнай плоскасці, але і законамі дыяхранічнага руху моўнай сістэмы і яе састаўных частак[36]. Гэта вынікае з дыялектычнага падыходу да з'яў рэчаіснасці, з таго, што «чалавечыя паняцці не нерухомыя, а вечна рухаюцца, пераходзяць адно ў другое, пераліваюць адно ў другое, без гэтага яны не адлюстроўваюць жывога жыцця. Аналіз паняццяў, вывучэнне іх, «майстэрства аперыраваць з імі» (Энгельс) патрабуе заўсёды вывучэння руху паняццяў, іх сувязі, іх узаемапераходаў»[37].

Як вядома, адной з уласцівасцей усякай мовы з'яўляецца яе ўстойлівасць, якая ў многім прадвызначае ролю мовы ў грамадстве быць важнейшым сродкам зносін паміж людзьмі. Калі б не было гэтага, мова ператварылася б са сродка зносін у «сродак раз'яднання», што парушыла б працэс камунікацыі ці зрабіла б яго нават немагчымым наогул[38]. Але мова, будучы ўстойлівай, заўсёды знаходзіцца ў руху, змяненнях, абумоўленых шэрагам экстра- і ўнутрылінгвістычных фактараў. Гэтыя змяненні адбываюцца настолькі павольна і непрыкметна для носьбіта дадзенай мовы, што ён нават не заўважае іх[39]. І яму здаецца, што кожнае новае пакаленне гаворыць на той жа мове і таксама ж, як і папярэднія пакаленні, што ў мове ніякіх змяненняў не адбываецца. Я. Д. Паліванаў у адной са сваіх работ прыводзіць цікавы прыклад такога разумення мовы: «Хіба мова змяняецца? — спытаў у мяне ў Японіі адзін

---

[34] Гл. *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 27.

[35] Гл.: *Леонтьев А. А.* Синхрония—диахрония, с. 52.

[36] Гл.: *Жирмунский В. М.* О синхронии и диахронии в языкознании, с. 47.

[37] *Ленін У. І.* Творы, т. 38, с. 243.

[38] Гл.: *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 5.

[39] А калі і заўважае, то кваліфікуе іх (калі ён не спецыяліст-моавед) як звычайныя памылкі ці адхіленні ад нормы і г. д. Гл.: *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 7—8.

далёкі ад лінгвістыкі, але зусім інтэлігентны японец.— Мы ж, калі вучымся гаварыць, проста завучваем тую мову, на якой гаворацъ нашы бацькі, а яны ў сваю чаргу засвоілі мову сваіх бацькоў і г. д. Нашай задачай у нашым дзяцінстве, як і задачай нашых бацькоў і іх продкаў у іх перыяд абучэння мове, было — навучыцца гаварыць менавіта так, як гавораць дарослыя, а ні ў якім разе не перайначваць іх словы». Адсюль мой субяседнік рабіў лагічны вывад, што «змяненняў у мове быццам і не павінна адбывацца» [40].

На самай справе, змяненні ў той ці іншай мове з цягам часу дасягаюць такіх памераў, што ў носьбітаў дадзенай мовы нявольна ўзнікае сумненне, ці адной і той жа мовай напісаны, напрыклад, адны і тыя ж тэксты розных гістарычных перыядаў, значна аддаленых храналагічна. Дастаткова, напрыклад, параўнаць тэкст твора «Слово о полку Игореве» (XII ст.) з купалаўскім перакладам яго на сучасную беларускую мову, каб пераканацца ў гэтым. Гэта, па сутнасці, поўнае пераўвасабленне «адной моўнай сістэмы ў другую» [41]. Значныя змяненні моўнай сістэмы розных гістарычных перыядаў развіцця мовы можна ўстанавіць і пры спробе перакласці, напрыклад, тэксты старабеларускай мовы на сучасную беларускую мову [42]. Мы і тут змаглі б выявіць агульнае і адметнае ў двух тэкстах адной і той жа мовы, але розных гістарычных перыядаў. Трэба заўважыць, што адрозненні паміж сістэмамі старабеларускай і сучаснай беларускай мовы будуць менш значнымі, чым, скажам, паміж сістэмамі ўсходнеславянскай мовы, якой напісана «Слово о полку Игореве», і сучаснай беларускай мовы. Яшчэ меншымі яны будуць пры супастаўленні, напрыклад, беларускай мовы XIX ст. і мовы савецкага перыяду.

Трэба мець на ўвазе, што працэс змянення закранае розныя звенні моўнай сістэмы не ў аднолькавай ступені. Лексічная падсістэма, як вядома, найбольш адчу-

---

[40] *Поливанов Е. Д.* Где лежат причины языковой эволюции? с. 75.

[41] Гл. падрабязней: *Поливанов Е. Д.* Назв. работа, с. 75.

[42] Цікавыя назіранні такога роду над тэкстам вядомай «Песни о Роланде» (XI ст.) і яе перакладам на сучасную французскую мову зрабіла Л. М. Скрэліна. Гл.: *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 5—6, 18.

вальная да гэтых змяненняў, што асабліва праяўляецца ў эпохі карэнных сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў грамадства. Таму адрозненні паміж моўнымі сістэмамі сумежных пакаленняў у гэтых выпадках датычацца пераважна лексіка-фразеалагічных змяненняў [43]. І гэта натуральна, таму што на кожным асобным сумежным этапе пераемнасці адбываюцца толькі частковыя, амаль неадчувальныя ці малаадчувальныя для носьбіта мовы змяненні моўнай сістэмы. Прыкметныя зрухі ў моўнай сістэме, якія прыводзяць з цягам часу да значнага пераўтварэння гэтай сістэмы, з'яўляюцца па сваёй сутнасці сумай непрыкметных і частковых змяненняў, што назапашваюцца на працягу жыцця некалькіх пакаленняў, некалькіх этапаў пераемнай перадачы мовы ад аднаго пакалення да другога [44].

Між тым мова бесперапынна абслугоўвае людзей сумежных пакаленняў, якія і не звяртаюць увагу на тыя змяненні, што адбываюцца ў ёй на кожным новым этапе. Такім чынам, з пункту гледжання назіральніка над фактамі якога-небудзь сінхроннага зрэзу гісторыі мовы ўзнікае свайго роду парадокс [45]: з аднаго боку, мова як быццам нерухомая, устойлівая, статычная, а з другога — у ёй адбываюцца дынамічныя працэсы [46], звычайна павольныя і непрыкметныя, якія можна выявіць толькі шляхам рэтраспектыўнага параўнальнага вывучэння сістэм мовы розных гістарычных перыядаў. Але ў парадоксе «мова змяняецца і застаецца сама сабой... — ключ да разумення прыроды мовы як адной з форм матэрыі» [47], праяўленне адной з рыс дыялектычнага матэрыялізму. «...У тым, што рэч застаецца той жа самай і ў той жа час бесперапынна змяняецца, што яна змяшчае ў сабе процілегласць паміж «устойлівасцю» і «зменай», заключаецца супярэчлівасць» [48].

Ва ўказанай супрацьлегласці мовы — аснова яе існавання і крыніца развіцця.

---

[43] Гл.: *Поливанов Е. Д.* Назв. работа, с. 79.

[44] Там жа.

[45] Гл.: *Косериу Э.* Синхрония, диахрония и история, с. 143.

[46] Гл.: *Супрун А. Е.* Динамический подход к синхронному изучению частей речи.— У кн.: Синхроническое изучение различных ярусов структуры языка. Алма-Ата, 1963, с. 23.

[47] *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 9.

[48] *Энгельс Фрыдрых.* Анты-Дзюрынг. Мінск, 1952, с. 306.

Магчымасць бесперапыннай перадачы мовы ад пакалення да пакалення дасягаецца статычна дамінуючым над дынамікай развіцця характарам «працэсаў моўнай пераемнасці», абумоўленым адсутнасцю ў прадстаўнікоў наступнага пакалення мэтанакіраванага імкнення змяніць мову сваіх папярэднікаў [49].

Такім чынам, паняцці статычнага і дынамічнага ў мове, з'яўляючыся адносна самастойнымі, дыялектычна аб'яднаны. Яны знаходзяцца ва ўзаемавыключнай, супрацьлеглай пазіцыі і ў той жа час з'яўляюцца ўзаемазвязанымі і ўзаемазалежнымі. Менавіта гэта дае магчымасць гаварыць, што ўстойлівасць, так неабходная мове для выканання ёю асноўнай функцыі быць сродкам зносін паміж людзьмі, уключае ў сябе не толькі статычна абумоўленую ўстойлівасць моўных элементаў, але і «знаходжанне і захоўванне дадзенага працэсу змянення» [50] ў мове. Такім чынам, «статыка і дынаміка з'яўляюцца неад'емнымі атрыбутамі мовы ў кожны перыяд яе гісторыі» [51]. У сувязі з гэтым паўстае пытанне, у якой жа суадноснасці знаходзяцца паняцці статыкі і дынамікі з паняццямі сінхраніі і дыяхраніі ў мове?

Як вядома, сасюраўскі тэзіс аб тым, што сінхранія — гэта статыка, дыяхранія — дынаміка, не падзяляўся ўжо І. А. Бадуэнам дэ Куртэнэ [52], а ўслед за ім прадстаўнікамі ПЛК, Я. Д. Паліванавым [53] і іншымі, якія схільны былі бачыць у сінхраніі наяўнасць элементаў эвалюцыі і тым самым не атаясамліваць сінхранію і статыку. Далейшыя даследаванні паказалі, што ўзаемаадносіны паміж статыкай і дынамікай, з аднаго боку, і сінхраніяй і дыяхраніяй, з другога, выглядаюць больш складанымі, чым гэта здавалася Ф. дэ Сасюру.

Сінхранію і дыяхранію, відаць, нельга прамалінейна проціпастаўляць адпаведна статыцы і дынаміцы хоць бы таму, што гэта рознапланавыя з'явы. «Паняцці ста-

---

[49] Гл.: *Поливанов Е. Д.* Назв. работа, с. 76.

[50] *Свидерский В. И.* О диалектике элементов и структуры в объективном мире и в познании. М., 1962, с. 9.

[51] *Климов Г. А.* Проблема разграничения синхронии и диахронии, с. 110.

[52] Гл.: *Бодуэн де Куртенэ И. А.* Избранные труды по общему языкознанию, т. 2, с. 186.

[53] Гл.: *Поливанов Е. Д.* Русская грамматика в сопоставлении с узбекским языком. Ташкент, 1933, с. 17.

тыкі і дынамікі адносяцца да *характарыстыкі мовы,* тады як паняцці сінхраніі і дыяхраніі адносяцца да *методыкі,* з дапамогай якой даецца гэта характарыстыка»[54]. Інакш кажучы, паняцці статыкі і дынамікі выступаюць як катэгорыі аб'ектыўнай рэальнасці мовы, а паняцці сінхраніі і дыяхраніі як катэгорыі методыкі лінгвістычнага даследавання[55].

Мы ўжо падкрэслівалі, што развіццё мовы і звязаныя з гэтым яе змяненні адбываюцца павольна і з пункту гледжання сучасніка гэтых змен амаль непрыкметна, што «спакой, спыненне, застой — з'ява, якая толькі здаецца; гэта прыватны выпадак руху пры ўмове мінімальных змяненняў. Статыка мовы ёсць толькі прыватны выпадак яе дынамікі»[56] як працэсу, абумоўленага многімі фактарамі. Таму «статычнасць», хоць гэта можа здацца парадаксальным, з'яўляецца не сінхранічным, а дыяхранічным фактам: каб выявіць яе, трэба разглядаць мову ў часовай перспектыве»[57]. Устанаўленне ж гэтай перспектывы, як і рэтраспектывы, для выяўлення таго, што ў мове з'яўляецца, хоць і адносна, устойлівым, статычным, а што нестабільным, дынамічным, магчыма толькі пасля вызначэння пэўных гістарычных меж ці этапаў, а інакш кажучы, сінхранічных зрэзаў. Менавіта кожны з гэтых зрэзаў і з'яўляецца той ступенькай, якая дае магчымасць носьбіту мовы ўспрымаць яе як аб'ектыўна існуючы сродак камунікацыі, а лінгвісту — устанавіць сістэмны характар фактаў мовы і даць рэтраспектыўную і перспектыўную ацэнку гэтых фактаў[58] і г. д. Абмежаванне сінхранічных зрэзаў у гісторыі мовы можа ажыццяўляцца рознымі прыёмамі. Гэтыя прыёмы могуць быць штучнымі, суб'ектыўнымі, і могуць грунтавацца на пэўных аб'ектыўных фактарах,

---

[54] *Скрелина Л. М.* Назв. работа, с. 14.

[55] Гл.: *Косериу Э.* Назв. работа, с. 154—155; *Звегинцев В. А.* Очерки по общему языкознанию. М., 1962, с. 182—184. Трэба мець на ўвазе, што тэрміны «сінхранія» і «дыяхранія», акрамя метадычнай інтэрпрэтацыі, маюць іншыя аспекты ўжывання. Гл. аб гэтым падрабязней: *Климов Г. А.* Проблема разграничения синхронии и диахронии, с. 112—113.

[56] *Бодуэн де Куртенэ И. А.* Избранные труды по общему языкознанию, т. 1, с. 349.

[57] *Косериу Э.* Назв. работа, с. 322.

[58] Гл.: *Ярцева В. Н.* Диахроническое изучение системы языка, с. 39.

якія садзейнічаюць аб'ектыўнай градацыі розных станаў мовы, вызваляючы даследчыка ад суб'ектывізму.

Пры штучных прыёмах устанаўлення сінхранічных зрэзаў у гісторыі мовы верхняя і ніжняя часавыя межы будуць заўсёды зыбкімі, рухомымі, суб'ектыўна абумоўленымі мэтамі і задачамі даследчыка, таму тэмпаральны дыяпазон ахопу даследуемага матэрыялу можа быць вельмі вузкім і вельмі шырокім. Так, напрыклад, ён мог бы ахопліваць, скажам, стагоддзе (зрэзы XIV, XV, XVI, XVII, XVIII), некалькі стагоддзяў (стан мовы XIV—XV, XVI—XVIII і г. д.) і вужэй (беларуская мова савецкага часу ці нават мова 20—30-х, 30—70-х гадоў нашага стагоддзя). Такія прыёмы сінхранічных градацый гісторыі беларускай мовы і сучаснага яе стану, відаць, не выклічуць пярэчанняў пры ўмове, што даследчык зможа ўбачыць у працэсе вывучэння мовы ўстаноўленага сінхранічнага зрэзу «рух у нерухомым» (Э. Касэрыу) і нерухомае ў руху, гэта значыць аб'ектыўна апісаць сістэму мовы дадзенага зрэзу.

Што датычыцца аб'ектыўных фактараў размежавання сінхранічных зрэзаў у гісторыі мовы, то яны абумоўлены ў першую чаргу гісторыяй народа, носьбіта дадзенай мовы. Так, напрыклад, моўная сітуацыя, якая склалася ў Беларусі на працягу стагоддзяў у адпаведнасці з гісторыяй беларускага народа, аб'ектыўна вызначыла і ўстанаўленне наступных асноўных перыядаў ці сінхранічных зрэзаў: старабеларуская мова (XIV—XVIII) ст.ст.), беларуская мова XIX — пачатку XX ст. і беларуская мова савецкага часу[59]. Пры аб'ектыўнай абумоўленасці ўстанаўлення зрэзаў (узнікаюць больш спрыяльныя ўмовы для плённага вывучэння таго ці іншага сінхранічнага стану мовы, раскрыцця яе ўнутраных структурных асаблівасцей, выяўлення заканамернасцей экстралінгвістычнага ўплыву, дынамікі функцыяніравання моўных фактаў і г. д., паколькі гістарычна акрэсленыя храналагічныя межы зрэзаў ствараюць як бы замкнёны свайго роду самастойны моўны арэал.

Генетычна сінхранічны аналіз мовы заўсёды павінен папярэднічаць яе дыяхранічнаму апісанню. І гэта зра-

---

[59] Гл.: *Жураўскі А. І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1. Мінск, 1967; *Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 2. Мінск, 1968.

2. Зак. 1368

зумела, паколькі абавязковай перадумовай дыяхранічнага вывучэння з'яўляецца наяўнасць як мінімум двух паслядоўных храналагічна звязаных сінхранічных зрэзаў [60], супастаўленне якіх і дае магчымасць выявіць прычыны зрухаў у моўнай сістэме ці нават яе перабудовы, устанавіць месца таго ці іншага сінхранічнага стану мовы ў агульнай плыні яе развіцця і г. д. У гэтым плане дыяхранія цалкам залежыць ад сінхраніі. Нягледзячы на гэта, і сінхранічны і дыяхранічны падыходы да вывучэння фактаў мовы з'яўляюцца адносна самастойнымі прыёмамі, у кожнага з якіх свае мэты і задачы. Пры дыяхранічным аналізе, напрыклад, мэта заключаецца ў тым, каб паказаць дынаміку сістэмных змяненняў на фоне статычных з'яў, з якімі тое, што падлягае змяненню, знаходзіцца ў дыялектычнай сувязі, тады як задачай сінхранічнага падыходу з'яўляецца, наадварот, вычарпальнае апісанне статыкі мовы пры абавязковым указанні на наяўнасць у мове элементаў дынамікі [61].

Вышэй гаварылася аб сінхранічным і дыяхранічным вывучэнні сістэмы мовы ў цэлым. Але сістэма ўсякай мовы, як вядома, складаецца з іерархічна звязаных падсістэм (фаналагічнай, марфалагічнай, словаўтваральнай і г. д.), кожная з якіх у сваю чаргу характарызуецца складанай структурай і ў сувязі з гэтым мае таксама многаступеньчатую іерархію падсістэм больш высокага і больш нізкага парадкаў [62]. Напрыклад, словаўтваральная падсістэма беларускай мовы як падсістэма першага парадку ўключае ў сябе словаўтварэнне назоўнікаў — падсістэму другога парадку, а словаўтварэнне назоўнікаў — словаўтварэнне назоўнікаў са значэннем асобы падсістэму трэцяга парадку, у апошняй вычляняецца падсістэма чацвёртага парадку — словаўтварэнне жаночых асабовых намінацый і г. д. Кожная з гэтых іерархій у прынцыпе дапускае вычарпальнае сінхранічнае апісанне і плённае дыяхранічнае даследаванне, выяўленне статыкі і дынамікі і г. д., паколькі ў межах кожнай з падсістэм, якога б яна ні была рангу, свае структурныя эле-

[60] Гл.: *Климов Г. А.* Проблема разграничения синхронии и диахронии, с. 116.

[61] Гл.: *Кубрякова Е. С.* О понятиях синхронии и диахронии, с. 119.

[62] Гл.: *Андреев Н. Д.* Полихрония и таутохрония.— У кн.: О соотношении синхронного анализа и исторического изучения языков. М., 1960, с. 32.

менты, якія знаходзяцца ў складаных суадносінах і ўзаемасувузі, гэта значыць маюць сістэмны характар. Але такое адносна ізаляванае даследаванне асобных падсістэм розных рангаў павінна з неабходнасцю ўспрымацца як адзін з момантаў вывучэння агульнай сістэмы той ці іншай мовы ў цэлым.

## Сінхранія і дыяхранія ў словаўтварэнні

Агульныя палажэнні сінхраніі і дыяхраніі, статыкі і дынамікі, якія аднолькава распаўсюджваюцца на вывучэнне ўсіх ярусаў мовы і яе падсістэм розных рангаў, неаднолькава праламляюцца пры даследаванні кожнага канкрэтнага яруса ці падсістэмы. Усё залежыць ад спецыфікі і асаблівасцей вывучаемага аб'екта[63]. У гэтых адносінах паказальна словаўтваральная падсістэма той ці іншай мовы, якая характарызуецца выключнай рухомасцю ў часе і таму сваімі адметнымі рысамі.

У словаўтварэнні, мабыць, як ні ў якой іншай галіне мовазнаўства, складана пераплятаюцца ўчарашняе і сенняшняе, норма і адхіленні ад нормы, рэгулярнае і нерэгулярнае, факты мовы і маўлення, прадуктыўнае і непрадуктыўнае, словаўтваральныя архаізмы і адзінкі, якія існуюць у мове як вынік словаўтваральных працэсаў папярэдніх гістарычных перыядаў і якія захоўваюць празрыстасць словаўтваральнай структуры. Гэта, з аднаго боку. А з другога — тут знаходзяцца словы, утвораныя па мадэлях мінулага ці новых мадэлях, літаральна на вачах сучасніка[64]. Усё гэта стварае вялікія цяжкасці ў размежаванні сфер прымянення сінхранічнага і дыяхранічнага прынцыпаў апісання фактаў словаўтварэння, устанаўленні аб'ёму матэрыялу, які належыць вывучаць з пункту гледжання сінхраніі ці дыяхраніі. У сувязі з гэтым узнікае даволі складаная праблема адасаблення сінхранічнай сістэмы ад дыяхранічнай у словаўтварэнні. Асабліва цяжкім з'яўляецца вызначэнне стану сінхраніі. Як сведчыць дыскусія, якая праводзілася ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў на старонках

---

[63] Гл.: *Тихонов А. Н.* Синхрония и диахрония в словообразовании.— У кн.: Актуальные проблемы русского словообразования, т. 1. Самарканд, 1972, с. 360.

[64] Гл.: *Кубрякова Е. С.* Словообразование.— У кн.: Общее языкознание. Внутренняя структура языка. М., 1972, с. 345.

польскага часопіса «Poradnik Językowy»[65] і вынікі шэрага даследаванняў апошняга дзесяцігоддзя, пакуль што «цэласнай і ўсеабдымнай агульнай тэорыі сінхроннага словаўтварэння, якую можна было б скарыстаць цалкам, не існуе»[66]. Паводле вызначэння сінхроннага словаўтварэння, устанаўлення яго межаў выказваюцца самыя супярэчлівыя пункты гледжання, ад безапеляцыйнага прызнання сінхроннага словаўтварэння да адмаўлення ці, дакладней, абмежавання яго толькі вывучэннем функцыянальнага боку словаўтваральных мадэлей у мове таго ці іншага этапа гісторыі[67]. Трэба дадаць, што ў гэтым выпадку, як правіла, маецца на ўвазе заўсёды вызначэнне сінхроннага словаўтварэння на сучасным этапе развіцця той ці іншай мовы і амаль нічога не гаворыцца аб сінхронных зрэзах у гісторыі безупынных словаўтваральных працэсаў. А між тым гэта галіна даследавання мае не меншую, а нават большую значнасць, паколькі тут вывучэнне сінхранічных зрэзаў дае магчымасць убачыць дыяхранічную перспектыву руху як словаўтваральнай падсістэмы ў цэлым, так і яе падсістэм ніжэйшых рангаў, у напрамку да іх сучаснага стану.

Не паглыбляючыся ў дыскусійны аспект указанай вышэй праблемы, адзначым, што ўстанаўленне межаў сінхроннай сістэмы словаўтварэння таго ці іншага этапа гістарычнага развіцця мовы можа быць у многім абумоўлена мэтамі і задачамі даследавання. Але межы могуць быць вызначаны і ў адпаведнасці з аб'ектыўнымі фактарамі размежавання сінхранічных зрэзаў у гі-

---

[65] Гл. агляд матэрыялаў дыскусіі: *Волоцкая З. М.* К проблеме синхронного словообразования.— У кн.: Лингвистические исследования по общей и славянской типологии. М., 1966; *Кубрякова Е. С.* Словообразование, с. 379.

[66] *Урбутис В.* Словообразование имен существительных в современном литовском языке. Автореф. докт. дис. Вильнюс, 1971, с. 3.

[67] Падрабязней аб гэтым гл.: *Dokulil M.* K zakladnim otarkam tvoření slov. O vědeckém poznáni soudobých jazyků. Praha, 1958; *Grzegorczykowa R., Puzynina J.* Z zagadnień słowotwórstwa synchronicznego.— «Poradnik Językowy», 1959, zesz. 6—7 (тут жа змешчан агляд работ польскіх, чэшскіх і савецкіх вучоных, прысвечаных пытанням сінхроннага словаўтварэння); *Bugusławski A.* O sprawe synchronii i diachronii w analizie morfołogicznej.—«Poradnik Językowy», 1960, zesz. 7; *Кубрякова Е. С.* Словообразование, с. 379—384; *Земская Е. А.* Современный русский язык. Словообразование. М., 1973, с. 6—10; *Трубачев О. Н.* Этимологические исследования и лексическая семантика, с. 149, 152, 154—156.

сторыі мовы наогул. У апошнім выпадку даследчык аказваецца ў больш спрыяльных умовах, паколькі атрымоўвае шырокія магчымасці не толькі для выяўлення сістэмнага характару словаўтварэння ў цэлым ці кожнай з яго падсістэм у асобку на тым ці іншым сінхранічным зрэзе гісторыі мовы, але і для ўстанаўлення экстралінгвістычнай абумоўленасці многіх словаўтваральных фактаў. У гэтым нас пераконвае вывучэнне словаўтваральнай падсістэмы жаночых асабовых намінацый беларускай мовы на ўсім працягу яе гісторыі.

Так, устанаўленне сінхранічных зрэзаў (старабеларуская мова, мова XIX — пачатку XX ст., беларуская мова савецкага часу) у словаўтваральным працэсе фемінінных асабовых намінацый дазваляе выявіць у падсістэме фемінінатываў кожнага з сінхранічных зрэзаў, акрамя своеасаблівасцей функцыяніравання гэтых назваў у сістэмных узаемаадносінах паміж сабой і іншымі катэгорыямі слоў, таксама статыку і дынаміку, і тым самым убачыць перспектыву руху вывучаемай з'явы ад аднаго сінхранічнага зрэзу да другога[68].

Напрыклад, да статычнага на сінхранічным зрэзе словаўтваральнай падсістэмы фемінінных намінацый XIV — XVIII ст.ст. трэба аднесці, на нашу думку, усё тое, што было атрымана ў спадчыну ад папярэдніх моўных перыядаў (агульнаўсходнеславянскага, агульнаславянскага і г. д.) і працягвала функцыяніраваць у мове старабеларускага перыяду, выконваючы сваё прызначэнне. Да гэтага могуць быць аднесены, у прыватнасці, фемінінныя назвы, якія ўзніклі ў папярэднія моўныя перыяды, але якія працягвалі захоўваць у старабеларускай мове празрыстасць словаўтваральнай структуры дзякуючы паралельнаму ўжыванню слоў, ад асноў якіх дадзеныя фемінінатывы ўтварыліся ў свой час (маюцца на ўвазе пары слоў тыпу *князь — княгиня, бояринъ — бояриня, царь — царица, попъ — попадья* і інш.). Як элементы статыкі выступаюць і старыя словы, асновы якіх пачалі ўтвараць жаночыя назвы са значэннем асобы, толькі ў старабеларускай мове. Да з'яў статычнага ха-

[68] Зразумела, пры вывучэнні фактаў словаўтварэння (як і іншых моўных з'яў) на тым ці іншым гістарычным этапе развіцця мовы даследчык павінен глядзець на гэтыя факты як сучаснік таго гістарычнага перыяду. Толькі пры такім падыходзе вынікі даследавання будуць набліжацца да большай ступені верагоднасці.

рактару ў словаўтваральнай падсістэме фемінатываў старабеларускай мовы адносіцца і многае ад словаўтваральнага інвентару, напрыклад, агульнаславянскія суфіксы і прэфіксы, дастарабеларускія словаўтваральныя мадэлі, працягванне дзейнасці якіх часта падтрымлівалася менавіта празрыстасцю словаўтваральнай структуры шэрага фемінатываў, атрыманых старабеларускай мовай ад папярэдніх гістарычных перыядаў і г. д. (Падрабязны аналіз гэтага праводзіцца ў наступным раздзеле нашага даследавання.)

Утварэнне ў старабеларускай мове новых слоў па мадэлях папярэдніх гістарычных перыядаў, уцягванне ў працэс словаўтварэння новых асноў, якія да гэтага не ўдзельнічалі ва ўтварэнні фемінінных асабовых намінацый, хоць і існавалі ў складзе іншых слоў, з'яўленне новых мадэлей і варыянтаў суфіксаў у выніку працэсаў перараскладання, хістанні ў спалучэннях розных суфіксаў з аднымі і тымі ж асновамі ці аднолькавых суфіксаў з рознымі па структуры, але дублетнымі па семантычнаму зместу асновамі, і звязаная з гэтым разгалінаваная словаўтваральная сінанімія фемінінных назваў з'яўляюцца ўжо дынамікай, якая можа быць зафіксавана на кожным сінхранічным зрэзе функцыяніруючай падсістэмы фемінатываў.

У тым, што па старых мадэлях (статыка) узнікаюць у старабеларускай мове новыя словы (дынаміка) як ад асноў слоў, атрыманых у спадчыну ад папярэдніх гістарычных перыядаў (статыка), так і ад асноў слоў, уласна-беларускіх па паходжанню (дынаміка), у тым, што на базе агульнаславянскіх суфіксаў (статыка), якія функцыяніруюць у старабеларускай мове, фарміруюцца варыянты суфіксаў (дынаміка) і г. д., менавіта і праяўляецца складаная перапляценасць статыкі і дынамікі ў словаўтваральнай падсістэме жаночых намінацый указанага сінхранічнага зрэзу.

Калі б мы працягвалі аналіз стану словаўтваральнай падсістэмы фемінінных назваў наступнага сінхранічнага зрэзу (XIX — пачатак XX ст.), мы і там устанавілі б статыку і дынаміку. Але паняцце статыкі ўключала б у дадзеным выпадку, акрамя таго статычнага, што перайшло ў спадчыну ад старабеларускай мовы, таксама і тое, што лічылася ў старабеларускай мове дынамічным, але набыло ў мове разглядаемага сін-

хранічнага зрэзу рысы статыкі. У сваю чаргу, у словаўтваральнай падсістэме фемінінатываў XIX — пачатку XX ст. нельга не заўважыць і новых элементаў дынамікі, уласцівых стану мовы аналізуемага перыяду.

Супастаўленне ж вынікаў даследавання фемінінатываў розных сінхронных зрэзаў мовы (у дадзеным выпадку двух) дае магчымасць убачыць у асаблівасцях сінхранічнага зрэзу XIX — пачатку XX ст. дыяхранічную перспектыву развіцця словаўтваральнай падсістэмы жаночых асабовых намінацый. А гэтыя асаблівасці датычацца наступнага[69]:

1) непасрэдна складу фемінінных асабовых назваў, што праяўляецца ў наяўнасці слоў, якія перайшлі ў беларускую мову XIX — пачатку XX ст. са старабеларускай мовы, і слоў, якія ўтварыліся ў гэты перыяд моўнага развіцця;

2) зрухаў у сістэме суфіксаў, якія прымалі ўдзел ва ўтварэнні аналізуемых намінацый, што адлюстравалася, па-першае, у нівеліроўцы сваіх словаўтваральных функцый шэрагам дэрыватэм (-*енк*-а, -*в*-а, -*ев*-а (-*ов*-а), -*ех*-а, -*чизн*-а, -*щизн*-а, -*чин*-а (-*чын*-а), -*ис*-а (-*исс*-а), -*ѣл'*-а, -*ен*-а, -*ин*-ая (-*ын*-ая), -*іј*-а), па-другое, ва ўцягванні ў словаўтваральны працэс фемінінатываў новых суфіксаў (-*чанк*-а, -*чинк*-а, -*овинк*-а, -*алк*-а, -*ашк*-а, -*ечк*-а, -*ерк*-а, -*ичк*-а, -*овк*-а (-*аўк*-а), -*ениц*-а, -*аниц*-а, -*овщиц*-а, -*ених*-а, -*'л*-а, -*л'л'*-а, -*ц'*-а, -*аг*-а (-*яг*-а) і інш.);

3) пэўнай трансфармацыі словаўтваральных тыпаў, абумоўленай характарам утвараючых асноў, якія функцыяніравалі пры ўтварэнні жаночых асабовых назваў у беларускай мове XIX — пачатку XX ст. Жаночыя асабовыя назоўнікі ўтвараліся ў дадзены перыяд не толькі ад асноў, якія прадстаўляюць сабой структурныя тыпы старабеларускай мовы, але і ад асноў новых структурных тыпаў, якія да гэтага не ўдзельнічалі ў словаўтварэнні. Адбылася і «пераарыентацыя» шэрага асноў. Некаторыя асновы слоў старабеларускай мовы (тыпу *пасербица, падчерица* і інш.) сталі спалучац-

---

[69] Падрабязней аб гэтым гл.: *Паўленка М. А.* Жаночыя асабовыя намінацыі ў беларускай мове XIX—пачатку XX ст.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна». Сер. 4, 1975, № 2, с. 29—33; *Павленко Н. А.* К вопросу о становлении словообразовательной системы фемининных номинаций.— У кн.: Актуальные проблемы русского словообразования, т. 2. Ташкент, 1976, с. 43—48.

ца з іншымі суфіксамі ў мове XIX — пачатку XX ст. *(пасербка, падчарка)*;

4) некаторых семантычных рысаў фемінінных асабовых намінацый беларускай мовы гэтага перыяду;

5) колькасных і якасных змен у сферы аднакарэннай рознаасноўнай і аднаасноўнай сінаніміі, што праявілася ў пашырэнні кола дэрыватэм, якія ўтваралі аднакарэнныя рознаасноўныя сінонімы, ва ўзнікненні новых камбінацый проціпастаўленняў рознаасноўных сінонімаў, у амаль поўным аднаўленні аднаасноўных сінанімічных радоў, у згасанні сінонімаўтваральных функцый у шэрагу фемінінных суфіксаў і г. д.

У такім жа плане могуць быць супастаўлены словаўтваральныя падсістэмы фемінінатываў беларускай мовы XIX — пачатку XX ст. і мовы савецкага перыяду. А ў выніку атрымаецца цэласная карціна гістарычнага развіцця і фарміравання жаночых асабовых намінацый беларускай мовы.

Праведзенае супастаўленне сведчыць аб тым, што дыяхранічны рух словаўтваральнай падсістэмы фемінінных асабовых назваў можа быць выяўлены толькі пры строгім уліку дыялектычнай узаемасувязі статыкі і дынамікі на кожным з сінхранічных зрэзаў агульнага працэсу станаўлення фемінінатываў. Яно сведчыць таксама і аб шырокіх магчымасцях выкарыстоўваемай методыкі даследавання.

## ЛЕКСІКА-СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ЖАНОЧЫХ АСАБОВЫХ НАМІНАЦЫЙ

Назоўнікі са значэннем асобы займаюць значнае месца ў беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. Нягледзячы на гэта, жаночыя асабовыя назвы складаюць сярод іх невялікі працэнт. Можна меркаваць, што ў жывой народнай мове разглядаемага перыяду ўказаная катэгорыя слоў была прадстаўлена больш шырока, але гэта не знайшло адлюстравання ў пісьмовых помніках, што ў значнай ступені было прадвызначана сацыяльна-грамадскім становішчам жанчыны таго часу, яе роляй у жыцці грамадства.

Тыя жаночыя асабовыя намінацыі, якія зафіксава-

ны ў пісьмовых помніках XIV—XVIII ст.ст., уяўляюць па свайму паходжанню стракатую карціну. Частка іх была атрымана ў спадчыну праз старажытнарускую мову ад агульнаславянскага перыяду: *мать*[1], *матерь, жона, дочь, дочерь, тетя, теща, баба, бабка, мачеха, сестра, удова, свекровь* і інш. Гэта звычайна тэрміны роднасці і сваяцтва[2].

Другую частку складаюць словы, якія мелі «прыкладна аднолькавую сферу ўжывання не толькі на Беларусі, але і на большай частцы ўсходнеславянскай тэрыторыі»[3], гэта значыць словы агульнаўсходнеславянскія па свайму паходжанню: *кнегиня, княжна, бояриня, королева, законница, облюбеница, роботница, ключница, пасербица, царица, попадья, поповна, дѣвчина* і інш.

Трэцяя частка назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу ўзнікла на ўласна-беларускай моўнай глебе. Утварэнне гэтых слоў адбывалася як па мадэлях, атрыманых у спадчыну ад агульнаўсходнеславянскага перыяду (іх пераважная большасць), так і па мадэлях, якія ўзніклі непасрэдна ў старабеларускай мове (*воеводиная, воеводянка, братанка, господарына, корчмитка, корчмарка, небожчица, шинкарка, папежничка, подсудковна, выволанка, господаровна, рымаровая, кравцовая, арендарка, добродейка, фундаторка, пивничиная, непрыятелка, кухмистровая, родичка, старостянка* і інш.). Многія з слоў такога тыпу з'яўляюцца агульнымі для беларускай і ўкраінскай моў, што, відаць, было абумоўлена, па-першае, роднасцю гэтых моў, а па-другое, своеасаблівасцю гістарычнага развіцця літаратурна-пісьмовай мовы беларусаў і ўкраінцаў на працягу XIV—XVIII ст.ст.[4]

Групу слоў са значэннем асобы жаночага полу складаюць запазычанні з другіх моў, у прыватнасці з польскай, як вынік складанага ўзаемадзеяння з беларускай мовай на працягу стагоддзяў: *пани, панена, па-*

---

[1] Арфаграфія выкарыстаных крыніц значна спрошчана. Непаслядоўна праведзена спрашчэнне толькі ў раздзеле «Фанетыка-арфаграфічныя варыянты».

[2] *Филин Ф. П.* О терминах родства и родственных отношений в древнерусском языке.— У кн.: Язык и мышление, т. 11. М.—Л., 1948.

[3] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970, с. 52.

[4] Гл.: *Анічэнка У. В.* Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мінск, 1969, с. 273.

*ненка, малжонка, шляхтянка, швакгерка, швагрыня, ойчицка, научителька, вшетечница, небожка* і інш.

Зразумела, што многія словы агульнаславянскага і старажытнарускага паходжання, як і словы з іншых моў, падвергліся пэўным фанетычным зменам у старабеларускай мове, падпарадкаваліся яе граматычнай сістэме.

Паводле разнастайных лексіка-семантычных прымет жаночыя асабовыя намінацыі старабеларускай мовы аб'ядноўваюцца ў наступныя групы:

1) імёны, якія з'яўляюцца назвамі жонак па роду дзейнасці мужа: *каштелянка, султанка, княжничка, воеводянка, старостянка, подканцлеранка, лѣсничанка, королица, подкомориная, подчашиная (подчашина), хоружиная (хоружина), воеводиная, конюшиная, кнегиня, государыня, господарыня, господыня, ганчарыха, попадья, канцлерша, казнодѣиная, подскарбиная, ловчиная, моляровая, золотаровая, тивуновая, королевая, подключая, конюшая, войская, енераловая, городничая, ковалевая, гетмановая* і інш.;

2) назвы жанчын па іх прыналежнасці да таго ці іншага сацыяльнага асяроддзя, групоўкі, па іх грамадскаму становішчу: *салдатка, полонянка, наймитка, наймичка, мещанка, землянъка, боярка, бояриня, выволанка, подданка, приведенка, приданка (нявольная), шляхтянка, невольница, нешляхетница, раба, рабыня, белоголовая, свободная* і інш.;

3) словы, якія называюць жанчыну па роду яе дзейнасці, заняткаў, пасадзе і да т. п.: *акторка, мамка, игуменья, шинкарка, кухарка, пекарка, корчмарка, арендарка, дворничка, корчмитка, рыкунья, ворожбитка, ворожка, ворожея, пастушка, швачка, прачка, служебница, ключница, старица, стодольница, схимница, роботница, челядница, чаровница, черница, шапочница, тонкопрядница, скоморошница, учительница* і інш.; У тым ліку і назвы жанчын па іх амаральных паводзінах: *блудница, зводница (пляткарка), двоесловница, вшетечница, чужоложница, наложница, подложница, вложница, любодейка, лободѣиница* і інш.;

4) намінацыі са значэннем кіруючай асобы: *начальница, монархиня, старшая, законничка, помощница;*

5) назоўнікі, якія абазначаюць жаночых асоб паводле іх:

а) адносін да другіх людзей: *таварышка, суседка,*

*приятелька, непріятелька, поплечница, суперница, угодница, облюбеница, мужелюбица, чадолюбица, любая, подруга, врагиня;*

б) унутраных якасцей жанчыны як асобы: *прелесница, праведница, грѣшница, обѣтница, хорошая, прекрасная, щасливая, плюгавая, добродѣйка, душегубица, злосчастница, пророкиня, первомученица, лотрыня, единомужица, злодейница* і інш.;

в) рэлігійнай прыналежнасці, адносін да той ці іншай рэлігіі: *папежница, папежиха, богомолица, идолопоклонница, поганка, геретичка, христородица* і інш.;

г) узроставага, фізіялагічнага і фізічнага стану: *старушка, дѣвка, дѣвица, девчына, женщина, женчызна, беременная, бездѣткиня, девственница, небожка, небожчица;*

6) назвы жанчын са значэннем роднасці, сваяцтва, сямейных адносин і да т. п.: *матка бабка, внучка, тетъка, невѣстка, жонка, дочка, швакгерка, патронка, родителька, сестрынка, прабабка, мужатка, пасербица, вдовица, братовая, молодица, падчерица, ошлюбеница, пущеница* і інш. Да гэтай жа групы прымыкаюць назвы дочак паводле прафесіі, роду дзейнасці, сацыяльнага становішча бацькі *(панна, царевна, королевна, поповна, писаровна, каштеляновна, подсудковна, маршалковна, стольниковна, княжна, чашъниковна, господаровна)*, а таксама назвы дочак родзічаў *(сестрична* 'дачка сястры', *братанна* 'пляменніца, дачка брата', *дядковна* 'дачка дзядзькі' і інш.);

7) фемінінныя Nomina agentis са значэннем нацыянальнасці ці наогул іншамоўнай прыналежнасці: *московка, татарка, болгариня, грекына, чехына, египтянина, цыганка, моавитянка, аммонитянка, сіріанитянка, ариянка, евреянка, болгарка, идумейтянка, израитянка, иноплеменница, мадіанитка, муринка, немкиня, филистинка, хеттѣянка, чужоземка, ляховица, римянка* і інш.

Зразумела, што межы паасобных разрадаў слоў у нейкай ступені ўмоўныя, паколькі многія намінацыі маглі адначасова ўваходзіць у некалькі лексіка-семантычных груп. Гэта абумоўлена, па-першае, полісемантычнасцю многіх жаночых назваў, а. па-другое, семантычнай невыразнасцю некаторых намінацый. Напрыклад, назоўнікі тыпу *кнегиня, королица, фундаторка,*

*господарыня, государыня* ўваходзяць у разрад слоў, якія называюць жанчын па роду дзейнасці мужа. Але паколькі дадзеныя словы былі адначасова і андранімічнымі назвамі, гэта значыць называлі жанчыну па яе пасадзе ці сацыяльнай прыналежнасці, яны маглі быць залічаны ў другі і трэці лексіка-семантычныя разрады. У той жа час словы тыпу *арендарка, корчмарка, старица, схимница, черница,* уключаныя намі ў разрад назваў жанчын па роду іх дзейнасці, маглі быць змешчаны: *арендарка, корчмарка* — у першую лексіка-семантычную групу, а *старица, схимница, черница* — і ў першую і ў чацвёртую (падгрупа назваў жанчын па іх рэлігійнай прыналежнасці, адносінах да той ці іншай рэлігіі).

Пэўная цяжкасць існуе і ў размежаванні паасобных намінацый са значэннем рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці (*хеттѣянка, мадіанитка, идумейтянка* і інш.). Семантычная невыразнасць намінацый падобнай катэгорыі была абумоўлена тым, што ў старабеларускай мове нацыянальная прыналежнасць, відаць, успрымалася ў першую чаргу як паказчык іншай (неправаслаўнай) рэлігіі, а потым ужо як з'ява этнічная.

Што датычыцца словаўтваральнай структуры жаночых асабовых намінацый, то яны ў пераважнай большасці з'яўляюцца вытворнымі. Утварэнне іх адбывалася, як правіла, ад асноў назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу пры дапамозе суфіксаў. Колькасць фемінатываў, якія ўтвараліся ад асноў назоўнікаў іншых разрадаў ці ад асноў другіх часцін мовы, нязначная.

У ролі дэрыватэм, якія ўтвараюць фемінінныя намінацыі, выступалі суфіксы -*к*-а, -*анк*-а (-*янк*-а), -*инк*-а, -*енк*-а, -*ушк*-а, -*иц*-а, -*ниц*-а (-*лниц*-а), -*лиц*-а, -*овиц*-*а*, -*ин*-*а* (-*ын*-*а*), -*ин'*-*а* (-*ын'а*), -*н*-*а* (-*овн*-*а*, -*евн*-*а*), -*их*-а (-*ых*-а), -*чих*-а (-*чых*-а), -*j*-а (-*іj*-а), -*еj*-а, -*ад'j*-а, -*в*-а, -*ев*-а (-*ов*-а), -*ех*-а (-*ох*-а, -*ах*-а), -*ухн*-а, -*чизн*-а (-*щызн*-*а*), -*ис*-*а* (-*исс*-*а*), -*ас*-*а*, -*ѣл'*-*а*, -*ен*-*а*, -*ш*-*а*, -*чин*-а (-*чын*-а), -*щин*-а (-*шчын*-а), *овь*, -*ерь*, -*ин*-ая (-*ын*-ая), -*ов*-ая (-*ев*-ая). Найбольшай прадуктыўнасцю сярод іх характарызуюцца афіксы -*к*-*а*, -*иц*-*а*, -*ниц*-а.

## Назоўнікі на -*к*-а

Намінацыі на -*к*-а са значэннем асобы жаночага полу найбольш пашыраная катэгорыя слоў сярод жаночых асабовых назваў у беларускай мове XIV—XVIII ст.ст.[5]. Разнастайныя па свайму паходжанню і лексіка-семантычных прыметах, яны ўтвараліся ад розных па структуры іменных асноў. У спалучэнне з фармантам -*к*-а ўступалі, як правіла, асновы вытворныя, невытворныя і асновы складаных назоўнікаў. Назвы на -*к*-а ад асноў іншых часцін мовы нешматлікія.

### Назоўнікі на -*к*-а ад вытворных назоўнікавых асноў

Назіранні над словаўтваральнымі фактамі беларускай мовы XIV—XVIII ст.ст. паказваюць, што суфікс -*к*-а спалучаўся з даволі шырокім колам суфігіраваных асноў асабовых назоўнікаў. У адпаведнасці з гэтым устанаўліваюцца наступныя мадэлі словаўтварэння намінацый на -*к*-а:

1. «Аснова назоўніка з суфіксам -*аръ*[6] + -*к*-а»: шинкаръ — *шинкарка* (АЮЗР, I, 57), кухаръ — *кухарка* (АВК,, XVIII, 57), пекаръ — *пекарка* (АВК,, I, 158), корчмаръ — *корчмарка* (АВК, XXI, 414), арендаръ — *арендарка* (АВК, XXVIII, 273), шипаръ — *шипарка* (АВК, XIV, 650), аптекаръ — *дочки тежъ ваши учит собѣ аптекарки, кухарки и пекарки* (Біблія, 311), владаръ — ...*прислала неякась Пани которая была владарка* дому... (Пралог, II, 646б), поваръ — *поварка* (ИЮМ, IX, 188), млынаръ — ...дали *млынарце* Яновой... (ИЮМ, III, 98), звѣздарь — *звѣздарка* (Сівіла, 2), лѣкарь — *лѣкарка* (Бельск., 363).

2. «Аснова назоўніка з суфіксам -*тель*[7] + -*к*-а»:

---

[5] Тут не аналізуюцца антрапанімічныя жаночыя найменні тыпу *Ягнетка, Варка, Васка* і г. д.

[6] Вывучэнню назоўнікаў на -*ар* (-*яр*) прысвечана грунтоўная праца П. В. Вярхова «Назоўнікі на -*ар* (-*яр*) у беларускай мове» (Мінск, 1970).

[7] Большасць асабовых назоўнікаў мужчынскага роду на -*тель*, як і вытворныя ад іх фемінінатывы, мае кніжны характар. Такая ж карціна назіралася і ў старажытнарускай мове. Гл. аб гэтым: *Шахматов А. А.* Очерк современного русского литературного языка. М., 1941, с. 97; *Булаховский Л. А.* Курс русского литературного языка.

приятель — *приятелька* (АВК, XXII, 20), родитель — *родителька* (АЗР, IV, 528), взгардитель — *...взгардителкою была великож* (Зб. 255, 318), *...зъ рукъ того непріятеля нашого...* (АВК, XI, 44) — *...до единомислной нѣколи подруги своей, а теперъ непріятелки...* (РИБ, IV, 803)[8], потешитель — *потешителка* (Зб. 259, 476), гонитель — *гонителка* (Зб. 752, 305[б]), буритель — *бурителька* (Зб. 361, 76[б]), сказитель — *сказителка* (Мак., 401).

3. «Аснова назоўніка з суфіксам *-икъ* (*-никъ*, *-лникъ*) + *-к-а*»: дворникъ — *дворничка Ѳилялетова маетъ волный голосъ на соборе* (РИБ, (XIX, 799), участникъ — *...ей милости паней Витепъской, которая с тым Андреемъ Матвеевичомъ в той справе участничкою ест* (АВК, XXXII, 76), заставникъ — *заставничка* (АВК, XXX, 256), папежникъ — *...на заходѣ оожененеся зъ папежничкою...* (РИБ, IV, 886), мельникъ — *мельничка* (АВК, XVII, 104), ровесникъ — *А коли одышла з ровесничъками и товаришками свойми, плакала...* (Біблія, 129), законникъ — *...волнаю разумеется тая которая не ест пошьлюбеная и не ест законничкою* (Зб. 261, 254), слодовъникъ — *слодовъничъка* (АВК, XX, 365), посредникъ — *...матку мѣлъ... которая бы межи нами а богомъ посредничкою была* (Зб. 259, 568[б]), опекалникъ — *...опекалничка всихъ грешѣныхъ быт мѣла* (Зб. 259, 472).

4. «Аснова назоўніка з суфіксам *-итъ* + *-к-а*»: *наймитъ* — *...две наймитки мои прочъ втекли...* (АВК, XXVI, 107), корчмитъ — *...абы вси корчмитки Пинские, почениши у вечеръ на смерканю, ажъ черезъ всю ночь, никого людей у домы свои корчемные... не пускали* (АВК, XXIX, 3), моавитъ[9] — *чия то дѣвка, а он отповѣдалъ: то есть моавитка* (Скар. КР, 138), во-

Киев, 1949, с. 34; *Обнорский С. П.* К истории словообразования русского литературного языка.— У кн.: Родная речь. Л., 1927; *Воронцова В. Л.* Образование существительных с суффиксом *-тель* в древнерусском языке.— «Труды Ин-та языкознания АН СССР», 1954, т. 5; *Мижевская Г. М.* Суффиксальное образование существительных женского рода в древнерусском литературном языке.— «Труды Одесского ун-та», 1959, т. 149. Сер. филол. наук, вып. 9, с. 171.

[8] Назоўнік *непріятелка* можа быць асэнсаваны і як вынік далучэння прыстаўкі *не-* да назоўніка *пріятелка*.

[9] *И породила старшая сына и назвала имя его Моавъ, з которого пошли моавитове* (Хр. 2405, 32[б]).

рожбитъ — *То имъ одная ворожбитка поведила...* (Троя, 12), мадіанитъ — *мадіанитка* (Хр. 2405, 146).

5. «Аснова фемініннага назоўніка на *-овъ* + *-к*-а»: ятровъ — *ятровка* (Бяр. 210).

6. «Аснова назоўніка з суфіксам *-ичь*+*-к*-а»: отчичь, дедичь — *...моя жена, будучи как то дедичка и отчичка тому ...записала...* (РИБ, XX, 792), *...Королевая Польская ...отчычка Пинская...* (АВК, XXIV, 28), *не ведали пни Одаховское, яко дедички...* (АВК, XXXVI, 402), наймичь — *отъ челяди своее, наймитовъ и наймичокъ, хрестіянъ* (РИБ, XXX, 360) *кождый господар домовой наймита роботега и наймичку свою... вписати повинни будуть* (ЛС, 1588, 347)[10], родичь — *родичка* (АВК, XXXIV, 308), княжничь (кнежничъ) — *...и зъ ихъ милостями паны економами добръ... княжнички ей милости...* (АВК, XV, 286), *сестричь* —*...Ганна сестрычка моя пришедши до бабки своей ...жаловала...* (АВК, XII, 159), *...сестрычка малжонки его...* (АВК, XXXII, 109).

7. «Аснова назоўніка з суфіксам *-ачь* + *-к*-а»: прачъ[11] — *прачка* (АВК, XX, 190), *швачь* (?) — *...подославши... девку ей милости швачку на имя Огренку...* (АВК, XXII, 72), одиначь — *А кгды приежджалъ в домъ, дщеръ або дочка его одиначка радуючися зъ звитяжства отцевого, вышла противъ ему зъ бубны* (РИБ, XIX, 397), единачь[12] — *единачка* (Стрыйк., 539).

8. «Аснова назоўніка з суфіксам *-атай (-отай)*+ +*-к*-а»: ходотай — *Пречистое Богородици, Ходотайки, Благодѣтелки и Патронки нашое* (РИБ, IV, 83).

---

[10] Можна меркаваць, што ў старабеларускай мове слова *наймичка* ўспрымалася як матываванае назоўнікам *наймитъ*, хоць на самай справе яно ўтваралася ўсё ж, відаць, ад асновы *наймичь* у значэнні «наёмны работнік», дзе суфікс *-ичь* у складзе назоўніка меў значэнне паказальніка саслоўя (параўн.: *отчичь, дѣдичь, баричь* і г. д.). Гл.: *Павский Г.* Филологические наблюдения над составом русского языка. Рассуждение второе. Спб., 1850, с. 122. Але таксама можна лічыць, што слова *наймичка* ўтварылася непасрэдна ад асновы назоўніка *наймъ* пры дапамозе *-ичк-а* па аналогіі са словамі тыпу *отчичка, ѣдичка, родичка.*

[11] прачъ — 'валюшнік, прамыўшчык' (Арх. зб. VII, 754).

[12] Параўн. ужыванне ў старабеларускай мове слова *едначь*: *едначь богу и человекомъ* (Скар. Біблія); *подле едняня полюбовныхъ едначовъ* (РИБ, XX). Прыклады запазычаны з артыкула: *Бярхоў П. В.* Назоўнікі з суфіксам *-ач (-яч)* у беларускай мове.— У кн.: Беларуская мова. Мінск, 1965, с. 77.

9. «Аснова назоўніка з суфіксам *-тухъ* (з менай *х* на *ш*)+*-к*-а»: пастухъ[13] — *...тое стадо быдла и кони паствила п а с т у ш к а ихъ* (АВК, XXVI, 388).

10. «Аснова назоўніка з суфіксам *-унъ*+*-к*-а»: опекунъ — *опекунка* (АВК, VI, 223).

Указаныя мадэлі неаднолькавыя на прадуктыўнасці. Адны з іх былі прадуктыўныя ў старабеларускай мове, паколькі ўтваралі значную колькасць фемінінатываў (мадэлі 1, 2, 3). Другія — малапрадуктыўныя (мадэлі 4, 6, 7), трэція — непрадуктыўныя (мадэлі 5, 8, 9, 10).

Характарызуюцца яны і неаднолькавай актыўнасцю на працягу XIV—XVIII ст.ст. Напрыклад, мадэль 1, у склад якой уваходзяць асновы з суфіксам *-аръ,* будучы прадуктыўнай, пачала дзейнічаць, па сутнасці, толькі з першай палавіны XVI ст. Як сведчаць нашы матэрыялы, на працягу XVI ст. па дадзенай мадэлі ўтварылася невялікая колькасць фемінінных намінацый (*гафтарка, золотарка, шинкарка* — у першай палавіне XVI ст.; *пекарка, кухарка, корчмарка, звездарька* — у другой палавіне XVI ст.). Але дзейнасць гэтай мадэлі прыкметна актывізавалася ў XVII ст., асабліва ў першай палавіне (*аптѣкарка, млынарка, лекарка, арендарка, поварка, почтарка* і інш.).

Амаль такая ж карціна назіраецца і ў функцыяніраванні мадэлей 2 і 3, словаўтваральныя магчымасці якіх пачалі актывізавацца толькі з другой палавіны XVI ст. (*научителка, родителка, полонянка, участничка, дворничка* і інш.). Асноўны ж састаў жаночых асабовых намінацый, утвораных па гэтых мадэлях, належыць пісьмовым помнікам першай палавіны — сярэдзіны XVII ст. (*непріятелка, взгардителка, потешителка, буритeлька, сказителка, сполобывателка, гонителка, заставничка, папежничка, ровесничка, законничка, поручничка, посредничка, опекалничка, слодовъничъка* і інш.).

Прыкладна ў тых жа гістарычных межах (сярэдзіна XVI — першая палавіна XVII ст.) функцыяніравалі і малапрадуктыўныя мадэлі старабеларускай мовы.

У старабеларускай мове назіраюцца выпадкі, калі

---

[13] Аб структуры суфікса *-тухъ* гл.: *Варбот Ж. Ж.* Древнерусское именное словообразование. М., 1969, с. 90.

фармант -*к*-а далучаецца да асноў, якія падвяргаюцца скарачэнню [14].

Пытанне аб прычынах скарачэння асноў пры ўтварэнні адпаведных жаночых намінацый з'яўляецца вельмі складаным. Выказваюцца меркаванні, што «на скарачэнне асновы аказалі ўплыў зборныя формы тыпу *земяне, мещане, христиане* і г. д.» [15]. Усё ж, відаць, тут аказалі ўплыў не зборныя формы ўказанага тыпу (дарэчы, гэта былі рэгулярныя формы множнага ліку), а першасныя формы на *-анъ* (*-янъ*) тыпу *гражданъ, египтянъ* [16], ад якіх потым утварыліся сінгулятывы на *-инъ* і, магчыма, паралельныя формы жаночага роду на -*к*-а. Гэтыя формы на -*к*-а і паслужылі з цягам часу ўзорам для ўтварэння фемінінатываў на -*к*-а ад асноў, якія ўжо аформіліся як сінгулятывы на *-инъ* і якія ўспрымаліся ў складзе фемінінатываў як усечаныя. У сувязі з гэтым паўстае не менш складанае пытанне аб так званай кадэрывацыі, гэта значыць паралельным утварэнні назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага і жаночага полу ад адной агульнай утваруючай асновы [17]. Не адмаўляючы выпадкаў кадэрывацыі, мы ўсё ж прытрымліваемся ў дадзеным выпадку больш пашыранай думкі, што суфіксальныя назоўнікі са значэннем асобы жаночага полу ўтвараюцца ў разглядаемы перыяд пераважна ад асноў адпаведных мужчынскіх назваў.

У старабеларускай мове ўсячэнне датычыцца ў першую чаргу асноў з маскуліннымі афіксамі *-инъ* (*-анинъ, -янинь*), *-ецъ, ень, -никъ*. Таму мадэлі, па якіх утва-

---

[14] Цікава, што гэта з'ява захавалася ў сучаснай беларускай мове. Яна з'яўляецца характэрнай і для іншых сучасных усходнеславянскіх моў. Гл.: *Фекета И. И.* Женские личные названия в украинском языке. Автореф. канд. дис. Киев, 1969, с. 6; *Земская Е.* О соотносительности однокоренных существительных мужского и женского рода со значением лица.— «Русский язык в национальной школе», 1970, № 5, с. 7.

[15] Гл.: *Вярхоў П. В.* Станаўленне словаўтваральных тыпаў асабовых назоўнікаў жаночага роду ў беларускай мове.— У зб.: Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1968, с. 40.

[16] Гл.: *Мейе А.* Общеславянский язык. М., 1951, с. 338.

[17] Гл.: *Моисеев А. И.* Соотносительность личных существительных мужского и женского рода и способы ее выражения.— «Учен. зап. Ленинградск. гос. ун-та им. А. А. Жданова», № 277. Сер. филол. наук, 1959, вып. 55; *Мельчук И. А.* Строение языковых знаков и возможные формально-смысловые отношения между ними.— «Известия АН БССР. Отделение литературы и языка», 1968, вып. 5.

раліся жаночыя асабовыя назвы на -*к*-а ад асноў указанага тыпу, набываюць для старабеларускай мовы такі выгляд:

1. «Аснова назоўніка на -*инъ* (-*анинь*, -*янинъ*)[18] з усячэннем -*инъ*)+-*к*-а»: бояринъ — *боярка* (АВК, XIV, 10), мѣщанинъ — *мѣщанка* (АЮЗР, I, 63), селянинъ — *селянка* (РИБ, XX, 367), смольнянинъ — *смольнянка* (РИБ, XX, 1532), витблянинъ — *витблянка* (КВЗС, 90), *Егда бы хто купилъ брата своего евреанина или евреанку и шесть летъ служили бы тобѣ въ самое лѣто отпустити ихъ свободныхъ* (Скар. ДЗ, 32б), коверзнянинъ — ...*и пани Анастазіею Александровою коверзнянкою*... (АВК, IX, 35), моавлянинъ — *моавлянка* (Скар. КР, 2б), египтянинъ—...*имела рабу египтянку именемъ агаръ* (Скар. КБ, 29), моавитянинъ, аммонитянинъ, сиріанитянинъ — *моавитянка, аммонитянка, сиріанитянка* (РИБ, XIX, 389), псковянинъ — *псковянка* (Стрыйк., 443), хеттыянинъ — *хеттыянка* (Хр. 2405, 299б), израилтянинъ — *израилтянка* (Хр. 2405, 237), римянинъ — *римянка* (Пралог, II, 667б), *А который бы хрестіанинъ або хрестіянка детя их взяли або укралі жидовское: яко злодѣи маютъ быти караны* (АВК, V, 135) і г. д.

2. «Аснова назоўніка на -*ецъ* (з усячэннем -*ецъ*)+ +-*к*-а»: поганецъ — *поганка* (АЮЗР, II, 172)[19], сестренецъ (сестрынецъ, сестранецъ) — *сестрынку мою Ганну Олеховну*... (АВК, XXII, 159), *малжонку и сестранку ее пану, лет не маючую... збити и зранити мел*... (АВК, V, 178)[20], постоялец — *постоялка* (ИЮМ, I, 238),

---

[18] Некаторыя назоўнікі з гэтымі суфіксамі з'яўляюцца, відаць, стараславянскай спадчынай.

[19] Слова *поганка* можна лічыць і ўтвораным ад асновы назоўніка *поганинъ*, што ўжываўся тады паралельна з намінацыяй *поганецъ* у тым жа значэнні, напр.: ...*але поганецъ спросный сажаетъ* (АЗР, IV, 107) і ...*але поганинъ, блюзнерца... рядит его*... (там жа). Намінацыя *поганка* суадносіцца таксама і з асновай прыметніка *поган*-(-ый, -ая). Гэта значыць, назва *поганка* характарызуецца множнасцю матывацый у старабеларускай мове.

[20] Назоўнік *сестрынка* (*сестранка*) можа быць таксама асэнсаваны і як вытворны ад асновы назоўніка *сестранокъ*, паколькі апошні меў у старабеларускай мове тое ж лексічнае значэнне, што і *сестранецъ*: *Я дей то купилъ въ сестры и въ сестренца своего* (АЛМ, I, 90) — *Ярошъ Минский од сестранковъ своих лѣтъ недорослыхъ ставилъ конь* (РИБ, XXXIII, 1039). Мае ён сэнсавую і структурную суаднесенасць і з прыметнікамі *сестрыная, сестраная*.

літовец — *литовка* (ИЮМ, II, 157), перехрестынецъ — *перехрестынка* (ИЮМ, VI, 100), выволанецъ — *выволанка* (АВК, V, 178) [21].

3. «Аснова назоўніка на *-ень* (з усячэннем *-ень*) + +*к-а*»: *Перекупки и перекупни сельскіе маюць дати по 6 грошей польскихъ* (АЗР, III, 192—193), закупень — *...ижъ мещанъка Бельская Ивановая Сегеневича девку закупъку замучила* (РИБ, XX, 828).

4. «Аснова назоўніка з суфіксам *-никъ* (з усячэннем *-икъ*)+*-к*-а»: *Челяднику домовому отъчизному або полоненику двадцать коп грошей* (Зкнд. Акты, 138), *...не отпущаються полоняники тогды...* (КПМ, II, 66) — *...помененая Оръшуля полонянка от мене... отышла...* (АВК, XXXI, 195) [22].

З разгледжаных найбольш прадуктыўнай з'яўляецца мадэль 1, у склад якой уваходзяць асновы на *-инъ* (*-анинъ, -янинъ*). Як паказвае аналізуемы матэрыял, асобныя назвы на *-к*-а, утвораныя па гэтай мадэлі, сустракаюцца ў помніках старабеларускай мовы, пачынаючы з канца XIV — пачатку XV ст. (*мещанка, землянка, селянка, смольнянка*). З цягам часу колькасць намінацый на *-к-а* паступова ўзрастае. Асабліва актывізуецца гэта мадэль у другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. (*слутъчанка, моавитянка, вознянка, евреанка, мурянинка, витьблянка; ізраілтянка, коверзнянка, идумейтянка, псковянка, филистинка, ариянка, болгарка* і інш.). А затым яе прадуктыўнасць рэзка згасае.

Функцыянiраванне астатніх мадэлей, якія з'яўляюцца непрадуктыўнымі, прыпадае на другую палавіну XVI — першую палавіну XVII ст.

У старабеларускай мове сустракаюцца адзінкавыя прыклады асабовых назоўнікаў на *-к*-а, утвораных ад прэфіграваных назоўнікавых асноў. Маюцца на ўвазе, у прыватнасці, назоўнікі *правнучка* (ад правънукъ, правънука (?) і *прабабка* (ад прабаба): *...правнучка каинова, а дочка ламенова...* (Стрыйк., 413), *...пречоная прабабка панов Микглинов...* (АВК, XXX, 404). Праўда, назоўнікі *прабабка, правнучка* можна было б суаднесці і з назвамі *бабка, внучка* і лічыць як

[21] Назоўнікі *постоялка, выволанка* суадносяцца і з асновамі прыметнікаў *постоял-*(-ый, -ая), *выволан-*(-ый, -ая).

[22] Назву *полонянка* можна суаднесці таксама і з асновай прыметніка *полонян-*(-ый, -ая).

прэфіксальныя ўтварэнні ад *бабка, внучка.* Але справа ў тым, што *баба* і вытворнае ад яго *прабаба* сустракаюцца ўжо ў старажытнарускую эпоху (у прыватнасці, у царкоўнаславянскіх тэкстах ранняй пары) [23], тады як формы *бабка, прабабка*, відаць, там адсутнічалі, і таму іх няма ў слоўніку І. І. Сразнеўскага [24]. Мяркуючы па паказаннях слоўніка І. І. Сразнеўскага, адсутнічалі ў старажытнарускай мове, відаць, і формы *внучка, правнучка* пры наяўнасці *вънукъ, вънука, правънукъ* і, верагодна, *правънука.*

Нешматлікімі з'яўляюцца ў старабеларускай мове і словы на -*к*-а са значэннем асобы жаночага полу, утвораныя ад асноў складаных назоўнікаў. Яны ўзнікалі па мадэлях:

1. «Аснова складанага назоўніка з кампанентам *дѣй* у другой частцы +-*к*-а»: добрдѣй — ...*пани матка и добродѣйка наша* (АВК, І, 23), казнодѣй — ...*ку суженью припала справа ей милости паней Кристины Домбровское... — казнодѣйки збору евангелицкого Любчанского...* (АВК, XII, 453), чародей — *чародейка* (Скар. КВ, 15б), любодей — *и рече и нему, сыну жены любодейцы и нечистое* (Скар. ПЦ, 44б).

2. «Аснова складанага назоўніка з суфіксам -*тель*+ +-*к*-а»: благодѣтель — *Пречистое Богородици, Ходотайки, Благодѣтелки и патронки нашое...* (РИБ, IV, 83), добродитель — *добродителка* (ИЮМ, XXII, 240).

3. «Аснова складанага назоўніка з суфіксам -*ецъ*+ +-*к*-а»: чужоземецъ — *чужоземка* (Каліст, II, 255).

4. «Аснова, утвораная са словазлучэння+-*к*-а»: бѣлая жона — ... *нехай бы бѣложонки нашые въ запинаньи давные уберались въ козакинки...* (АЮЗР, II, 190) [25].

Словы, якія ўтвараліся па ўказаных мадэлях, зафіксаваны ў пісьмовых помніках другой палавіны XVI—XVIII ст.ст.

---

[23] Гл.: *Филин Ф. П.* О терминах родства и родственных отношений в древнерусском языке.— У кн.: Язык и мышление, т. 11. М.—Л. 1948, с. 331—332.

[24] *Срезневский И. И.* Материалы для словаря древнерусского языка, т. 1—3. М., 1958.

[25] Намінацыя *бѣложонка* можа ўспрымацца і як утварэнне ад словазлучэння *бѣлая жонка,* гэта значыць, яна мае двайную суаднесенасць з утваральнымі асновамі.

Амаль усе разгледжаныя тут жоначыя асабовыя намінацыі на *-к-*а ад вытворных назоўнікавых асноў за выключэннем асобных адсутнічаюць у «Материалах...» І. І. Сразнеўскага.

Адна частка намінацый на *-к-*а (*родителка, корчмитка, корчмарка, сестрычка, хрестьянка (христианка), боярка, ходотайка, любодейка, злодейка*) мае там аднакарэнныя адпаведнікі, утвораныя пры дапамозе іншых суфіксальных дэрыватэм (*родительница, кърчемница, сестричьна, християна, ходатаиница, ходатаица, боярыня, любодѣица, зълодѣица*).

Другая частка фемінінатываў на *-к-*а (*еретичка, дворничка, отчичка, дедичка, родичка, пастушка, землянка, добродѣйка, мѣщанка, благодѣтелка, непрыятелка, поварка, опекалничка* і г. д.) мае ў слоўніку І. І. Сразнеўскага толькі суадносныя аднакарэнныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду (*еретикъ, дворникъ, отчичь, дѣдичь, родичь, пастухъ, землянинъ, мѣщанинъ, добродѣй, благодѣтель, неприятель, поваръ, опекалникъ* і г. д.).

Трэцяя частка назваў на *-к-*а (*шинкарка, кухарка, пекарка, папежничка, арендарка, слодовничка, швачка, прачка, одиначка, наймичка, выволанка, заставничка, участничка, аптекаръка, ровесничка, млынарка, литовка, звѣздарька, постоялка, гонителька, моавитка, бурителька, бѣложонка* і г. д.) ва ўказанай крыніцы такіх адпаведнікаў не мае.

Усё гэта дае падставу для меркаванняў, што словы тыпу *еретичка, дворничка, отчичка, дедичка, мѣщанка, благодѣтелка* і іншыя маглі ўтварацца яшчэ ў старажытнарускую эпоху, але не знайшлі адлюстравання ў лексікаграфічных крыніцах.

Што ж датычыцца назваў тыпу *родителка, корчмарка, боярка, шинкарка, пекарка, папежничка, арендарка, выволанка, наймичка, бурителька, бѣложонка* і іншых, то большасць з іх, відаць, трэба лічыць словатворамі, якія ўзніклі ў старабеларускі перыяд у выніку актывізацыі суфікса *-к-*а пры ўтварэнні фемінінных намінацый [26].

### Назоўнікі на -к-а ад невытворных назоўнікавых асноў

Гэта катэгорыя слоў складае менш значны пласт у лексіцы старабеларускай мовы разглядаемага перыяду,

---

[26] Гл.: Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970, с. 56.

чым, напрыклад, фемінінатывы на -*к*-а ад вытворных назоўнікавых асноў. Утварэнне іх ішло ад асноў наступных слоў: жона — ...*тогды тотъ і зостанется при дѣдичьствѣ, а тая жонка стратила...* (АЗР, I, 8); дѣва — ...*а дѣвокъ много, тогды имѣтъ... роздѣлъ в отчинѣ* (АЗР, I, 17), ...*младенцу осмнадцать лет а девце петнадцать лет* (ЛС, 1529, 18); дочь — ...*а будетъ ли дочка старостина...* (АЮЗР, I, 23); мати — ...*матки моей Марьи* (АВК, XI, 7); *няня — нянька* (Скар. ЧЦ, 208), мама — ...*мають мамки закону ихъ жидовского къ дѣтемъ своимъ пропускати...* (АЮЗР, I, 108), ...*в обоѣхъ дочокъ Хмелницкого до дѣтей мамкою была...* (АЗР, V, 192); небога — ...*небожъка жона его казала ему тую жонъку выпустити* (БА, II, 51); невѣста — *невѣстка* (АЛМ, 1, 28); тета — ...*тежъ тетка была...* (АЛМ, I, 28); внука (внукъ(?) — *внучка* (АВК, II, 44). Прыведзеныя словы розныя па сваіх лексіка-семантычных прыметах. Яны сустракаюцца ўжо ў ранніх помніках старабеларускай мовы. Утварэнне іх адбывалася ў свой час пераважна ад асноў асабовых назоўнікаў жаночага роду. Амаль усе фемінінатывы ад гэтых асноў першапачаткова з'яўляліся, відаць, памяншальнымі да адпаведных невытворных *жена (жона), дъчи (дочь), тета, невѣста, внука, няня* і г. д. З цягам часу значэнне памяншальнасці ў іх страцілася, і яны пачалі ўжывацца як дублеты. Мяркуючы па таму матэрыялу, які мы аналізуем, словы тыпу *жонка, матка, невѣстка* ў старабеларускай мове не ўспрымаліся як памяншальныя, а выступалі ў той жа функцыіі, што і іх карэляты.

Структура асабовых назоўнікаў на -*к*-а старабеларускай мовы паказвае, што значная частка іх утваралася і ад невытворных асноў мужчынскіх асабовых назоўнікаў: мнихъ — *Будучи не только презвитерами, але и мнихами, поутекавшы зъ манастырей, жоны собе мнишки спoймовали!* (РИБ, XIX, 755); товарышъ— ...*а третюю дей девку товарышку нашу, швачку...* (АВК, XXXVI, 20); вуй — ... *тая добрыня вуйка была володымеру...* (Стрыйк., 443[б]); скоморохъ — *скоморошка* (Бава, 170); султанъ — ...*колись в Константинополю султанка о немъ пытала...* (РИБ, VII, 1328); прынцыпалъ — ... *иж тая прынцыпалка Макута Лукшовна по взятью ее до везеня з места утекла* (АВК, XXXII, 102); цыганъ — *Жаловалъ намъ мещанинъ господар-*

*скиŭ... на Оршулю, а Барбару і на инъшихъ* *ц ы г а н о к ъ...* (БА, II, 221); игуменъ — *игуменка* (АЮЗР, II, 81); каштелянъ — *каштелянка* (РИБ, IV, 51); моавъ — *моавка* (Бельск., 76[б]); акторъ[27] — *...пани Коморовская узнана за а к т о р к у именя всего Литоварьского* (АВК, XXX, 327); суседъ[28] — *суседка* (АВК, XXXI, 481); швакгеръ — *швакгерка* (АВК, XV, 78); солдатъ — *...и теперъ прозвищемъ слыветъ с о л д а т к о ю...* (АЗР, V, 192); антецесоръ — *антецесорка* (АЮЗР, II, 97); сукцессоръ — *сукцессорка* (АЗР, IV, 522); посессоръ — *посессорка* (АЗР, IV, 522); фундаторъ — *...одъ ф у н д а т о р к и того имѣнья ее милости пани Окгинской* (АВК, XI, 169); патронъ — *патронка* (РИБ, IV, 83); шмухлеръ — *...купили отъ ш м у х л е р к и петлички и кгузики до кунтуша* (ИЮМ, VIII, 63).

Адзначаныя вышэй словы на -*к*-а са значэннем асобы жаночага полу не маюць адпаведных форм у «Материалах...» І. І. Сразнеўскага, за выключэннем назоўнікаў *мнишка, суседка, игуменка,* якім адпавядаюць зафіксаваныя там старажытнарускія *мнишица, сусѣда (сусѣды), игуменья.* Гэта дае падставу меркаваць, што амаль усе яны (за выключэннем, мабыць, слоў тыпу *вуйка, скоморошка)* узніклі на тэрыторыі заходнерускага моўнага арэалу. І адбылося гэта, мяркуючы па паказаннях пісьмовых помнікаў, у другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. Утвараліся памянёныя словы часцей за ўсё ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання, якія з'яўляліся назвамі асоб мужчынскага полу па іх пасадзе, духоўнаму званню, тытулу *(мнихъ, прынцыпалъ, игуменъ, акторъ, каштелянъ, сукцессоръ, фундаторъ, антецесоръ* і інш.). З марфалагічнага боку такія словы кваліфікуюцца намі як невытворныя, хоць у аснове некаторых з іх *(акторъ, сукцессоръ, фундаторъ* і інш.) адчуваецца наяўнасць марфемы, якая афармляе значэнне асобы. Але мы зыходзім з таго, што пры «словаўтваральным аналізе слова з іншамоўнымі афіксамі, у якім і невытворная марфема з'яўляецца па паходжан-

[27] «Актор (Actor) — 1. Пачынальнік справы, ісцец — абаронца, адвакатар; 2. Actor villicus — кіраўнік маёнткам».— Словарь древнего актового языка Северо-западного края и царства Польского, Н. Горбачевского. Вильно, 1874, с. 7.

[28] А магчыма, утварэнне гэтага слова адбывалася ад асновы назоўніка *сусѣда*, суадноснага з маскулінатывам *суседъ*.

ню іншамоўнай, запазычанай, вельмі важна (пры веданні замежнай мовы) не выходзіць за межы словаўтваральнай сістэмы роднай мовы, не пераносіць у яе адносін і сувязей, якія існуюць паміж аналізуемым словам і яму блізкімі ў мове — крыніцы, адкуль дадзенае слова засвоена» [29].

Сярод назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу старабеларускай мовы сустракаюцца адзінкавыя прыклады, калі жаночыя асабовыя назвы ўтвараліся, відаць, ад невытворных асноў неасабовых назоўнікаў: Москва — *...привез был з собою... невесту Московку*[30] *тутъ до нас до Литвы* (АВК, XXXI, 195), *...жонку мою властивую невольную именемъ Онушу Московку и двухъ сыновъ ее малыхъ...* (АВК, XXII, 222) [31].

Асабовыя намінацыі, утвораныя пры дапамозе суфікса -*к*-а ад розных па сваёй структуры назоўнікавых асноў — найбольш значная частка асабовых утварэнняў на -*к*-а ў старабеларускай мове.

Утварэнне асабовых назваў з такім суфіксам адбывалася ў мове беларускай народнасці і ад асноў іншых часцін мовы, у прыватнасці ад асноў прыметнікаў і дзеясловаў.

### Назоўнікі на -*к*-а ад прыметнікавых і дзеяслоўных асноў

Назоўнікі на -*к*-а са значэннем асобы жаночага полу, утвораныя ад указаных тыпаў асноў, у беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. нешматлікія.

Калі гаварыць аб асновах прыметнікаў, якія спалучаюцца з суфіксам -*к*-а, то яны па сваёй структуры з'яў-

---

[29] *Шанский Н. М.* Основы словообразовательного анализа. М., 1953, с. 54.

[30] Г. Паўскі адзначаў у свой час, што «заслугоўвае ўвагі яшчэ ўтварэнне пры дапамозе -*к*-а назоўнікаў жаночага роду айчынных (patronimica), якімі азначаецца паходжанне жанчын з вядомага горада, народа і г. д. Склад -*к*-а можа тут прыкладацца непасрэдна да кораня і першавобразнага імя, якога б яно ні было роду. Напр., *Московка, Новгородка, Валодайка...* утвораны непасрэдна ад імёнаў *Москва, Новгород, Валдай...* Але гэта бывае рэдка». Гл.: *Павский Г.* Филологические наблюдения над составом русского языка. Рассуждение второе, с. 80.

[31] Цікава, што ў слоўніку І. І. Сразнеўскага слова *московка* зафіксавана толькі ў значэнні «деньга Московская».— *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 2, с. 176.

ляюцца вытворнымі. Утварэнне намінацый на -*к*-а ад такіх асноў адбывалася па мадэлях:

1. «Аснова прыметніка з суфіксам -*ат*-+-*к*-а»: мужат-(-ая) — *Про то мы уставляемы мужамъ записъ рочный, а удовамъ за 6 лѣтъ, а мужаткамъ за 10 лѣт* (АЗР, I, 16), ...*немовляти панъны або вдовы и мужатки*... (ЛС, 1588, 384).

2. «Аснова прыметніка з прэфіксам *под-, при-* і суфіксам -*ан*+-*к*-а»: поддан-(-ая) — ...*а служебницу их, которая им служила, а моею власною подданкою была, на имя Ганну* (АВК, XXXVI, 119), ...*сорока копъ грошей литовскихъ за збитье подданки Кристыны Ковшиковой*... (АВК, VIII, 140); придан-(-ая) — ...*девка... невольная, приданка*... (БА, II, 326), *Приданка паней моей* (БА, II, 334).

3. «Аснова прыметніка з прэфіксам *пры-* і суфіксам -*ен*-+-*к*-а»: прыведен-(-ая) — ...*запис на продажу жонки своее властное, неволное прыведенки жоны его Миколая Климовича и матки их*... (АВК, XXXII, 308).

Што датычыцца аддзеяслоўных утварэнняў, то мы маем адзінкавыя прыклады такой з'явы: назоўнік *варожка,* утвораны пры дапамозе -*к*-а ад асновы дзеяслова *ворожити*[32]: ...*Филяметова ворожка не змыслить* (РИБ, XIX, 773), намінацыю *торговка,* утвораную ад асновы дзеяслова *торговати*[33]: *Заплатили за пироги, то тесли понабрали тамъ же на Луполове торговкамъ разнымъ* (ИЮМ, VI, 117).

Паводле паказанняў слоўніка І. І. Сразнеўскага можна меркаваць, што назоўнікі *мужатка, подданка, приданка, прыведенка, ворожка* (гэтыя словы зафіксаваны: першае ў помніках XIV ст., астатнія ў крыніцах другой палавіны XVI ст.) узніклі ў старабеларускі моўны перыяд у выніку актывізацыі суфікса -*к*-а пры ўтварэнні асабовых фемінінатываў[34]. Аб гэтым сведчыць, з аднаго боку, адпаведнасць у старажытнарускай мове іншых словаўтваральных форм для некаторых слоў

[32] Агульнаславянскі дзеяслоў *ворожити* — першапачаткова ў значэнні «вядзьмарыць», а затым ужо ў значэнні «варажыць», звычайна лічыцца дэрыватам ад назоўніка *ворогъ* — «д'ябал, вядзьмар». Гл.: Этимологический словарь русского языка, т. 1, вып. 3. М., 1968, с. 165.

[33] Назва *торговка* мае суадноснасць таксама з назоўнікам *торговецъ* і прыметнікам *торгов*-ый(-ая).

[34] Гл.: Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970, с. 56.

*мужатка — мужатица, ворожка — ворожея,* а з другога — адсутнасць такіх адпаведнікаў у старажытнарускай мове для слоў *подданка, приданка, прыведенка.*

Характэрнай асаблівасцю прыметнікаў, асновы якіх спалучаюцца з суфіксам *-к*-а, з'яўляецца тое, што, па-першае, амаль усе яны за выключэннем прыметнікаў тыпу *мужатая* па свайму паходжанню — дзеепрыметнікі залежнага стану, якія падвергліся ад'ектывацыі ў выніку паслаблення дзеяслоўных якасцей. Па-другое, такія прыметнікі выступаюць тут як бы ў абліччы субстантываваных, хоць працэс субстантывацыі для некаторых з іх, відаць, яшчэ не закончыўся ў гэты перыяд[35]. Тут адбываецца цікавая з'ява: асабовыя назоўнікі на *-к*-а, утвораныя ад асноў прыметнікаў, семантычна матываваліся не столькі тым прыметнікам, ад якога ішло іх утварэнне, колькі канкрэтным словазлучэннем, у склад якога ўваходзіў дадзены прыметнік і якое першапачаткова магло быць сінанімічным да ўтварэння на *-к*-а, напрыклад: *мужатая жона — мужатка, приданая девка — приданка, приведеная жона — приведенка* і г. д.[36] Але ў выніку марфалагічнай трансфармацыі прыметнікавых кампанентаў словазлучэння ў бок іх субстантывацыі адбылося «пераразмеркаванне» сінанімічных адносін. Назоўнікі на *-к*-а сталі выступаць як сінонімы да адпаведных прыметнікаў.

З аналізу працэсаў словаўтварэння асабовых намінацый жаночага роду на *-к*-а ў беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. відаць, што яны ўтвараліся пераважна ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду. У спалучэнне з суфіксам *-к*-а ўступалі як невытворныя, так і вытворныя асновы гэтых назоўнікаў.

Невытворныя асновы ў большасці сваёй з'яўляюцца асновамі назоўнікаў іншамоўнага паходжання. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначалі асоб мужчынскага полу,

---

[35] Параўн., напрыклад, ужыванне прыметніка *мужатая* ў наступным кантэксце: *Иже съ мужатою женою обрѣтается, носы обѣма урѣзати... да бить...* Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 2, с. 188.

[36] Як вядома, тэндэнцыя да такой кантамінацыі (семантычнай кандэнсацыі) словазлучэння атрымала ў сучаснай беларускай мове даволі шырокі прастор не толькі пры ўтварэнні назваў асоб (*нелюдзімка*), але і назваў жывёл (*ялаўка, сіўка*), раслін (*смярдзючка, антонаўка*), памяшканняў, устаноў (*дзяжурка, качагарка, ленінка, чыталка*), розных выданняў (*шматтыражка, камсамолка, паштоўка*), стрэльб (*двухстволка, цэнтралка*) і г. д.

якія займалі тую ці іншую пасаду, мелі духоўнае званне ці пэўны тытул (*прынцыпалъ, гетманъ, сукцессоръ, мнихъ, игуменъ, акторъ, султанъ, моавъ, фундаторъ* і г. д.).

Што датычыцца вытворных асноў асабовых назоўнікаў, якія спалучаліся з суфіксам *-к-*а, то яны, як правіла, былі суфігіраванымі. У іх склад уваходзілі суфіксы *-аръ, -тель, -ик (-никъ, -лник), -инъ (-анинъ, -янинъ), -итъ, -ичь, -ачь, -тухъ, -унъ, -отай, -ецъ, -ень*. Здольнасць суфікса *-к-*а спалучацца з такім шырокім колам суфігіраваных асноў сведчыць аб яго практычна неабмежаваных словаўтваральных магчымасцях у беларускай мове XIV—XVIII ст.ст.

Наяўнасць назоўнікаў на *-к-*а, якія маюць двайную суадноснасць з утвараючымі асновамі, у значнай меры абумоўлена існуючай у старабеларускай мове сінанімічнай варыянтнасцю назоўнікаў мужчынскага роду (братаничь, братанокъ→*братанка;* сестренецъ (сестранецъ, сестрынецъ), сестранокъ→*сестрынка (сестранка);* цыганъ, цыганинъ→*цыганка;* поганецъ, поганинъ→*поганка* і г. д.).

Нешматлікія назоўнікі на *-к-*а ад невытворных асноў асабовых назоўнікаў жаночага роду (*матка, бабка, дочка, тетка, невѣстка, жонка* і інш.) першапачаткова з'яўляліся памяншальнымі да адпаведных *мати, баба, дочь, тета, невѣста, жона* і г. д., але затым страцілі гэту якасць. Адны з іх пераасэнсаваліся (*невѣста — невѣстка*), другія пачалі выступаць як дублеты да зыходных форм (*мати — матка, внука — внучка, жона — жонка* і г. д.).

Сярод слоў на *-к-*а толькі нязначная іх частка атрымана ў спадчыну ад старажытнарускага моўнага перыяду (*матка, жонка, дочка, дѣвка, тетка, невѣстка, ворожбитка* і інш.). Яны зафіксаваны ў вядомых лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы. Некаторыя з іх (*ворожбитка* ў значэнні 'варожка' ў адрозненне ад старажытнарускага *ворожбитка* ў значэнні 'вораг') семантычна трансфармаваліся ў старабеларускай мове.

Асноўная маса назоўнікаў на *-к-*а са значэннем асобы жаночага полу з'яўляецца, відаць, вынікам словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся ў межах заходнерускага моўнага арэалу. Адны з іх маюць адпаведныя словаўтваральныя формы ў старажытнарускай мове:

*суседка* (сусѣдыня, сусѣда), *боярка* (боярыня), *мужатка* (мужатица), *мнишка* (мнишица), *ворожка* (ворожея), *ходотайка* (ходотоица, ходатаиница), *родителка* (родительница) і інш. Другія (іх пераважная большасць) такіх адпаведнікаў не маюць (*прынцыпалка, акторка, каштелянка, султанка, сукцессорка, поссессорка, фундаторка, арендарка, родичка, папежничка, наймичка, выволанка, приданка* і інш.).

Мадэлі, па якіх утвараліся гэтыя намінацыі, звычайна функцыяніравалі ў старабеларускі перыяд на працягу трох стагоддзяў (XV, XVI, XVII) і характарызаваліся неаднолькавай словаўтваральнай актыўнасцю.

Адначасовае запазычанне слоў на *-к*-а і суадносных з імі асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з іншых моў, у прыватнасці з польскай, прыводзіць да таго, што назвы тыпу *научителка* (научитель), *швакгерка* (швакгръ, швакгеръ) падпарадкоўваюцца словаўтваральным тэндэнцыям старабеларускай мовы і пачынаюць успрымацца як уласна-беларускія словатворы.

## Назоўнікі на *-анк*-а (*-янк*-а)

Намінацыі з адзначанымі суфіксамі нешматлікія ў беларускай мове разглядаемага перыяду. Утварэнне іх адбывалася ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду пераважна ў другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. Тут у спалучэнне з суфіксам *-анк*-а (*-янк*-а) звычайна ўступалі невытворныя асновы, але сустракаюцца асобныя прыклады ўтварэнняў на *-анк*-а (*-янк*-а) ад вытворных назоўнікавых асноў. Паводле гэтага дзейнічалі наступныя словаўтваральныя мадэлі:

1. «Аснова невытворнага назоўніка+*-анк*-а (*-янк*-а)»: *...старосты Крычевского съ одное, а зъ другое стороны дому прозываемого теперь... пани Гальшки... старостянки Слонимское...* (АВК, VIII, 477) [37]; *воевода* — *...пани Катерына с Кротошына воеводянка*[38] *Иновлоцлавская* (АВК, XX, 40), *...пани Огафія Богданов-*

---

[37] Параўн. выпадак утварэння назвы ад той жа самай асновы пры дапамозе суфікса *-инк*-а: *...а я Гелена Богдановна княжна Соломерецкая, старостинка Кричевская и Клучицкая* (АЮЗР, II, 91).

[38] Назоўнік *воеводянка* мае суадноснасць і з утвараючай асновай назвы *воеводичь* (*...Я Остафей Воловичь Горностай воеводичь Новгородскій* (АЮЗР, I, 163) па аналогіі са словамі тыпу *шляхтянка* ад *шляхтичь*.

*ка... воеводянка Минская* (АВК, II, 30); Сапѣга (аснова ўласнага назоўніка, які з'яўляецца прозвішчам) — *...княгинею Ганною Михайловною Сапѣжанкою* (АВК, XIV, 6), *...панны Катарины Сапѣжанки — подканцлеранки великого князства Литовского...* (АВК, IX, 33).

2. «Аснова асабовага назоўніка, які па сваёй структуры нагадвае субстантываны прыметнік+*-анк*-а *(-янк*-а)»: хоружій — *...съ панею Барбарою Еронимовною Русецкою, хоружанкою Сендомирскою...* (АВК, II, 210); подкоморий — *...Ядвиги Адреевны Станкевичовны, подкоморянки воеводства Менского...* (АВК, XXXVI, 367), *...панъне Ганне Васильевне Клюковской, подкоморанце Новгородской...* (АВК, XX, 102; подканцлерий — *...панны Катарины Сапѣжанки — подканцлеранки великого князства Литовского* (АВК, IX, 33); лѣсничий — *лѣсничанка* (АВК, XV, 87); конюший — *конюшанка* (АВК, XV, 286).

3. «Аснова назоўніка з суфіксам *-j-* у сваім складзе +*-анк*-а (*-янк*-а)»: судья — *Я Якубъ Турновскій и Барбара Старосельская, судьянка земская Витебская...* (АВК, XI, 43) [39], *...пани Цецилиею ...судянкою земъскою Виленскою...* (АВК, XX, 363).

4. Аснова назоўніка на *-ичь* (з адсячэннем *-ичь*)+*-анк*-а (*-янк*-а)»: *...хто бы под шляхтичомъ або под шляхтянкою грабеж учинилъ...* (ЛС, 1529, 94), *...за збитье двух шляхтянокъ и третего шляхтича...* (АВК, XXX, 296) [40].

У лексіка-семантычных адносінах намінацыі *старостянка, воеводянка, Сапѣжанка, хоружанка, подкоморянка, подканцлеранка, лѣсничанка, конюшанка, судьянка (судянка), шляхтянка* матывуюцца семантыкай адпаведных мужчынскіх назваў. Яны абазначаюць жанчын па роду дзейнасці, занятках ці сацыяльнаму становішчу мужчын, за выключэннем слова *Сапѣжанка,* якое называе жанчыну па яе прыналежанасці да пэўнага сямейнага клану.

---

[39] Намінацыя *судьянка* суадносіцца таксама і з асновай назоўніка *судьичь.*

[40] Намінацыі *шляхтичь* і *шляхтянка* могуць успрымацца і як паралельныя ўтварэнні ад асновы слова *шляхт*-а.

## Назоўнікі на *-инк*-а, *-енк*-а, *-ушк*-а

Назоўнікі на *-инк*-а, *-енк*-а, *-ушк*-а адзінкавыя ў старабеларускай мове. Яны таксама ўтвараюцца ад асноў асабовых назоўнікаў. Утварэнне намінацыі *старостинка*, напрыклад, адбывалася пры дапамозе суфікса *-инк*-а ад асновы невытворнага назоўніка староста: *...Я Гелена Богдановна княжна Соломерецкая, старостинка Кричевская и Клучицкая* (АЮЗР, II, 91)[41].

Слова *паненка*, якое ўжывалася ў значэнні 'дзяўчына', відаць, з'яўляецца вытворным ад асновы назоўніка пані (у значэнні 'замужняя жанчына'), які ў сваю чаргу ўтварыўся ад суадноснага назоўніка панъ[42]: *...не на выпосаженье убогіхъ паненекъ або дѣвицъ ...* (РИБ, VII, 1716), *Панямъ учтивымъ, паненкамъ цнотливымъ и Богу посвяченымъ дѣвамъ...* (РИБ, IV, 776).

Што датычыцца суфікса *-ушк*-а, то ён дзейнічаў у складзе мадэлі «невытворная аснова асабовага назоўніка жаночага роду+*-ушк*-а»: *мать — ...матушка наша стоит на луках морскіх* (Бава, 261).

## Назоўнікі на *-иц*-а

Назоўнікі з суфіксам *-иц*-а[43], як і намінацыі на *-к*-а, з'яўляюцца прадуктыўным тыпам у беларускай мове разглядаемага перыяду. Адны з іх утварыліся, відаць, яшчэ ў старажытнарускую эпоху і былі атрыманы ў спадчыну старабеларускай мовай, другія ўзніклі на глебе старабеларускай мовы. Тыя словы, якія захаваліся ў старабеларускай мове ад старажытнарускай эпохі, характарызуюцца жывымі для таго часу словаўтваральнымі тэндэнцыямі і магчымасцямі. Гэтыя лексемы ні-

---

[41] Назва *старостинка* мае таксама суадноснасць з назоўнікам *старостиная*, які па сваім паходжанню з'яўляецца субстантываваным прыметнікам, і таму можа ўспрымацца і як утвораная пры дапамозе суфікса *-к*-а ад асновы субстантывата *старостиная*.

[42] Назоўнік *паненка* мае суадноснасць таксама з намінацыямі *панъ, панена: ...панны Анны... — законницы и старшое манастыра паненъ законныхъ* (АВК, IX, 41).

[43] Гл.: *Пайленка М. А.* Асабовыя назоўнікі жаночага роду на *-иц*-а ў беларускай мове XIV—XVII ст.— У зб.: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. 2. Мінск, 1974, с. 161—168.

чым не адрозніваліся ў словаўтваральных адносінах ад уласна-беларускіх слоў.

Утварэнне намінацый на *-іц*-а са значэннем асобы жаночага полу звычайна ішло ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду. Тут, як і пры ўтварэнні назваў на *-к*-а, удзельнічалі невытворныя і вытворныя асновы, ускладненыя суфіксальнымі дэрыватэмамі. Ад іншых тыпаў асноў назоўнікі на *-іц*-а адзінкавыя ў беларускай мове XIV—XVIII ст.ст.

### Назоўнікі на *-іц*-а ад вытворных назоўнікавых асноў

Фемінінатывы на *-іц*-а ад асноў дадзенага тыпу прадстаўлены ў старабеларускай мове вялікай колькасцю прыкладаў. Праўда, кола вытворных назоўнікавых асноў, якія спалучаліся з суфіксам *-іц*-а, нязначнае. Паводле нашых матэрыялаў, яны былі трох структурных тыпаў: асновы на *-икъ (-никъ), -чикъ (-щикъ)*[44], *-ецъ*. Гэта абумовіла наступныя мадэлі, па якіх утвараліся намінацыі на *-іц*-а ад вытворных назоўнікавых асноў:

«Аснова назоўніка на *-икъ (-никъ)* (з усячэннем фіналі *-икъ)* + *-іц*-а»: племенникъ — *племенница* (АЗР, I, 75), дверник — ...*и молвила д в е р н и ц а петрови* (Пак. Хр. I, 16), бѣдник —...и она *б ѣ д н и ц а заплакавши о своихъ нечистых дѣлех* (Чэц., 77), посадникъ— *посадница* (Р-Л. А., 85), служебникъ — *служебница* (Пак. Хр. I, 40), начальникъ — ... *очима видѣхъ найяснѣйшую н а ч а л н и ц у госпожу Елену...* (АЗР, I, 256), ключникъ — *ключница* (РИБ, XX, 16), шкодникъ — *шкодница* (АВК, XXVI, 88), стодольникъ — ... *в той стодоле помененой с т о д о л ь н и ц у мою... збивши, зранивши* (АВК, XXVI, 88), скимникъ (манах) — ... *заста-*

[44] У некаторых работах па беларускаму словаўтварэнню не адзначаецца наяўнасць у старабеларускай мове словаўтваральнага тыпу на *-іц*-а ад асноў на *-икъ* (*-никъ*), *-чикъ* (*-щикъ*), а называюцца толькі тыпы а) з бессуфіксальнай асновай мужчынскага роду (*пасербъ—пасербица*), б) з асновай на *-ецъ* (*юнецъ—юница*), в) без суадноснасці да асновы мужчынскага роду (*пороженица*). Гл.: *Вярхоў П. В.* Станаўленне словаўтваральных тыпаў асабовых назоўнікаў жаночага роду ў беларускай мове.— У зб.: Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1968, с. 41. Такое сцвярджэнне не адпавядае сапраўдным моўным фактам.

*вила* с к и м н и ц а *таго жъ манастыра Печерского* (АЮЗР, I, 195), работникъ — ... *панъну Сасюту ... шляхтянку, а другую Марыну* р а б о т н и ц у (АВК, XXXVI, 20), челядник — ч е л я д н и ц а *дей моя ... прочъ утекла* (АВК, XXXVI, 244), любовьникъ — *любовьница* (Чэц., 3б), невольникъ — ... *для збеглое девки,* н е в о л ь н и ц ы *его властное...* (АВК, XXVI, 84), прелесникъ — *прелесница* (Бава, 239), суперникъ (саперникъ) — *суперница* (РИБ, VII, 782), ненависникъ — *ненависница* (Скар. ПЦ, 5б), подворникъ — *подворница* (Скар. ТЦ, 168), зводникъ — *зводница* (ЛС, 1588, 384), вшетечникъ (распуснік) — *Якубъ... началъ дей ее лаять и невинне дей соромотити словы доносить ущыпливыми, зовучы дей ее малпою,* в ш е т е ч н и ц е ю (АВК, XX, 139), блудникъ — *блудница* (АЗР, IV, 40), ученикъ — *ученица* (Зб. 752, 67), чаровникъ — ... *дѣвка... была...* ч а р о в н и ц а, *большеи нижли иные вѣдьмы* (Троя, 59), грѣшникъ — *грѣшница* (Чэц.1, 95), поручникъ — *поручница* (Зб. 752, 144), шапочникъ — ... *въ дому неякое* ш а п о ч н и ц ы, *на Бернадынской улицы* (АВК, XX, 295), законникъ — ... *инокинямъ* з а к о н н и ц а м ъ... (АЗР, IV, 521), *...панны Анны...* — з а к о н н и ц ы *и старшое монастыра паненъ законныхъ...* (АВК, IX, 41); помощникъ (помочникъ) — *...мѣли обовѣмъ* п о м о щ н и ц у (РИБ, IV, 368), *...помененые Римашевскій зъ* п о м о ч н и к а м и *и* п о м о ч н и ц а м и *своими* (АВК, V, 77); спроснікъ — ... с п р о с н і ц а *оная написала лист до мещан* (Жыц. св., 18б), оучастникъ — *оучастница* (Карп. II, 45б), милостникъ — *милостница* (Зб. 262, 83) і інш.

Імёны на *-иц-а*, якія ўтвараліся ад назоўнікавых асноў на *-икъ (-никъ)*, прыцягваюць увагу яшчэ і тым, што яны неаднолькавыя і па свайму паходжанню, і па часу ўзнікнення.

Адны з іх (*посадница, причастница, мученица, служебница, началница, помощница, дверница, ключница, блудница, чаровница, клеветница, работница, грѣшница* і інш.) складаюць пласт слоў, атрыманых у спадчыну ад старажытнарускага моўнага перыяду. Яны прадстаўлены ў «Материалах...» І. І. Сразнеўскага.

Другія словы (*наставница, праведница, скимница, проводница, угодница, зводница, суперница, племенница, шкодница* і інш.), будучы, відаць, таксама старажытнарускімі, не зафіксаваны ў слоўніку І. І. Сразнеў-

скага, хоць маюць там суадносныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду (*племенникъ, наставьникъ, правѣдьникъ, проводьникъ, угодникъ, суперьникъ, шкодьникъ, скимьникъ*), асновы якіх маглі ўтвараць адпаведныя жаночыя назвы.

Назоўнікі трэцяй групы (*поплечница, несчасница, стодольница, прелесница, звадница, наследовница, законница, танечница, нарекалница, коверница* і інш.) можна лічыць вынікам словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся ў межах заходнерускага моўнага арэалу асабліва актыўна ў другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. Гэтыя словы не адлюстраваны, напрыклад, у слоўніку І. І. Сразнеўскага. Не маюць яны там і суадносных ім асабовых назоўнікаў мужчынскага роду.

Па свайму лексічнаму значэнню разглядаемыя назоўнікі даволі разнастайныя. Але найбольш пашыранымі з'яўляюцца назвы жанчын па іх занятках ці роду дзейнасці (*дверница, ключница, стодольница, работница, шапочница, законница, коверница, помощница, учелица, пирожница, крупенница, дворница* і інш.).

Жаночыя намінацыі на *-иц*-а ад назоўнікавых асноў з дэрыватэмай *-икъ* (*-никъ*) у сваім складзе самыя шматлікія сярод утварэнняў на *-иц*-а ў беларускай мове разглядаемага перыяду.

Ад іншых структурных тыпаў асноў названыя фемінатывы адзінкавыя. Адзінкавымі, напрыклад, з'яўляюцца ў старабеларускай мове жаночыя асабовыя назвы, утвораныя па мадэлі «аснова назоўніка на *-чикъ* (*-щикъ*) (з усячэннем фіналі *-икъ*) + *-иц*-а»: небожчикъ (небощикъ) — *...водлѣ приданья н е б о ж ч и ц ы матки и тещи* (АЗР, II, 120), *...листъ записной н е б о щ и ц ы кнегини...* (АВК, III, 2), перекупщикъ — *...отъ каждого мѣста, на которомъ лавка, или таковой ряд будетъ находиться, или п е р е к у п щ и ц а сидѣть...* (ВС, 179).

Параўнальна мала слоў на *-иц*-а ўтваралася ў старабеларускай мове і па мадэлі «аснова назоўніка на *-ецъ* (з усячэннем *-ецъ*)+*-иц*-а»: старецъ — *...купилъ селище... въ с т а р и ц ы на имя въ Настасьи...* (РИБ, XXVII, 569), *и старцы и с т а р и ц ы и иныхъ добрыхъ людей много было при томъ* (АЗР, III, 233); облюбенецъ — *Посылала есми до него служебъника своего Яцыну, жадаючы, абы ко мнѣ приехалъ, и мене, о б л ю-*

*б е н и ц у свою, къ себе взялъ* (РИБ, X, 948)[45], *о б л ю б е н е ц ъ и о б л ю б е н и ц а два въ единомъ тѣлѣ* (РИБ, IV, 488); *Я дей то купилъ въ сестры и въ с е с т р е н ц а своего* (АЛМ, I, 90) — *...дали есмо село Жасковичи у володимерскомъ повѣтѣ, с е с т р е н и ц ы пана Немиры...* (АЮЗР, I, 21), *Дэтрык вэронэнъчык, которыи с е с т р е н и ц у Атылеву за собою мѣлъ...* (Атыла, 234); юнецъ[46] — *Повели сыномъ Ізрайлевымъ даприведуть ю н и ц у рижую зрослую лѣты...* (Скар. КЛ, 42); *...поповъ, ч е р н и ц ъ*[47] *и ч е р н ц о в ъ* (АЗР, III, 115), *убогие ч е р н ц ы и ч е р н и ц ы, которые при той церкви мѣшкаюць* (АЗР, IV, 7); молодецъ — 'юнотка, *молодиця*' (Бяр.$_1$, 117), *у м о л о д и ц ы войтовое обервали з шыи шнур денег московскихъ* (АВК, XXXIV, 421); синовецъ — *Ираклии власную внучку, або с иновицу за жону взял* (Бельск. 335$^б$); владелецъ — *вдова Михаила Тишкевича... пожизненная в л а д ѣ л и ц а оного...* (ИЮМ, XXV, 349) і інш.[48]

### Назоўнікі на -*иц*-а ад невытворных назоўнікавых асноў

Колькасць асабовых назоўнікаў жаночага роду на -*иц*-а ад невытворных назоўнікавых асноў у старабеларускай мове нязначная. Яны ўтвараліся ад асноў наступных назоўнікаў: король — *...Ядвизѣ к о р о л и ц и королевства Полского...* (АЗР, I, 26), *въскоре приѣха к немоу и своею к о р о л и ц е ю и честь великоу и дары многи подаваше емоу* (ЗРЛ. С. сп., 65); царь — *...а по тымъ проводилъ до того покою, гдѣ ц а р и ц а была* (АЮЗР, II, 112); пасербъ — *...жаловалъ на врадѣ зам-*

[45] У беларускай мове XVI ст. сустракаюцца выпадкі ўтварэння жаночай асабовай назвы ад асновы назоўніка *облюбенецъ* пры дапамозе суфікса -*ниц*-а: *съ панною о б л ю б е н н и ц е ю мѣлъ вѣнчати* (АЗР, IV, 60), *зъ себе истотне будучого, апостоломъ и о б л ю б е н н и ц ы своей показалъ* (РИБ, VII, 124).

[46] Гл.: *Вярхоў П. В.* Станаўленне словаўтваральных тыпаў асабовых назоўнікаў жаночага роду ў беларускай мове.— У зб.: Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1971, с. 41. Але намінацыя *юница* суадносіцца таксама і з асновай слоў *юн*-(-ый, -ая), *юнакъ*: *И всѣдъ на конь и поехал, а с ним десет ю н а к о в ъ* (Бава, 131).

[47] Па аналогіі з назвай *черница* пры дапамозе суфікса -*иц*-а ў старабеларускай мове ўтвараўся адпрыметнікавы назоўнік *белица* з антанімічным значэннем.

[48] Назоўнікі *молодица, синовица* ўспрымаюцца і як утварэнні ад асноў прыметнікаў *молод*-(-ой, -ая), *синов*-(-ый, -ая).

*ку господарскомъ Берестейском... возный именем пасербицы своее, мещанки Берестейское Ганны... на Лею Левковую* (АВК, V, 7)[49]; дѣва — *...з девицею послаша тѣ хлѣбцы...* (Бава, 241), *...а естли почтивость свою стратить, не есть дѣвица, але поистиннѣ блудница* (АЗР, IV, 227); золва — *золвица* (РИБ, XX, 34); мужъ — *...невѣста од мужа есть названа, ...невѣсту якобы мужжиною об мужицею значит* (Кн. раж., 5); пророкъ — *пророчица* (Скар. КС, 10); вдова — *...в одное старое вдовицы земянки...* (Троя, 50), *...а вдовицы и сироты начуютъ по улицамъ...* (АВК, XXXIV, 92); патрырхъ — *тыхъ кролевенъ Ангельскихъ и патрыяршыцъ новыхъ* (РИБ, XIX, 681) і інш. З прыведзеных прыкладаў відаць, што ў якасці ўтвараючых тут выступаюць як асновы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду *(король, царь, пасербъ, мужъ, патрыярхъ)*, так і жаночага *(дѣва, золва, вдова)*.

Па свайму значэнню разглядаемыя слова на *-иц-а* розныя. Тут і назвы жанчын па займаемай імі пасадзе ці пасадзе мужа *(королица, царица, патрыяршица)*, і па іх сямейнаму становішчу ці сваяцтву, фізіялагічнаму стану *(дѣвица, вдовица, пасербица, золвица, падчерица, мужица)*. З пункту гледжання іх паходжання, большая частка слоў на *-иц-а (королица, царица, вдовица, дѣвица, падчерица)* з'яўляюцца словамі старажытнарускімі. Асобныя з іх, мяркуючы па «Материалах...» І. І. Сразнеўскага, сустракаліся ў даволі ранніх старажытнарускіх помніках[50].

### Назоўнікі на *-иц-а* ад асноў складаных назоўнікаў

Жаночыя асабовыя намінацыі на *-иц-а* ў старабеларускай мове ўтвараліся ў шэрагу выпадкаў і ад асноў складаных назоўнікаў. Адрозненне паміж імі заключалася ў тым, да якіх часцін мовы належалі кампаненты складаных асноў і ці былі ў складзе дадзеных асноў су-

---

[49] *пасербъ*—пасынак, *пасербица*—падчарыца. Гл.: *Насовіч.* Рукапісны слоўнік, л. 293 ад.

[50] В. Ф. Мараш адзначае, што, напрыклад, слова *вьдовица* шырока ўжывалася яшчэ ў стараславянскай мове. Гл.: *Мареш В.* Славянское *вдова—вдовица.*— У кн.: Вопросы славянского языкознания, вып. 5. М., 1961. У старабеларускай мове гэта слова захоўвае жывыя словаўтваральныя сувязі з *вдова.*

фіксы. У сувязі з гэтым можна ўстанавіць наступныя структурныя тыпы ўтвараючых асноў, якія спалучаліся з суфіксам -*иц*-а ў старабеларускай мове:

1. «Аснова складанага назоўніка з другім дзеяслоўным кампанентам -*дѣй, -губъ*+-*иц*-а»: чародѣй — *оттоле послаша послы своя женоу ч е р о д и ц ю* (чародѣицу.— *М. П.*) *и два моужа с нею* (ЗРЛ. С. сп., 17), душегубъ — ...*пался еси, злодею, на женскую прелесть, д у ш е г у б и ц у*[51] *детей своихъ* (Бава, 260).

2. «Аснова складанага назоўніка з суфіксам -*ик* (-*никъ*) (з усячэннем фіналі -*икъ*) + -*иц*-а»: идолопоклонникъ — ...*отнялъ ю, хотя и д о л о п о к л о н н и ц у сотворити* (РИБ, XIX, 126), чужоложникъ — *и оная облюбеница маетъ трехъ мужовъ, ч у ж о л о ж н и ц а съ чужоложники мешкаючы* (РИБ, XIX, 209), злочастникъ — ... *а я з л о ч а с т н и ц а поставила Бова в тот час витезем* (Бава, 152), двоесловникъ — *двоесловница* (Бяр.1, 60), чародеиникъ — *чародеиница* (Будны, 19), великомученикъ — *великомученица* (Пралог, I, 484), иноплеменникъ — *иноплеменница* (Каліст, II, 256) і інш.

3. «Аснова складанага назоўніка на -*ецъ* (з усячэннем фіналі -*ецъ*) + -*иц*-а»: богомолецъ — ... *княгиня... свою б о г о м о л и ц у... не велѣла обидити* (АЗР, II, 340), чадолюбецъ — *цѣломудреннымъ, чистымъ мужелюбицамъ, ч а д о л ю б и ц а м ъ* (РИБ, VII, 844), боголюбецъ — *боголюбица* (Каліст, II, 219)[52].

У беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. сустракаюцца асабовыя жаночыя намінацыі, асновы якіх паходзяць, мабыць, непасрэдна ад словазлучэнняў, гэта значыць, складанымі з'яўляюцца не ўтвараючыя, а вытворныя асновы назоўнікаў на -*иц*-а. Праўда, словы на -*иц*-а такога тыпу адзінкавыя ў старабеларускай мове. Яны ўтварыліся па мадэлях:

1. «Словазлучэнне назоўніка з дзеясловам + -*иц*-а»: *моужелюбица* (магчыма, па аналогіі са словамі тыпу *боголюбица, чадолюбица*): *блгословенъ плодъ оутробы твоея м о у ж е л ю б и ц а* (Чэц., 79б), ... *она же предоб-*

---

[51] Намінацыя *душегубица* можа быць асэнсавана і як утварэнне ад асновы назоўніка *душегубец*, гэта значыць як слова, утворанае па другой мадэлі.

[52] Фемінінатывы *чадолюбица, боголюбица* таксама маюць суадносасць і са словазлучэннямі *чадо любити, бога любити*.

*рая моужелюбица* (ЗРЛ. С. сп., 52)[53], *христородица* (Зб. 82, 6) і інш.

2. «Словазлучэнне прыслоўя з дзеясловам + -*іц*-а»: *другую жонку Доротицу, тонкопрядицу с трома детьми* (АВК, XXII, 237).

У асобных выпадках складаныя намінацыі на -*іц*-а матывуюцца ў старабеларускай мове разгорнутымі сінтаксічнымі комплексамі, у склад якіх уваходзяць кампаненты будучага фемінінатыва на -*іц*-а: *единого моужа имеющая* ці тая, у якой *единъ моужъ* (ёсць, быў) →*единомоужица* (Чэц., 150). Семантычныя сувязі паміж вытворнымі і ўтвараючымі адзінкамі ў гэтых выпадках набываюць асобую форму, якая адрозніваецца ад той, што назіраецца ў бінарных апазіцыях тыпу *король — королица, царь — царица*[54] ці нават у апазіцыях тыпу *моужи любити — моужелюбица, христа родити — христородица.*

Аналіз утварэнняў на -*іц*-а ад складаных назоўнікавых асноў ці асноў, якія ўзыходзяць да словазлучэнняў і разгорнутых сінтаксічных комплексаў, паказвае, што спалучэнне дэрыватэмы -*іц*-а залежала толькі ад структуры тых кампанентаў асноў, да якіх далучаўся фармант -*іц*-а. Што ж датычыцца другіх кампанентаў, то яны не ўплывалі на характар спалучэння. Іх функцыя абмяжоўвалася толькі фарміраваннем лексічнага значэння ўтвараючага слова.

### Назоўнікі на -*іц*-а ад прыметнікавых і дзеяслоўных асноў

Асабовыя жаночыя назвы на -*іц*-а, утвораныя ад указанага тыпу асноў, нешматлікія ў беларускай мове XIV—XVIII ст.ст.

Калі гаварыць аб намінацыях на -*іц*-а ад прыметнікавых асноў, то яны ўтвараліся:

1. Ад невытворных прыметнікавых асноў: бел-ая (ый) — *...оная черница, теперешняя пани Кощыная, збудовала была собе, въ маетности отцовской, Белякахъ каплицу и келію, а потомъ, подъ бытность въ здешнемъ*

---

[53] Назва *моужелюбица* магла ўтварыцца і шляхам далучэння другога кампанента слова непасрэдна да намінацыі на -*іц*-а. Параўн., напрыклад: *...мужю любица боудеть...* (Неба, 88).

[54] Гл. аб гэтым: *Кубрякова Е. С.* Теория мотивации и определение степеней мотивированности производного слова.—У кн.: Актуальные проблемы русского словообразования, т. 2. Ташкент, 1976, с. 286 і наступн.

*краю небошчыка Кошки, зъ онымъ на Низъ одъехала и оттуль вжо не черницою, ено б е л и ц о ю знову до Беляковъ вернула се* (ИЮМ, VIII, 417), люб-ая (-ый) — *...тако и женескъ пол мужю л ю б и ц а боудеть...* (Неба, 88), менъш-ая (-ий) — *шес'тьдесятъ естъ царицъ и осмъдесятъ м е н ъ ш и ц ь...* (Скар. ПП, 8б), красн-ая (-ый) — *...въстань собѣ подруго моя к р а с н и ц е моя поиди собѣ* (Зб. 262, 83б), свят-ая (-ой) — *кончается книга судей... всемъ небесным силамъ, святымъ и с в я т и ц а м ъ божимъ ко славе* (Скар. КС, 48).

2. Ад прыметнікавых асноў (дзеепрыметнікавага паходжання) з суфіксам *-ен*-ая ў сваім складзе: пущеная — *...девицу собѣ да поиметь за жену, вдовы же и п у щ е н и ц и и блудници да не понимаеть* (Скар. КЛ, 40б).

3. Ад прыметнікавых асноў (дзеепрыметнікавага паходжання) з прэфіксам *о*- і суфіксам *-ен*-ая ў сваім складзе: ошлюбеная — *...тую зоставу свою той о ш л ю б е н и ц ы своей пней Барбаре Жовтювне* (АВК, XXXII, 456), осужденая — *...о с у ж д е н и ц ы въ темницы затворени* (РИБ, VII, 63).

Што датычыцца ўтварэнняў на *-иц*-а ад дзеяслоўных асноў, то яны адзінкавыя ў мове разглядаемага перыяду: ближити (ся) — *'ближица,* пучиннаа' (Бяр., 302) [55].

Як мы бачылі, назоўнікі на *-иц*-а са значэннем асобы жаночага полу ўтвараліся пераважна ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду. У якасці ўтваруючых выступалі як невытворныя, так і розныя па сваёй структуры вытворныя назоўнікавыя асновы.

Пераважная большасць разглядаемых назоўнікаў утваралася ад вытворных асноў з суфіксамі *-икъ (-никъ), -чикъ (-щикъ), -ецъ,* сярод якіх найбольшай актыўнасцю характарызуюцца асновы на *-икъ (-никъ)*. Амаль ва ўсіх выпадках пры далучэнні дэрыватэмы *-иц*-а назіраецца ўсячэнне вытворнай асновы. Такая з'ява не была паўсюднай пры ўтварэнні асабовых фемінінатываў на *-к*-а.

Выпадкі двайной суадноснасці некаторых назваў на *-иц*-а з утваруючымі асновамі (як гэта назіралася і пры аналізе асабовых назоўнікаў на *-к*-а) тлумачацца не

[55] Статус паходжання гэтага слова няпэўны. Яно можа быць асэнсавана і як вытворнае ад асновы прыметніка вышэйшай ступені *ближѣи*.

толькі варыянтнасцю некаторых назоўнікаў мужчынскага роду (душегубъ, душегубецъ→*душегубица;* чародѣй, чародѣиецъ→*чародѣица* і інш.), але і складанымі структурна-семантычнымі сувязямі вытворнага слова з некалькімі ўтвараючымі як лексічнымі, так і сінтаксічнымі адзінкамі (чадолюбецъ, чадо любити→*чадолюбица;* ближити (ся), ближѣи→*ближица;* моужи любити, мужю любица→*моужелюбица* і г. д.).

Сярод назоўнікаў на *-иц-*а вылучаецца значная па свайму аб'ёму група слоў, атрыманых у спадчыну ад старажытнарускага моўнага перыяду *(царица, дѣвица, вдовица, мученица, падъчерица, посадница, дверница, бѣдница, служебница, ключница, работница, грѣшница, блудница, старица, душегубица, первомученица* і інш.). Аб гэтым сведчыць наяўнасць дадзеных лексем у вядомых лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы, у прыватнасці ў «Материалах...» І. І. Сразнеўскага.

Для слоў другой групы *(племенница, дворница, праведница, шкодница, богомолица, угодница, наставница, молодица, небожчица* і інш.) цяжка вызначыць іх паходжанне і час узнікнення. Яны не прадстаўлены ў лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы. Праўда, многія з іх маюць там суадносныя сабе асабовыя назоўнікі мужчынскага роду *(племеньникъ, дворьникъ, праведникъ, шкодьникъ, угодьникъ, наставникъ, супьрникъ, молодьць* і інш.), што дае падставу меркаваць аб наяўнасці адпаведных жаночых назваў у старажытнарускай мове, якія не зафіксаваны І. І. Сразнеўскім.

Шэраг назоўнікаў на *-иц-*а не толькі не адлюстраван у «Материалах...» І. І. Сразнеўскага, але і не мае ў гэтай крыніцы суадносных назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу *(поплечница, прелесница, вшетечница, нешляхэтница, облюбеница, звадница, законница, шапочница, стодольница, перекупщица, злочастница, двоесловница, несчастница, пасербица* і г. д.). Паводле гэтага можна меркаваць, што многія з іх *(поплечница, стодольница, звадница, законница, тонкопрядица* і інш.) з'яўляюцца вынікам словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся ў межах заходнерускага моўнага арэалу.

Па сваму лексічнаму значэнню назоўнікі на *-иц-*а самыя разнастайныя. Сюды адносяцца назвы жанчын па іх занятках, дзейнасці *(дверница, ключница, шапочница, стодольница, челядница, законница, наставница, служеб-*

*ница, тонкопрядица)* і імёны жанчын, дадзеныя па паводзінах асобы *(шкодніца, вшетечница, блудница)*, унутраных якасцях *(прелесница, праведница, несчастница)*, сацыяльнаму стану *(невольница, нешляхэтница)* і назвы са значэннем роднасці, сваяцкасці, сямейнага стану *(пасербица, вдовица, золвица, племенница, падъчерица, пущеница, ошлюбеница)* і некаторыя іншыя.

### Назоўнікі на *-ниц*-а (*-лниц*-а), *-лиц*-а, *-овиц*-а

Фемінінныя намінацыі на *-ниц*-а (*-лниц*-а), *-лиц*-а, *-овиц*-а нешматлікія ў беларускай мове разглядаемага перыяду. Напрыклад, утварэнні з суфіксамі *-лиц*-а, *-овиц*-а наогул адзінкавыя: доити — 'Питателница: *Доилица*, мамка, кормилница' (Бяр. 104); отрокъ — *И в тот час почала говорити отроковица* (Чэц., 7б), *Отроковица бо не соблюдши дѣвства, оскверни тѣло* (АЗР, III, 118); ляхъ — *meł ieśmy za soboiu try żony dwe Lachowicy, a tretiuiu Nemkiniu, a płody ieśmy z nimi ne meł* (Быx., 518).

Некалькі шырэй прадстаўлены ў мове беларускай народнасці асабовыя жаночыя назвы на *-ниц*-а (*-лниц*-а). Яны ўтвараліся ад розных у структурных адносінах асноў. У сувязі з гэтым выяўляюцца наступныя мадэлі, па якіх ішло ўтварэнне намінацый з указанымі суфіксамі:

1. «Невытворная аснова мужчынскага асабовага назоўніка + *-ниц*-а»: скоморохъ—*...и пошла з города, вчынившы ся скоморошницою и шла по свету и по городехъ играла у гусли* (Бава, 168), супругъ — *...не может не поняти ю въ супружницу себѣ* (Сакр., 17б).

2. «Прэфіксальна ўскладненая аснова жаночага асабовага назоўніка + *-ниц*-а»: падруга — *Слава цябѣ господзи... заступи на царства мянѣ Змитрака, и падружницу пеклу Несцѣравну...* (Смал. камед., 70).

3. «Аснова неасабовага назоўніка + *-ниц*-а»: нерад [56] — 'блудница: *Нерядница,* а бо посполитаа вшетечница своволнаа невстыдливаа' (Бяр. 8), *звитяжила Самъсона нерадница* (Зб. 259, 595б).

4. «Аснова дзеяслова на *-и*-ти + *-лниц*-а»: доити — *Даречеши комнѣ понеси их нарамену твоемъ якоже доилница носить детище свое* (Скар. КЛ, 27б), корми-

[56] *...то ест вшетеченство и нерад, которог пан богъ срокго заказует* (Зб. 261, 254).

ти — 'Питателница: Доилица мамка, *кормилница*' (Бяр., 104).

5. «Аснова асабовага назоўніка з суфіксам *-тухъ+ +ниц-а*»: пастухъ — *...на сеножати моей врочищомъ называемой над болотомъ Услоею, лежачою у повете Упитъскомъ... пастушницы, невольницы моей, на име Ягнесце Ановне* (АВК, XXVI, 364), *...девку пастушницу мою помененую* (там жа).

6. «Аснова асабовага назоўніка з суфіксам *-тель+ +-ниц-а*»: учытель— ... *яко то мати всихъ въ Христа верүючыхъ и учытельница* (РИБ, XIX, 513); питатель[57]—*отцевъ и матерей, чадъ и питательницъ богомолюбивыя сердца отъ жалости* (РИБ, XIX, 404); *Хрстс живым кормитель заблужьшимъ направитель* (Чэц., 21) — *...ты еси... сиротамъ кормителница* (Чэц., 80б); правител — *правителница* (Каліст, II, 326б); вѣритель — *Вѣрительница его какъ мать, выразила готовность подтвердить свидѣтельствомъ... хозяина* (ИЮМ, VI, 291).

7. «Аснова суфігіравана-прэфігіраванага назоўніка на *-тель+-ниц-а*»: нарекатель — 'Тужница, *нарекательница*' (Бяр.1, 106), повелитель —'Татьяна, *повелительница*' (Бяр.1, 104), сожитель — *...сожительница благочестивого царя Өедора* (АЗР, IV, 50), Зачател — *зачателница* (Зб. 262, 83б).

8. «Аснова складанага назоўніка на *-тель+-ниц-а*»: узорѣшитель — 'фармаколистріе, *узорѣшительница*' (Бяр.1, 111)[58].

9. «Аснова складанага назоўніка з кампанентам *-дѣй+ниц-а*»: злодѣй — *злодѣиница* (Чэц., 251), любодѣй[59] — *сама боудучи любодѣиница...* (Чэц. 355б).

Шэраг названых вышэй слоў (*питателница, учительница, сожительница, отроковица*) атрыман у спадчыну ад агульнаўсходнеславянскай мовы. Для слоў *скоморошни-*

[57] *питатель* — 'той, хто дае жыццё, кармілец, заступнік', *питательница* — 'карміліца'. Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 2, с. 941.

[58] Назоўнік *узорѣшительница* таксама можна лічыць утвораным (па аналогіі з назоўнікамі тыпу *сожительница, питательница, учителница*) пры дапамозе суфікса *-тельниц-*а ад асновы, якая ўзыходзіць да словазлучэння *узоръ (узоромъ) шити.*

[59] Фемінінатыў *любодѣиница* мае суадноснасць таксама з назоўнікам *любодѣйица.*

*ца, пастушница, повелительница, нарекательница, узорѣшительница* і падобных цяжка высветліць гістарычныя шляхі развіцця і вызначыць час іх узнікнення. Можна меркаваць, што асобныя з іх таксама існавалі яшчэ ў старажытнарускую пару, але не былі зафіксаваны ў адпаведных крыніцах. З помнікаў старабеларускай мовы вядома толькі, што ўсе яны ўжываліся ў мове беларускай народнасці нароўні са словамі іншых лексічных пластоў.

## Назоўнікі на *-ин*-а (*-ын*-а), *-ин'*-а (*-ын'*-а)

Суфікс *-ин*-а (*-ын*-а), будучы агульнаславянскім, характарызуецца ў старабеларускай мове даволі шырокімі словаўтваральнымі сувязямі [60]. Пры яго дапамозе ўтваралася вялікая колькасць назоўнікаў розных семантычных разрадаў [61], але асабовыя жаночыя назвы [62] займаюць сярод іх нязначнае месца. Яны ўтвараліся звычайна ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду па наступных мадэлях:

1. «Невытворная аснова мужчынскага асабовага назоўніка+*-ин*-а (*-ын*-а)»: пасербъ — *...с пасынками двема, Павлюкомъ и Якубомъ Мартиновичы и с пасербинами Милою и Занею Мартиновнами* (АВК, XXVI, 482), швакгръ — *именемъ малжонки своей Зофіи Матеевны... и именемъ швакгрыны своее панны Раины Матеевны...* (АВК, VIII, 482). Сюды ж далучаюцца словы *грекына, чехына* (ад грекъ, чехъ), у якіх суфікс *-ын*-а з'яўляецца, відаць, вынікам кантамінацыі *-ын*-и↔*-ын*-а, напрыклад: *...а от Грекыны родися Стополкъ, а от Чехыны роди Вышеслава* (ЗРЛ. С. сп., 12).

[60] А. Мейе адзначаў, напрыклад, што суфікс *-ин*-а ўжо ў агульнаславянскую эпоху ўтвараў «вытворныя розных значэнняў». Гл.: *Мейе А.* Общеславянский язык. М., 1951, с. 294.

[61] Нягледзячы на гэта, назоўнікі на *-ин*-а (*-ын*-а) пакуль што не сталі аб'ектам спецыяльнага даследавання ў беларускім мовазнаўстве. Усё тое, што датычыцца дадзенай катэгорыі слоў, абмяжоўваецца слушнымі заўвагамі Я. Ф. Карскага (*Карский Е. Ф.* Белорусы. Язык белорусского народа, вып. 2—3. М., 1956, с. 28), асобнымі назіраннямі П. В. Вярхова (*Вярхоў П. В.* Назоўнікі з суфіксамі *-инъ*, *-ин*-а ў беларускай мове.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1972, № 2) ды заўвагамі ў акадэмічнай граматыцы беларускай мовы і існуючых дапаможніках для ВНУ.

[62] Сюды не ўключаюцца жаночыя асобовыя імёны і прозвішчы тыпу *Кулина, Агрипина, Гебрихина*, словаўтваральны рад якіх з'яўляецца адкрытым у старабеларускай мове.

2. «Аснова асабовага назоўніка на *-акъ* (*-якъ*)+ +*-ин*-а»: *своякъ — своячина* (АВК, XXI, 416).

Да разглядаемых назоўнікаў на *-ин*-а (*-ын*-а) прымыкаюць словы тыпу *воеводина, дядина, конюшина, охмистрина, подкоморина, подчашина, старостина, судина, хоружына* і падобныя, што з'яўляюцца, відаць, усечанымі (ці сцягненымі) формамі субстантываваных прыметнікаў *воеводиная, дядиная, конюшиная, охмистриная, подкомориная, подчашиная, старостиная, судиная, хоружиная*[63] і г. д., якія ўтвараліся пры дапамозе суфікса *-ин*-ая (*-ын*-ая) адпрыметнікавага паходжання і якія ўжываліся паралельна з формамі на *ин*-а (*-ын*-а). Напрыклад: *...ее милость пани воеводиная Смоленская при церкви для набоженства... стояти рачила...* (АВК, VIII, 31) і *...ее милость пани воеводина Смоленская при церкви... стояти рачила...* (АВК, VIII, 36), *...пани Ярошовая Корицкая — конюшиная господарьская... пана Яроша Корицкого — конюшого господарьского* (АВК, XXII, 377) і *...ижъ пани конюшина вжо по смерти малжонка своего тое сумы пенезей отъ ихъ дей взяти...* (АВК, XXII, 332), *...ей милости паней Масалское подкоморыное Городенское...* (АВК, XXX, 238) і *Пани Зофея Конецпольская, подкоморина Серадская* (Арх. зб., IV, 262), *...пани Кгарлинска — подчашиная Оршанская...* (АВК, XV, 271) *і Нагурчанка Анна... подчашина...* (АВК, XX, 494), *...отъ сестръ моихъ рожоныхъ старостиное Луцкой кнегини Андреевой...* (АЗР, III, 135) і *...жаловалъ намъ воевода Троцкій на нѣвестку свою старостину Браславскую...* (АЗР, I, 121), *при земли пани Патковской — судиной Мельницкой* (АВК, XIV, 188) і *Рожа Павлова, судина кгродцка...* (РИБ, XXXIII, 1115) і г. д.

Калі абапірацца на той матэрыял, які аналізуецца намі, можна меркаваць, што ўсечаныя формы на *-ин*-а (*-ын*-а) ад адпаведных субстантываваных прыметнікаў на *-ин*-ая (*-ын*-ая) з'яўляюцца ў старабеларускай мове ў другой палове XV ст. Найбольш пашырана гэта з'ява ў XVI — пачатку XVII ст. З цягам часу формы на *-ин*-а (*-ын*-а) набываюць у мове пэўную аўтаномнасць і ў сувязі з гэтым пачынаюць суадносіцца таксама і з адпавед-

[63] Гл. заўвагу Я. Ф. Карскага, які быў схільны бачыць у словах тыпу *дядина* іменную форму прыметніка (*Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28).

нымі мужчынскімі асабовымі назоўнікамі (дядя — *дядина,* воевода — *воеводина,* староста — *старостина,* подчаший — *подчашина,* хоружий — *хоружина* і г. д.).

Што датычыцца суфікса *-ин*'-а (*-ын*'-а), які, на думку Я. Ф. Карскага, з'яўляецца вынікам пераўтварэння старадаўняга суфікса *-ын*'-и (*княгыни*) [64], то ён быў у старабеларускай мове, у адрозненне ад суфікса *-ин*-а (*-ын*-а), больш спецыялізаваным для ўтварэння жаночых асабовых назваў [65]. Утвараліся яны таксама ад асноў мужчынскіх асабовых назоўнікаў па мадэлях:

1. «Невытворная аснова мужчынскага асабовага назоўніка+*-ин'*-а (*-ын'*-а)»: князь — *...старостам, державцам, княгиням, паням, вдовам...* (БА, I, 31); грекъ — *Володимеръ же за же женоу братню. Грекыню и бѣ непразна от нея же родися Стополкъ* (ЗРЛ. С. сп., 11), *...бо мти преже черницою была... грекини боудчи...* (Чэц. 87); врагъ — *...и узрю правду его, и узрить врагиня моя и облечется студомъ...* (РИБ, IV, 803—804); маистрь — *не иная столица намъ подана з маистриню и одигитрію, то есть за наставницу збавеня нашего...* (РИБ, IV, 380) [66]; монархъ — *монархиня* (АЗР, V, 174); лотръ — *...до того еще показывалъ и доводилъ на нее презъ люди добрые, же естъ великою лотрынею, што и въ семъ декрете нашомъ писать брыдливо...* (ИЮМ, VIII, 328); богъ—*...на тое веселе целешово просил Юпитер мног богов богин, и розмаитых людеи* (Бельск., 36б); рабъ—*...иже по сему отбѣгаютъ рабы и рабыни* (Ар. вр., 136); инокъ — *инокиня* (АЗР, IV, 192).

2. «Аснова асабовага назоўніка з суфіксам *-ак* (*-якъ*)+*-ин'*-а (*-ын'*-а)»: своякъ — *А у Фрянского коро-*

---

[64] Гл.: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28. Праўда, Я. Ф. Карскі не ўказвае, у які перыяд моўнага развіцця гэты працэс адбыўся. Калі меркаваць па выніках даследавання Ж. Ж. Варбот, суфікс *-ин*'-а (*-ын*'-а) трэба лічыць агульнаславянскім. Гл.: *Варбот Ж. Ж.* Древнерусское именное словообразование. М., 1969, с. 85. У старабеларускай мове словы тыпу *княгиня, рабыня, грекыня* ўспрымаліся як утвораныя пры дапамозе суфікса *-ин*'-а (*-ын*'-а).

[65] Гэта тэндэнцыя суфікса *-ин*'-а (*-ын*'-а) назіралася ўжо ў старажытнарускі перыяд. Гл.: *Мижевская Г. М.* Суффиксальное образование существительных женского рода в древнерусском литературном языке (XI—XII ст.).— «Труды Одесского ун-та», 1959, т. 149. Сер. филол. наук, вып. 9, с. 173.

[66] У дадзеным кантэксце слова *маистриня* ўжываецца ў пераносным значэнні.

*ля сестра, а угорьскому королю с в о я к и н я* (АЗР, I, 326), *...зъ жоною своею... и з сестрами ее с в о я к и н я м и своими* (АВК, XXXII, 256).

3. «Аснова асабовага назоўніка з суфіксам *-инъ* (з усячэннем *-инъ*)+*-ин'*-а (*-ын'*-а)»: *а от Б о л г а р и н и роди Бориса и Глѣба...* (ЗРЛ. С. сп., 12); бояринъ—*Жаловала нам* [ъ] *б о я р ы н я... на боярына господаръского* (БА, II, 8); господинъ (кгосподинъ)[67] — *...тая Ульяна г о с п о д ы н я моя...* (АВК, XXXVI, 152), *...збитьѣ и окровавленьѣ г о с п о д ы н и* (АЗР, IV, 519)[68]; самаранинъ — *...але болеи потверьдилъ гдѣ ко с а м а р а н ы н ѣ рече, жено вѣруи ми* (Будны, 11).

4. «Аснова асабовага назоўніка з суфіксам *-арь* (*-аръ*)+*-ин'*-а (*-ын'*-а)»: господарь (господаръ) —*...г о с п о д а р ы н я королевая её милость при всемъ томъ рачила его оставити* (АЮЗР, I, 295), *...зъ раменя г о с п о д а р и н и её милости...* (АВК, XI, 29); государь[69] — *И коли девка видела свою г о с у д а р и н ю умерлую, она почала плакати...* (Троя, 6), *канцлѣря г о с у д а р ы н и нашое королевое...* (АЗР, I, 277).

5. «Аснова мужчынскага асабовага назоўніка ад'ектыўнага тыпу скланення +*-ин'*-а (*-ын'*-а)»: державчий — *Протодей мѣлъ былъ свещенникъ жену мою, яко д е р ж а в ч и н ю, позывати* (Арх. зб., II, 154).

6. «Аснова, утвораная са словазлучэння+*-ин'*-а (-ын'-а)»: безъ дѣтокъ —*...плачте... иже придоут дни оу которых речете благословленые б е з д ѣ т к и н е, которыи не родили...* (Пак. Хр., 10).

---

[67] У значэнні 'гаспадар': *...записуем... кгосподину отцу Василию Семеновичу Титовичу, свещенику* (ИЮМ, XXVIII, 125).

[68] Фемінінатыў *господыня* можа асэнсоўвацца і як намінацыя, матываваная назоўнікам *госпóда* (гэта значыць *гаспадарка*): *...Пришли до г о с п о д ы того Петровского...* (ИЮМ, XXII, 243). З цягам часу слова *господыня* пачало семантычна суадносіцца ў старабеларускай мове з назоўнікам *господарь* і асэнсоўвацца як утварэнне ад асновы гэтага назоўніка: *...г о с п о д а р я домового такъ тежъ и г о с п о д ы н ю або сына або дочку... збилъ...* (ЛС, 1588, 316).

[69] Слова *государь* паходзіць з *господарь*, якое ў сваю чаргу звязана з *господь*. Гл.: *Фасмер М.* Этимологический словарь русского языка. М., 1964, т. 1, с. 446. У старабеларускай мове слова *государь* выступае, відаць, як адзінка з «зацямнёнай» словаўтваральнай структурай. На думку некаторых даследчыкаў, словы такога тыпу падпарадкоўваюцца старабеларускай мадэлі на *-аръ* (*-яръ*) і таму павінны разглядацца ў сістэме слоў з адыменнымі асновамі на *-аръ* (*-яръ*). Гл.: *Вярхоў П. В.* Назоўнікі на *-аръ* (*-яръ*) у беларускай мове. Мінск, 1970, с. 16.

Суфіксы *-ин*-а (*-ын*-а) і *-ин'*-а (*-ын'*-а) не адрозніваліся паміж сабой па сваіх функцыях. Аб гэтым сведчыць факт змешвання названых дэрыватэм пры ўтварэнні асобных фемінінных намінацый, напрыклад, *...а от Грекыны родился Стополкъ* (ЗРЛ. С. сп., 12) і ... *Володимеръ же заляже женоу братню. Грекыню...* (там жа, 12), *чехына — чехыня.*

Фемінінатывы на *-ин*-а (*-ын*-а), *-ин'*-а (*-ын'*-а) са значэннем асобы неаднолькавыя па свайму паходжанню.

Адны з іх існавалі ўжо ў старажытнарускі перыяд (*богыни, княгиня, инокыни, бояриня, господариня* (*господарыни*), *господыни, рабыня, грѣкыня, чехиня, болгарыня* і інш.) [70].

Другія (*охмистрина, швакгрына, пасербина, лотрыня, дядина, старостина, хоружына, подкоморына, подчашина, воеводина* і інш.) можна, відаць, лічыць вынікам словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся ў межах беларускага моўнага арэалу. Гэтыя словы адсутнічаюць у вядомых лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы, напрыклад у слоўніку І. І. Сразнеўскага, дзе не зафіксаваны і назоўнікі *лотръ, швагръ, пасербъ, охмистръ, хоружий* і г. д. (пераважна іншамоўнага паходжання), ад асноў якіх утвараліся адзначаныя жаночыя асабовыя назвы.

Што датычыцца слоў *своячина, своякиня, маистриня*, то можна меркаваць, што яны бытавалі ў старажытнарускай мове, але не знайшлі адлюстравання ў лексікаграфічных крыніцах. Аб гэтым сведчыць наяўнасць у тым жа слоўніку І. І. Сразнеўскага адпаведных мужчынскіх назваў (*своякъ, маистръ* (*магістръ*), асновы якіх маглі ўтвараць суадносныя жаночыя намінацыі.

Нешматлікія ў старабеларускай мове назоўнікі на *-ин*-а (*-ын*-а), *-ин'*-а (*-ын'*-а) — разнастайныя па сваіх лексіка-семантычных прыметах. Тут можна вызначыць:

а) словы са значэннем кіруючай асобы (*маистриня, монархиня*);

---

[70] Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 1, с. 140, 162, 563, 565, 1104, 1397; т. 3, с. 7. На наяўнасць у старажытнарускай мове слоў *грѣкыня, чехыня, болгарыня* ўказвае Г. М. Міжэўская са спасылкай на Лаўрэнцеўскі і Ноўгарадскі летапіс. Гл.: *Мижевская Г. М.* Суффиксальное образование существительных женского рода в древнерусском языке (XI—XII ст.).— У кн.: «Труды Одесского ун-та», 1959, т. 149. Сер. филол. наук, вып. 9, с. 173.

б) назвы жанчын па займаемай імі пасадзе (*охмистриня* — 'ключніца, домакіраўніца');

в) намінацыі, якія ўказваюць на нацыянальную прыналежнасць жанчын (*болгариня, грекиня (грекына), чехыня (чехына)*;

г) назоўнікі са значэннем роднасці, сваяцтва (*своячина, своякиня, швагрына, пасербина, дядина)*;

д) назвы жанчын па іх прыналежнасці да той ці іншай сацыяльнай групы (*княгиня, бояриня (боярыня), рабыня)*;

е) жаночыя назвы са значэннем адмоўных паводзін (*лотрыня, врагиня)*;

ж) назоўнікі, якія ўказваюць на духоўнае званне жанчыны (*инокиня, монахиня*);

з) словы, якія з'яўляюцца назвамі жонак па сферы дзейнасці, занятках ці сацыяльнай прыналежнасці мужа (*господариня (господарыня), государиня (государыня), господыня, воеводина, конюшина, подкоморина, подчашина, старостина, хоружына* і інш.).

Зразумела, што межы асобных разрадаў слоў у нейкай ступені ўмоўныя, паколькі некаторыя словы маглі быць адначасова і андранімічнымі назвамі, гэта значыць называць жанчыну па яе пасадзе ці сацыяльнай прыналежнасці, і выступаць у ролі фемінізуючых намінацый — абазначаць жонку таго, хто названы адпаведнай мужчынскай асабовай намінацыяй (*княгиня, господарыня, государыня, старостина* і інш.).

## Назоўнікі на -*н*-а (-*овн*-а, -*евн*-а)

Асабовыя назоўнікі на -*н*-а абазначалі ў старабеларускай мове дзяцей жаночага полу. Яны ўтвараліся па мадэлі, агульнай для ўсходнеславянскіх моў. Суфікс -*н*-а далучаўся да асноў назоўнікаў (агульных і ўласных) на -*ичь* (-*овичь, -евичь*) (з усячэннем фіналі -*ичь*[71]), якія з'ўляліся назвамі дзяцей мужчынскага полу: паничь — *которая* *п а н н а* *замужъ пойдетъ*... (АЗР, I, 15), княжичь — ...*село, прозываемое Каленики, которое её ми-*

[71] Гл. абгрунтаванне схемы ўтварэння тыпу *попъ—поповичъ—поповна* ў Г. Паўскага: «Пры ўтварэнні іменаў гэтай пароды (гэта значыць назваў тыпу *царевна, дядковна, Петровна.— М. П.*) трэба прыпомніць тое, што сказана аб утварэнні мужчынскіх іменаў, якія маюць канчатак -*ичь* (да бацькоўскіх іменаў, якія маюць канчатак

*лость* *к н е ж н а Соколинская держыть...* (АВК, XXXVI, 274), сестричичь —...*коли с е с т р и ч н а её лѣтъ своихъ доростеть...* (АЮЗР, II, 107), царевичь —...*стояли на Поклонной горѣ до позднихъ обѣдовъ, гдѣ килка тысячей з ц а р е в н о ю возовъ скарбныхъ... выправлено до Литвы* ...(АЮЗР, II, 112), дядковичь — ...*а дядковичи его Янъ Гинцичъ, а Карловичъ, а Болцевичъ, а д я д к о в н а ихъ Бобровна блізостію по дядку своемъ...* (АЛМ, I, 110), королевичь (кролевичь) — ...*съ королевичомъ и съ к о р о л е в н а м и* (АЗР, II, 156), чашъниковичь — *Макъгъданеною Петъковною — ч а ш ъ н и к о в н о ю великого князства Литовского* (АВК, XXVI, 75), поповичь — *п о п о в н ы* С е м е н о в с к о е й... (АВК, VI, 42), писаровичь — *писаровна* (АВК, IX, 42), каштеляновичь — *каштеляновна* (Арх. зб., IV, 304), братаничь — *братанна* (ЗРЛ. Сп. гр. Кр. 155), *князь Андрей... и з б р а т а н и ч а м и и з б р а т а н н а м и своими...* (РИБ, XXXIII, 17), подсудковичь — *подсудковна* (ИЮМ, XXII, 275), маршалковичь — ...*паны Гелены... м а р ш а л к о в н ы Оршанской* (АВК, XIX, 98), ксенжичь — *ксенжна* (АВК, I, 329), слодовъниковичь — *слодовъниковъна* (АВК, XX, 369), стольниковичь—*стольниковна* (АВК, I, 135) і інш.

Назвы на *-ичь (-овичь, -евичь),* да асноў якіх далучаўся суфікс *-н-а,* у сваю чаргу ўтвараліся ад розных па семантыцы мужчынскіх назоўнікаў, якія звычайна называлі бацькоў па іх пасадзе, сацыяльнаму становішчу, духоўнаму званню.

Паколькі словы тыпу *панна, паповна, дядковна, каштеляновна, маршалковна, королевна* і г. д. называюць дачок, яны могуць быць асэнсаваны і як утварэнні на *-н*-а, *-овн*-а (*-евн*-а) ад асноў назоўнікаў *панъ, попъ, дядко, каштелянъ, маршалокъ, король*[72]. Гэта рыса адчуваецца ў намінацыях, утвораных ад асноў уласных

---

на ъ, ь, й, склад *-ичь* прыкладаецца не непасрэдна, а пры дапамозе *-ов, -ев*). Тое ж прамежнае звяно патрабуецца і перад *-на.* Ад *Петръ—Петровичь,* ад *царь—царевичь—царевна».— Павский Г.* Филологические наблюдения над составом русского языка. Рассуждение второе, с. 147.

[72] Як вядома, у сучаснай беларускай мове гэтыя словы так і ўспрымаюцца: «Суфіксы *-еўн*-а (*-эўн*-а), *-ёўн*-а (*-оўн*-а). З гэтымі суфіксамі ад асноў назоўнікаў утвораны назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага паходжання: *каралеўна, царэўна, папоўна, дзякоўна*».— Гл.: Граматыка беларускай мовы. Мінск, 1962, с. 114.

назоўнікаў, якія з'яўляюцца імёнамі ці прозвішчамі бацькоў: Михаилъ — *кнегини Настасьи Михайловне потдавалъ...* (АВК, XXII, 3), Овкгуштинъ — *Якожъ дей жона Яна Адамовича Ганна Овкгуштиновна... услышавши крикъ того тивонца своего, выбѣгла* (Арх. зб., III, 23), Иванъ Клыпачь — *...жона его Овдотя Ивановна Клыпачовна... з дому его прочь пошла...* (ИЮМ, XXXII, 181), Андрей —... *мещанки Могилевское Устины Андреевны...* (ИЮМ, XXXII, 89), Матей — *Матеевна* (Арх. зб., IV, 72), Саковичь — *Саковичовна* (там жа), Радивилъ — *Радивиловна* (АВК, I, 335) і г. д.

Можна меркаваць, што на базе такіх утварэнняў у выніку марфалагічнага пераразкладання, абумоўленага ў значнай ступені двайной суадноснасцю вытворных слоў з утвараючымі асновамі, з'явіўся суфікс *-овн*-а (*-евн*-а), які ў сучаснай беларускай мове ўтварае пераважна ўласныя назвы дачок па бацьку, далучаючыся непасрэдна да асноў уласных бацькоўскіх імёнаў.

Наяўнасць вялікай колькасці прыкладаў разглядаемага тыпу ў старабеларускай мове сведчыць аб практычна неабмежаваных магчымасцях суфікса *-н*-а (*-овн*-а, *-евн*-а) утвараць жаночыя асабовыя намінацыі ад асноў уласных мужчынскіх імёнаў і прозвішчаў.

Па свайму паходжанню аналізуемыя намінацыі неаднолькавыя. Адны з іх (*княжна, сестрична, королевна, царевна, братанна*) можна лічыць утварэннямі, атрыманымі ў спадчыну ад агульнаўсходнеславянскай эпохі[73]. Другія (*каштеляновна, маршалковна, подсудъковна*) узніклі, відаць, непасрэдна ў старабеларускай мове па агульнаславянскай мадэлі. Трэція з'яўляюцца, мабыць, запазычаннямі з польскай мовы (*кролевна, ксенжна, слодовъниковна*). Што датычыць слоў *дядковна, поповна, писаровна, стольниковна,* то яны адсутнічаюць у вядомых лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы, напрыклад у І. І. Сразнеўскага. Аднак там прадстаўлены адпаведныя мужчынскія назвы *дядько — дядьковичь, попъ — поповичь, писарь, стольникъ* (пры адсутнасці *писаревичь, стольниковичь*). Гэта дае падставу меркаваць, што намінацыі *дядковна, поповна, писаров-*

[73] Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 1, с. 167, 1289, 1400; т. 3, с. 342, 1433.

*на, стольніковна* маглі існаваць ужо ў старажытнарускі моўны перыяд, але па пэўных прычынах не былі зафіксаваны ў вядомых лексікаграфічных крыніцах.

### Назоўнікі на *-их*-а (*-ых*-а), *-чих*-а (*-чых*-а)

Калі абапірацца на тыя моўныя факты, якія намі аналізуюцца, можна меркаваць, што фемінінныя назвы на *-их*-а (*-ых*-а), *чих*-а (*-чых*-а) узнікаюць у старабеларускай мове з другой паловы XVI ст. У колькасных адносінах яны нешматлікія. Мы маем у сваім распараджэнні ўсяго некалькі прыкладаў, якія ўтвараліся па мадэлях:

1. «Невытворная аснова асабовага назоўніка +*-их*-а»: папежъ — *...же зъ Риму и зъ Римянки блудницы маеть антихристъ народити, и ктому безмала не съ папежихи, яко того знакъ уже былъ о Яне Осмом папежи...* (РИБ, XIX, 1135).

2. «Невытворная аснова неасабовага назоўніка +*-их*-а»: корчм-а —*...мещанка Могилевская Марына Жидкая, коричмиха*[74] *жаловала на мещанина...* (ИЮМ, XXX, 128), *...одинъ другому у продаваню солоду гостемъ, корчмарамъ и корчмихамъ перешкоды чинити не маеть...* (ИЮМ, VII, 509).

3. «Вытворная аснова асабовага назоўніка на *-аръ*+ +*-их*-а (*-ых*-а)»: ганчаръ — *...куплено... Отъ Петрочихи ганчарыхи горшковъ десять поливаныхъ...* (ИЮМ, V, 133), *Купили... у Параси кгарнчарихи горшковъ десять...* (ИЮМ, V, 133), *Почтару за оддане листу отъ пана Озаринского зъ Брестя* (ИЮМ, II, 117) —*Почтарысе за листъ зъ почты прысланый, дали осмнадцать...* (ИЮМ, XI, 124).

4. «Вытворная аснова асабовага назоўніка на *-чикъ* (з усячэннем *-икъ*) +*-их*-а»: радчикъ — *Отъ радчихи Цюрютихи отобрали за прилавокъ золотыѣ три... (ИЮМ,* VIII, 19)[75].

Адзначаныя словы на *-их*-а (*-ых*-а) называлі жанчыну па яе занятках *(корчмиха, ганчарыха, почтарыха, радчиха)* ці рэлігійнай прыналежнасці *(папежиха)*.

Ёсць падставы лічыць, што ў жывой мове разглядаемага перыяду слоў на *-их*-а (*-ых*-а) ад асноў агульных

---

[74] *корчмиха* — 'гаспадыня карчмы'.

[75] Намінацыя *радчиха* можа быць успрынята і як утварэнне ад асновы неасабовага назоўніка *рад* пры дапамозе фарманта *-чих*-а.

назоўнікаў было значна больш, але яны не знайшлі месца ў пісьмовых помніках старабеларускай мовы. Гэта, відаць, звязана з агульнай тэндэнцыяй адлюстравання жаночых асабовых назваў у пісьмовых помніках XIV—XVIII ст.ст., абумоўленай сацыяльным становішчам жанчыны таго часу, яе ўдзелам у грамадскім жыцці. Тыя нешматлікія прыклады, якія прыводзіліся вышэй, прадстаўлены, як мы бачылі, у гісторыка-юрыдычных матэрыялах, насычаных бытавізмамі, гэта значыць словамі жывой народнай мовы. У гэтых жа дакументах адлюстраваны і ўтварэнні на *-их*-а (*-ых*-а), *-чих*-а (*-чых*-а) ад асноў уласных мужчынскіх імёнаў і прозвішчаў. Яны былі даволі пашыраныя ў старабеларускай мове (*Жоровиха, Локтиха, Зайчиха, Демидиха, Шломиха, Коробанчиха, Бесиха, Пушкариха, Сажиха, Свиридиха, Остапиха, Боровичиха, Цыбулчиха, Дейнечыха, Казымерыха, Личиха, Грыщиха, Коршуниха, Аносчыха, Цюрютиха, Шапчиха, Будачиха, Дерыха, Питаниха, Цычиха, Цюхтиха, Солениха, Шарпачыха, Богомазиха, Мелещиха. Дегтяриха, Маркалиха, Оршаничыха, Михеиха, Крочыха, Гомониха, Крейдыха, Илющыха, Жаглеиха, Павлиха, Иваниха, Степаниха, Белоносиха, Мирчиха, Данилиха, Гуманиха, Семіониха, Стефаниха, Цалабаниха, Анъдреиха, Артемиха, Астапиха, Семениха, Кочыха, Авхимиха, Бобоиха, Мяцячиха, Конотчиха, Бейמениха, Микищиха, Василиха* і інш.): *Пан Крыштофъ... жаловалъ на мещанку господарьскую... Оксинью Ескиную Жоровиху...* (ИЮМ, XXXII, 215), *укралъ у Бенка Тимофеевича катанку шыдеровую, которую продалъ Зайчысе* (ИЮМ, VIII, 283), *За боты яловичи у пани Коробанчихи золот три и асмак чотырнадцать...* (ИЮМ, I, 131), *...купили... Отъ Параси Остапихи горшковъ чотыри...* (ИЮМ, V, 133), *...на похованне Цыбулчихи золот, одинъ* (ИЮМ, I, 137), *...купили Сыровъ до кухни отъ Дейнечыхи...* (ИЮМ, V, 134), *Отъ жонки Коршунихи еще взяли муки пшенной квартъ три* (ИЮМ, V, 139), *Шапчиха... зостала винна золот. двадцать семъ...* (ИЮМ, V, 8), *...купили пороху фунтовъ осмнадцать у Цычихи...* (ИЮМ, V, 62), *...куплено Отъ Мелещихи дегтярихи голубцовъ пять* (ИЮМ, V, 128), *Ивановая Оршанчыха вдова дала золот* (ИЮМ, VI, 14), *Узялъ... Отъ Демидыхи Пушкарыхи...* (ИЮМ, VII, 20), *Купили у Любы Крейдыхи овъса* (ИЮМ, VII, 144), *Поля*

*Жаглеиха дала ползолотого* (ИЮМ, VIII, 15), *Отъ Степанихи Гомонихи золотых три* (ИЮМ, VIII, 21), *Купили отъ Белоносихи веровокъ до волоченя сена до горы въ цекавзъ...* (ИЮМ, VIII, 107), *...зъ жидовкою Мирчихою порахунокъ учинили за пива...* (ИЮМ, VIII, 154), *Зъ раду гончарного Анъдреиха, Артемиха, Матруна, Кашира, Тимощиха, Астапиха... дали по зол. два и осм. пятнадцать...* (ИЮМ, XI, 17), *Отъ Семенихи Кочыхи удовы отобрали золотыхъ семъ и полъ...* (ИЮМ, XII, 11), *Отъ Авхимихи Бобаихи полталера* (ИЮМ, XII, 11), *Иванисе Конотчисе дали* (ИЮМ, XXI, 35), *...овдовѣвъ, присталъ къ Василихѣ Тропковой* (ИЮМ, XVII, 346) і г. д. Разглядаемыя назвы на *-их*-а*(-ых*-а*)*, *-чих*-а*(-чых*-а) складаюць, па сутнасці, неабмежаваны, адкрыты словаўтваральны рад. Як правіла, яны называлі жонак тых, хто названы суадносным мужчынскім адпаведнікам. Але, мабыць, не ўсе словы былі такімі. Магчыма, што некаторыя з памянёных намінацый *(Сажиха, Дерыха, Цычиха, Белоносиха* і г. д.) з'яўляліся назвамі ці мянушкамі жанчын па іх характэрных знешніх прыметах, паводзінах і г. д. Такія назвы маглі і не мець суадносных мужчынскіх адпаведнікаў, утвараючыся непасрэдна ад асноў слоў, якія называлі тую ці іншую прымету.

### Назоўнікі на -ьц-а, -j-а (-ij-а), -ej-а, -ag'j-а

Фемінінныя намінацыі гэтага тыпу, будучы нешматлікімі ў старабеларускай мове, утвараліся ў свой час па наступных мадэлях:

1. «Вытворная аснова фемінатыва на *-овъ+-ьц*-а»: ятровъ — *ятровьца* (Скар. КР, 3).

2. «Невытворная аснова асабовага назоўніка +*-j*-а (*-ij*-а)»: игуменъ — *Настасьи Сопѣжиной, игуменьи Полоцкое* (АЛМ, I, 141), *...тіе жъ законницы и игуменія... панни Агафія Гуменицкая...* (АЮЗР, II, 78).

3. «Аснова асабовага назоўніка на *-унъ+-j*-а»: *рыкунъ* (?) (з літоўск. *рикуноитис*[76]) — *Пры кождом фоль-*

[76] Рикуноитис 'даглядчык жывёлы' (?) — ад літоўск. rykauti 'кіраваць', пруск. rikys. Адсюль і *рычка* з тым жа значэннем, што і *рыкунья*. Гл.: *Jablonskis K. Lietuviški žodžiai. 1. Dalis. Tekstai. Kaunas*, 1941, s. 203, а таксама: *Карский Е. Ф.* Труды по белорусскому языку и другим славянским языкам. М., 1962, с. 394.

*варку нашомъ хочемъ мѣти дворничьки, то есть рыкуньи порадные* (АЗР, III, 78), *Дворецъ, гдѣ рыкунья мѣшкаеть...* (Ахр. зб., III, 284)[77].

4. «Дзеяслоўная аснова на -*и*-ти (з усячэннем -*и*-) + + -*j*-а»: белити (у значэнні 'мыць') — *...жонку Гомшеевну, што белью*[78] *робила...* (АВК, XXII, 237).

5. «Дзеяслоўная аснова на -*и*-ти (з усячэннем -*и*-) + + -*ej*-а»: ворожити — *ворожея* (Бяр.$_1$, 16)[79].

6. «Невытворная дзеяслоўная аснова + -*ej*-а»: жати (жну) — *...жыта по пять бочакъ пожали и жнеи*[80] *побили* (КВС, 469), *И жней, которые жито жали, позбивалъ и окротне поранилъ* (АВК, XXXVI, 193). Магчыма, ад гэтай жа дзеяслоўнай асновы паралельна ўтвараліся пры дапамозе суфіксаў *-ецъ, -атай* мужчынскія асабовыя назоўнікі *жнецъ* (Бяр., 42), *женецъ, жнатай* — *неслъ женцемъ своим обѣдъ на поле* (Зб. 82, 208), *...и вcтановить собѣ воеводы и сотники и ратай поль своих и жнатай житъ своихъ* (Скар. ПБ, 17б).

7. «Аснова, якая ўзнікла са словазлучэння, у якім апорным кампанентам з'яўляецца дзеяслоўны кампанент, + -*ej*-а»: золотомъ шить — *О выпроваденье золотошвею пани малжонки его милости* (АВК, XXI, 364).

Асобна ад прыведзеных вышэй намінацый стаіць слова *попадья*, якое ўтварылася па мадэлі «невытворная

---

[77] *Рыкунья* (*рикунья, рыкуния*) 'жанчына, якая даглядала кароў пры каралеўскіх фальварках'. Гл.: Словарь древнего актового языка Северо-западного края и царства Польского, Н. Горбачевского. Вильна, 1874, с. 320. Будучы літуанізмам па паходжанню, гэта назва ў старабеларускай мове, відаць, захоўвала жывыя словаўтваральныя адносіны з утвараючым словам, якое ўжывалася паралельна: *Челедь неволная: паробки за двором на огородехъ на имя: Кгрикгъ рикуноитис зъ жоною Катриною, дочки две...* (1595), *Czeladz dworna niewolna folwarku: lanutis rykunaytis z zoną Ciesiąlą Martinkaycіową wieczysci, obay s podwornikow...* (1655). Гл.: *Jablonskis K.* Назв. работа, с. 203.

[78] А магчыма, слова *белья* ўтваралася ад асновы адпрыметнікавага назоўніка жаночага роду *бѣль*, які меў некалькі значэнняў, у тым ліку і значэнне 'белая тканіна' ці, можа, 'тканіна наогул'. Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 1, с. 219.

[79] Гл. заўвагу аб утварэнні *ворожея* ў кн.: *Варбот Ж. Ж.* Древнерусское именное словообразование, с. 123.

[80] Гл.: Этимологический словарь русского языка, т. 1, вып. 5. М., 1973, с. 295, дзе *жнея* тлумачыцца як суфіксальнае вытворнае ад *жать, жну*.

аснова асабовага назоўніка+-*ад'ј*-а»[81]: *Жаловала нам за позвы нашими судейскими п о п а д ь я... на боярина...* (АВК, XXI, 363), *...самъ идетъ до церкви, а п о п а д і я идеть на рынокъ съ хлѣбомъ съ цибулею...* (АЮЗР, I, 144). Суфікс *-ад'ј*-а характарызуецца нерэгулярнымі адносінамі з утвараючымі асновамі[82].

Жаночыя асабовыя намінацыі на *-ьц*-а, *-ј*-а, *-еј*-а, *-ад'ј*-а з'яўляюцца назвамі жанчын па займаемай імі пасадзе ці занятках *(игуменья, рыкунья, белья, ворожея, золотошвея)*, па роднасных адносінах *(ятровьца)*, абазначаюць жонку пэўнай асобы *(попадья)*. Амаль усе яны перайшлі ў старабеларускую мову ад папярэдніх перыядаў моўнага развіцця. І толькі назвы *рыкунья* і *белья* займаюць сярод іх асобнае месца. Першая з'яўляецца літуанізмам, а другая — мабыць, вынікам словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся непасрэдна ў старабеларускай мове.

### Назоўнікі на *-ев*-а (*-ов*-а), *-ех*-а (*-ох*-а, *-ах*-а), *-ухн*-а, *-чизн*-а (*-щызн*-а), *-ис*-а (*-исс*-а), *-ас*-а, *ѣл'*-а, *-ен*-а, *-в*-а, *-ш*-а, *-чин*-а (*-чын*-а), *-щин*-а (*-шчын*-а), *-овь*, *-ерь*

Жаночыя асабовыя намінацыі з указанымі суфіксамі прадстаўлены ў старабеларускай мове адзінкавымі прыкладамі. Утвараліся яны па-рознаму.

Назоўнікі на *-ев*-а *(-ов-а)*, напрыклад, будучы семантычна суадноснымі з адпаведнымі мужчынскімі назвамі, утвараліся шляхам усячэння ці сцягвання поўных форм субстантываваных адносна-прыналежных прыметнікаў са значэннем асобы жоначага полу[83]: королевая, кролован, кролевая — *не заимати намъ к о р о л е в ы землѣ...*

---

[81] Гл.: Грамматика современного русского литературного языка. М., 1970, с. 123.

[82] «Функцыя суфікса ў слове *попадья* блізкая да ролі суфікса ў словах *ударница, поэтесса, курсантка* і інш.» *Арутюнова Н. Д.* Очерки по словообразованию в современном испанском языке. М., 1961, с. 46.

[83] Такая з'ява, калі поўныя субстантываваныя прыметнікі на *-ая* абазначалі чыю-небудзь жонку, была распаўсюджана ўжо ў старажытнарускай мове. Гл. аб гэтым: *Буслаев Ф. И.* Историческая грамматика. М., 1959, с. 138. Як бачым, гэта знайшло шырокае адлюстраванне і ў старабеларускай мове.

(АЗР, I, 1)[84], *отъ Алены от королевы правилъ поклон же...* (АЗР, I, 267) — параўн.: *господариня королевая её милость при всемъ томъ рачила его оставити...* (АЮЗР, I, 295), *канцлѣря государыни нашое королевое* (АЗР, I, 295), *...кролова мозитанъская уважаючы такъ великую годност Марии панны встыдалася того же ее звано кролевою* (Зб. 259, 650б) — параўн.: *Самой кроловой ей мосци длугу ей винного отдали чирвоныхъ золотыхъ триста...* (ИЮМ, VIII, 194), *И была у короля Аполона Кролевая велми хоро*[*ша*] (Трыст., 1); моляровая — *Марко... жаловалъ на Мокарову моляровую о том...* (АВК, XXXIX, 339); золотаровая — *Авдотя Косцина золотарова, которая мела быт карана за свой учинекъ и выступъ в малженстве на горле...* (АВК, XXXIX, 88); тивуновая — *Окгинска — тивунова Троцка...* (АВК, XI, 128) — параўн.: *...ей милости... Окгинской — тивуновой Троцкой* (там жа); сурокготаровая — *Пани Галжбета зъ Васичина Бължецка, сурокготарова Бѣлзска* (Арх. зб., IV, 263) і інш.

Усе прыведзеныя вышэй словы з'яўляюцца назвамі жонак. Па свайму паходжанню гэтыя намінацыі неаднолькавыя. Назоўнікі *королева (кролова, кролева) сурокготарова*[85] прыйшлі ў старабеларускую мову з польскай. Назоўнікі тыпу *тивунова, молярова, золотарова,* відаць, узніклі ў старабеларускай мове пад уплывам стэрэатыпных польскіх форм.

Цікава, што ўтварэнне жаночых асабовых назваў на -*ев*-а (-*ов*-а) ад поўных субстантываваных прыметнікаў адбывалася і ў сферы фемінінных уласных імёнаў і прозвішчаў: *...пани Александровое Нышыйчынное Софеи...* і *...она пани Ганна Ятолтовна Александрова Кголмостовая...* (Арх. зб., III, 173); *Демидовая Пушкариха* (ИЮМ, II, 8) і *...Демидова Пушкариха дала осм. пятнадцать...* (ИЮМ, III, 14); Филоновая — *И на то все я, Галена Юревъна Филонова Громовая,*

---

[84] А. Прэабражэнскі (гл.: *Преображенский А.* Этимологический словарь русского языка. М., 1959, т. 1, с. 358—359), а ўслед за ім і М. Фасмер (гл.: *Фасмер М.* Этимологический словарь русского языка. М., 1967, с. 333) са спасылкай на А. І. Сабалеўскага лічаць слова *королева* паланізмам, які ўзнік у выніку трансфармацыі польскага królowa пад уплывам слова *король*.

[85] Жонка сурокгатора 'намесніка' (польск. surogator<сярэднелацін. surrogator). Гл. аб гэтым: *Булыка А. М.* Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мінск, 1972, с. 313.

*дала и зоставила... сесь мой тестаментъ* (ИЮМ, XXII, 216); Фронцкевичовая — *Гды вошла Фронцкевичова въ домъ Путятинскій...* (ИЮМ, VIII, 150) і інш. Гэты працэс, трэба меркаваць, з'яўляецца праяўленнем агульнай тэндэнцыі ўжываць у старабеларускай мове ўсечаныя (ці сцягнутыя) формы субстантываваных прыметнікаў побач з поўнымі для абазначэння жонак тых ці іншых мужчынскіх асоб (*дядиная — дядина, воеводиная — воеводина, подчашыная — подчашына, конюшиная — конюшина, старостиная — старостина, Троцкая — Троцка, Окгинская — Окгинска, Божмявая — Божмява* і г. д.).

Што датычыцца фемінінных намінацый на *-ех*-а (*-ох*-а, *-ах*-а), *-ухн*-а, *-чин*-а (*-чын*-а), *-щин*-а (*-шчын*-а), *-чизн*-а (*щызн*-а), *-ерь, -овь, -ис*-а, *-исс*-а, *-ас*-а, *-ен*-а, *-ш*-а, то яны, будучы адзінкавымі, утвараліся ад невытворных асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду.

Назоўнікі на *-ех*-а (*-ох*-а, *-ах*-а) узыходзяць, напрыклад, да асновы слова мать (мати) — *а мачеха наша четвёртую часть держить* (РИБ, XX, 416), *кто бы лежалъ с мачехою своею и открылъ срамоту отца своего, смерътию да умрета оба...* (Скар. КЛ, 39), *...мужъ мачохи моей* (АВК, XXI, 216), *...на мачоху мою и на невѣстки свои...* (АЛМ, I, 28), *Так мачоха его Богдана маеть тое именье Жупряне держати* (РИБ, XX, 1210), *И мачаха его передъ нами рекла* (РИБ, XXVII, 420). Слова *мачеха* з'яўляецца агульнаславянскім па свайму паходжанню. Агульнаславянскай, відаць, трэба лічыць і намінацыю *мачоха*[86]. Што датычыць варыянта *мачаха*, то ён можа быць прызнаны адзінкай, якая ўзнікла ў старабеларускай мове ў выніку адпаведных фанетычных працэсаў. Гэта назва пазней зойме (побач з лексемай *мачыха*) сваё месца ў сучаснай беларускай мове як нарміраваная адзінка.

Пры дапамозе суфікса *-ухн*-а[87] ад асновы асабовага назоўніка *мать (мати)* утваралася фемінінная назва *ма-*

---

[86] Слова *мачоха* ёсць ва ўкраінскай мове. Гл.: Словарь української мови за рэд. Б. Д. Грінченка, т. 2. Київ, 1908, с. 413. Адзначана назва *мачоха* і ў рускім прастамоўі. Гл.: *Буслаев Ф. И.* Историческая грамматика русского языка. М., 1959, с. 124. Ужываецца слова *macocha* ў верхнелужыцкай і ніжнелужыцкай мовах. Гл.: *Фасмер М.* Этимологический словарь русского языка, т. 2. М., 1967, с. 586.

[87] Гэты суфікс узнік на падставе *-ух*+*-н*-а. Гл. аб гэтым: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 37.

*тухна (матоухна): Ино Шоломичы передъ нами покладали листъ господарыни, м а т у х н ы нашое, кнегини Семеновой Александровича...* (РКП, 290), *...пры нароженю пренаидостоинеишои м а т у х н ы бжои панны прочъ на сторону лямента плачы* (Зб. 259, 468), *...дрыжачиі и бачоучиі болесть м а т о у х н ы своеи* (Пак. Хр., 4[б]).

Суфікс *-ухн*-а разам са словаўтваральнай функцыяй выконваў ацэначную функцыю. Ён надаваў назве адценне ласкальнасці: *милостивый богъ отповедал о наймилеша м а т о у х н о как тое можеть быти...* (Хр. 2405, 3[б]). А ў шэрагу выпадкаў суфікс *-ухн*-а ўжываўся ў старабеларускай мове, мабыць, толькі са значэннем ласкальнасці, далучаючыся акрамя ўсяго і да асноў неасабовых назоўнікаў: *братъ з братом, сестра з сестрою, муж з жоною, тыми словы мовили силне слезно горко мочили так м а т у х н о з е з у л ю х н о, у т у х н о, панюшно сподариня... з в е з д у х н о, даи крошку хлеба* (Барк., 165).

Суфікс *-ухн*-а і яго функцыяніраванне ў старабеларускай мове адносіцца да ўласна-беларускіх моўных з'яў.

Назоўнікі на *-чин*-а (*-чын*-а) адзінкавыя ў старабеларускай мове: *дѣвчина, дѣвъчына* (ад асновы дѣва (дѣвча, дѣвчо (?)): *въ томъ дворцы и при ней д ѣ в ъ ч ы н а одна Ганна* (АВК, XXVI, 347), ... *д ѣ в ч и н а зъ Горки, подданая пани Офанасовичовое... ей тое сказала...* (Арх. зб., III, 150). Дадзеная фемінінная намінацыя ўзнікла, відаць, у межах заходнерускага моўнага арэалу[88].

Адзінкавымі з'яўляюцца ў мове разглядаемага перыяду і фемінінатывы на *-щин*-а (*-шчын*-а): *женъщина (женьшчына):... за кождую голову маеть платити за мужчизну а ж е н ъ щ и н у водле статута* (КВЗС, 68[б]), *также ж е н щ и н ъ и дѣтокъ брали ли бы съ собою, коли бы якого розлитія крови сподѣватися мѣли...* (АЗР, IV, 297), *Adam, Adam, na licho tabie było słychać ż e ń s z c h y n u* (Камед. Мараш., 15). Слова *женъщина,* будучы этымалагічна звязаным з лексемай *жена,* па свайму паходжанню з'яўляецца ўласна рускім[89]. Яно ўтварылася ў свой час пры дапамозе суфікса *-ин*-а ад асновы субстан-

---

[88] У слоўніку І. І. Сразнеўскага слова *дѣвчина* (*дѣвъчына*) пе адзначана.

[89] Гл.: *Цыганенко Г. П.* Этимологический словарь русского языка. Киев, 1970, с. 146; Этимологический словарь русского языка, т. 1, вып. 5. М., 1973, с. 285.

тываванага прыметніка *женска*[90] са зборным значэннем 'жэнства'[91] ці са значэннем 'жанчына'[92]. У старарускіх пісьмовых помніках слова *женьщина* адзначана, пачынаючы з XVI ст.[93] Са старарускай яно і прыйшло ў старабеларускую мову[94]. Варыянт жа *женьшчына* (*żeńszczyna*) з суфіксам *-шчын*-а, мабыць, трэба лічыць вынікам фанетычнай трансфармацыі суфікса *-щин*-а, якая адбылася на ўласна-беларускай моўнай глебе.

Звяртае на сябе ўвагу і тое, што ў старабеларускай мове слова *женщина (женъщина)* мае аднакарэнны суфіксальны эквівалент на *-чизн*-а (*-щызн*-а): *...от одного мсца ажъ до пятого року за мужчизну дадут пят сиклев, а за женчизну три...* (Біблія, 177), *...закон рожаючыи мужчызну аб женщызну* (Зб. 752, 524б). Тут мы маем справу з субстытуцыяй суфікса *-щин*-а дэрыватэмай *-чизн*-а (*-щызн*-а)[95], якая адбылася ва ўмовах своеасаблівага кантактавання беларускай і польскай моў у разглядаемы гістарычны перыяд[96].

---

[90] Параўн. у сібірскіх дыялектах: *женски* (г. зн. жанчыны.— *М. П.*) *все по грибы ушли.* (Прыклад запазычан у П. Я. Чарных. Гл.: *Черных П. Я.* Очерки русской исторической лексикологии. М., 1956, с. 28.) Слова *женска* са значэннем 'жанчына' вядома таксама і некаторым славянскім мовам: ніжнелужыцк. zeńska, сербахарвацк. *женски.* Гл.: Этимологический словарь русского языка. М., 1973, т. 1, вып. 5, с. 285.

[91] Гл.: *Цыганенко Г. П.* Этимологический словарь русского языка. Киев, 1970, с. 146.

[92] Гл.: Этимологический словарь русского языка, т. 1, вып. 5. М., 1973, с. 285.

[93] Гл.: *Черных П. Я.* Очерки русской исторической лексикологии. М., 1956, с. 28.

[94] Гл.: Этимологический словарь русского языка, т. 1, вып. 5. М., 1973, с. 285.

[95] Паходжанне суфікса *-изн*-а, *-чизн*-а, *-щизн*-а пакуль што дастаткова не высветлена. Я. Ф. Карскі звязвае, напрыклад, паходжанне *-изн*-а з суфіксам *-знь*, гістарычна вылучаемага ў словах тыпу *жизнь, казнь.* Гл.: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28—29. Некаторыя польскія моваведы лічаць названыя суфіксы, у прыватнасці *-изн*-а, дэрыватэмамі няяснага паходжання. Гл.: *Klemiensiewicz Z., Lehr-Spławiński T., Urbańczyk S.* Gramatyka Historyczna języka polskiego. Warszawa, 1955, s. 209. Гл. аб гэтым таксама: *Булахаў М. Г.* Гісторыя назоўнікаў з суфіксам *-изн*-а (*-чизн*-а, *щизн*-а) у беларускай мове.— «Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР», 1961, вып. 8, с. 117, 122—123. У Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы (Мінск, 1970, с. 101) суфікс *-изн*-а называецца польскім.

[96] Гл.: Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970, с. 101.

Жаночыя асабовыя назвы на *-ерь (-еръ)* прадстаўлены ў старабеларускай мове, па сутнасці, двума прыкладамі: матерь (матеръ), дочерь (дщерь): *...у томъ кгвалтѣ ранилъ его м а т е р ь...* (АЗР, I, 7), ... *абыхмо д о ч е р ь его, а нашу великую кнегиню дерьжали во чьсти...* (АЗР, I, 141), *Дина д щ е р а Яковова посилована ес от Сихема* (Скар. КБ, 62б). Яны матываваны назоўнікамі са значэннем асобы жаночага полу *мать (мати), дочь, дщи*, якія ўжываліся ў старабеларускай мове побач з намінацыямі *матерь, дочерь, дщерь.*

Вытворная намінацыя *богоматеръ*, якая называла міфічную асобу, можа быць прызнана словам з двайной суадноснасцю. Яе можна лічыць утворанай па мадэлі: «назоўнік+інтэрфікс+назоўнік на *-еръ*»: *...Онъ тую отъчызну ...на три соборы записалъ на пречыстую святую б о г о м а т е р на сорокоустъ* (КВЗС, 43), *Волею бжіею и молитвами пречистое его б г о м а т е р е* (Дыяр., 153—153б). Але яно можа быць асэнсавана і як вытворнае ад асновы складанага назоўніка *богомати*. Параўн., напрыклад, паралельнае ўжыванне ў старажытнарускіх помніках слоў *богомати* і *богоматеръ: Избавляють с млтвою ти людие твои Б о м а т и...* (Стихир. Влад.), *Млтвами чстыя Б о м т р е* (Мин. празд. XII в.) [97].

Адзінкавыя назоўнікі на *-овъ* са значэннем асобы жаночага полу з'яўляюцца вынікам далучэння афікса *-овъ* да невытворнай асновы асабовага назоўніка: свекры (свекоръ) — *...с в е к р о в ъ ее, княгиня Василевая...* (РИБ, XXVII, 583), *нѣшто твоей с в е к р о в и не станеть...* (АЗР, I, 303), ятры — *ятровъ* (Скар. КР, 137).

Фемінінныя назвы *матерь, дочерь, дщерь, богоматеръ, свекровъ* не з'яўляюцца ўласна-беларускімі па паходжанню. Яны атрыманы ў спадчыну старабеларускай мовай ад папярэдніх перыядаў моўнага развіцця. Паколькі словаўтваральная структура гэтых слоў, дзякуючы адначасоваму ўжыванню зыходных для іх лексем *мать (мати), дочь, дщи, свекры (свекоръ)*, засталася празрыстай, словы *матерь, дочерь (дщеръ), свекровъ* маглі ўспрымацца ў старабеларускай мове як словы вытворныя.

---

[97] Прыклады запазычаны з выдання: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 1, с. 131. (Курсіў і разбіўка ў прыкладах нашы.— *М. П.*)

Назоўнікі на *-ис*-а (*-исс*-а), якія сустрэліся нам у пісьмовых помніках старабеларускай мовы, утвораны ад невытворных асноў мужчынскіх намінацый, што называлі асоб, звязаных з рэлігійнай дзейнасцю: аббатъ (абатъ) — *...панны Катарины Сапѣжанки — подканцлеранки великого князства Литовского, аббатисы Виленского и Минского монастыревъ паненскихъ* (АВК, IX, 33), *...панны Сапѣжанки — абатисы Виленское и Минское монастыревъ...* (АВК, XV, 193); дьяконъ (дыяконъ) — *А жона его... вси маености мужа своего до епифания принесла; которою онъ роздавши на црквъ, самую над черницами дьяконисою учинилъ* (Пралог. II, 673б), *Были давныхъ часовъ Діакониссы, которыя сами брали з рукъ ерейскихъ келихъ, й причашалися* (Зб. вып., 73).

Намінацыі *абатиса (аббатиса), дьякониса (дияконисса)* называлі ў старабеларускай мове жанчыну па займаемай пасадзе: *абатиса (аббатиса)* — 'ігуменння каталіцкага манастыра' [98], *дьякониса (диаконисса)* — 'старшая над манашкамі'. Па паходжанню першае з'яўляецца запазычаным са старалацінскай мовы праз польскую. Другое магло ўзнікнуць па аналогіі са словамі тыпу *абатиса (аббатиса)* у межах заходнерускага моўнага арэалу.

З рэлігійнай сферай ужывання звязана і слова *панена* ў значэнні 'манашка', запазычанае з польскай мовы, дзе яно ўтварылася пры дапамозе суфікса *-ен*-а ад назоўнікавай асновы панъ (пани?): *паней и паненъ, которые въ оной церкви на набоженствѣ были, потручали и шпильками зъ заду, гды се люди кланяли, кололи* (АВК, VIII, 34), *...всих паненъ законницъ того манастыра* (АВК, XV, 1).

У вывучаемых пісьмовых крыніцах старабеларускай мовы нам сустрэўся толькі адзін прыклад назоўніка на *-ас*-а са значэннем асобы жаночага полу, утвораны па мадэлі: «асабовы назоўнік мужчынскага роду на *-инъ* (з усячэннем *-инъ*)+*-ас*-а»: рабинъ [99] — *рабаса* (жонка рабіна): *...доктаровъ рабина и рабасы* (РИБ, VII, 1252). Суфікс *-ас*-а ў старабеларускай мове характары-

---

[98] Гл. аб гэтым: *Булыка А. М.* Назв. работа, с. 17.

[99] Рабинъ (польск. rabin<стараяўр. rabbi). Гл.: *Булыка А. М.* Назв. работа, с. 273.

зуецца нерэгулярнымі адносінамі з утваралочымі асновамі. Тое ж трэба сказаць і аб суфіксу *-в-*а, які ўдзельнічаў ва ўтварэнні фемінінатыва ад вытворнай (прэфіксальнай) асновы асабовага назоўніка жаночага роду: неплоды — ... *ты родился от неплодви і остаревшися оузрослъ в пустыни* (Чэц., 38б).

Адзінкавымі з'яўляюцца таксама фемінінатывы на *-ш-*а: канцлер [100] — *Я, Гдаль Ицковичъ, факторъ ея сіятельства, княгини, канцлерши в. к. Лит. объявляю этой моей запиской...* (ИЮМ, XVIII, 273). Назва *канцлерша* ўжывалася са значэннем жонкі асобы, якая называецца мужчынскім адпаведнікам. Яе бытаванне адносіцца да позняй пары развіцця беларускай мовы — першай паловы XVIII ст.

У асобных выпадках жаночыя Nomina agentis утваралiся ў старабеларускай мове ад дзеяслоўных асноў: породити — 'Роженица, матиця, *породѣля,* пороженица' (Бяр₁, 89). Суфікс *-ѣл'-а* характарызуецца нерэгулярнасцю.

Па свайму паходжанню назоўнікі *рабаса, канцлерша, породѣля* з'яўляюцца адзінкамі, утворанымі ў межах заходнерускага моўнага арэалу.

## Назоўнікі, утвораныя пры дапамозе флексіі са значэннем жаночасці

Назоўнікі са значэннем асобы жаночага полу ўтвараюцца ў старабеларускай мове не толькі пры дапамозе фемінінных суфіксаў, якія суправаджаюцца флексіяй *а,* але і дзякуючы толькі марфалагічнаму (звычайна *а*-флексійнаму) афармленню (*раба, кума, монаха, единока* і інш.).

У лінгвістычнай літаратуры, дзе такія словы разглядаюцца разам з назоўнікамі тыпу *кліч, загар, абнова, мель* і г. д., няма адзінага погляду на спосаб іх утварэння.

Адны кваліфікуюць намінацыі гэтага тыпу як словы, утвораныя марфалагічным і нават фанетыка-марфалагічным спосабам [101]. Другія лічаць дадзеныя назоўнікі

---

[100] Канцлеръ — 'правіцель дзяржаўнай канцылярыі' (польск. kanclerz<нем. Kanzler). Гл.: *Булыка А. М.* Назв. работа, с. 137.

[101] Гл.: Грамматика русского языка, т. 1. М., 1960, с. 209.

ўтворанымі бяссуфіксным спосабам[102]. Трэція называюць такі спосаб канверсіяй[103]. Чацвёртыя адмаўляюць у гэтым выпадку канверсію і разглядаюць указаную з'яву як «дэрывацыю пры дапамозе нулявой марфемы»[104]. Але не ўсе згодны з такой трактоўкай[105]. Пятыя, падзяляючы, па сутнасці, пункт гледжання тых, хто сцвярджае, што разглядаемая з'ява ёсць дэрывацыя пры дапамозе нулявой марфемы, прапануюць называць дадзены спосаб словаўтварэння нулявой афіксацыяй, ці дакладней,— нулявой суфіксацыяй[106].

Мы лічым, услед за І. А. Карабанем, немэтазгодным словы тыпу *раба, унука, хоружая, войская* адносіць да адзінак, утвораных пры дапамозе нулявога суфікса. Словаўтваральныя функцыі афікса са значэннем асобы жаночага полу тут выконвае флексія. Гэта значыць флексія з'яўляецца ў такіх словах адначасова і паказчыкам граматычнага значэння жаночага роду і носьбітам таго значэння, якое звычайна афармляецца ў слове фемінiннымі суфіксамі ў спалучэнні з флексіяй *-а*[107]. Флексію такога

---

[102] Гл.: *Крылов Н. А.* Бессуффиксные существительные общего рода, соотносительные с глаголами.— У зб.: Статьи и исследования по русскому языку. М., 1962, с. 5—42; *Потиха З. А.* Современное русское словообразование. М., 1970, с. 158—161.

[103] Гл.: *Смирницкий А. И.* Лексикология английского языка. М., 1956; *Dokulil M.* Tvoření slov v češtině, 1. Teorie odvozování slov. Praha, 1962; *Кубрякова Е. С.* Деривация, транспозиция, конверсия.— «Вопросы языкознания», 1974, № 5.

[104] *Marchand H.* The categories and types of present-day English word-formation, 1960, p. 293—294; *Яго ж*: Die Ableitung desubstantivischer Verben mit Nullmorphem im Englischen, Französischen und Deutschen.— «Die Neueren Sprachen», № 3, 1964.

[105] *Dokulil M.* Назв. работа, с. 153—155; *Яго ж*: Zur Frage der sog. Nullableitung. «Festschrift H. Marchand». The Hague, 1968; *Яго ж*: Zur Frage der Konversion und verwandter Wortbildungsvorgänge und beziehungen, TCLP, 3, 1968.

[106] Гл.: *Лопатин В. В.* Нулевая аффиксация в системе русского словообразования.— «Вопросы языкознания», 1966, № 1, с. 79—82; Грамматика современного русского литературного языка. М., 1970, с. 41; *Земская Е. А.* Современный русский язык. Словообразование. М., 1973, с. 255. Крытычную заўвагу аб спосабе так званай нулявой афіксацыі выказвае Г. П. Цыганенка ў сваёй рэцэнзіі на кнігу А. А. Земскай «Современный русский язык. Словообразование» (М., 1973).— «Русский язык в школе», 1974, № 5, с. 105.

[107] Гл.: *Карабань И. А.* Словообразование и его связи с морфологией.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна». Сер. 4, 1975, № 3, с. 31. У артыкуле ёсць абгрунтаванне такога разумення разглядаемай моўнай з'явы.

роду можна называць флексіяй са значэннем жаночасці [108].

У беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. прадстаўлен шэраг фемінінатываў, утвораных пры дапамозе флексіі са значэннем жаночасці. У ролі ўтвараючых тут выступаюць:

1. Як невытворныя, так і вытворныя асновы агульных назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу: раб (роб) — *аже побѣгнеть русинъ, або руска... или р о б а, выдать его* (АЗР, I, 2), *Сарра... рекла аврааму выжени р а б у сию и сына ее* (Скар. КБ, 37); унукъ — *Францикъ у н у к у свою Луцыю... въ опеканье, съ имѣніемъ ста гривенъ* (АЗР, I, 9), *татаринъ наш Сяить.. билъ намъ чоломъ, абыхмо ему призволили одну в н у к у его за сына своего поняти* (КЗ, 300); супругъ — *супруга* (АЗР, I, 41); небогъ — *небога* (Чэц., 81); кумъ — *ижъ кнегини Нелединская его к у м о ю была* (АВК, XXXIII, 119); монахъ — *монаха* (ПБ, 44); единок — *единока* (Бяр., 58); подругъ — *отвѣчалъ милостникъ мои и реклъ мнѣ въстань собѣ п о д р у г о моя краснице моя* (Зб. 262, 83б); бачмажникъ (з усячэннем *-никъ) — Але стой ты крывоногій б а ч м а ж н и ч е и зъ своею крывоногою б а ч м а г о ю!* (АЮЗР, II, 214); *...абы просилъ мужь отъ с у с ѣ д а своего а жена от с о с ѣ д ы своей начиня сребряного и золотого* (Хр. 2405, 88б); египтянинъ — *Во первыи день житие преподобнои мтри ншои Марии е г и п т я н и н ы* (Пралог, I, 568) і інш.

2. Асновы мужчынскіх асабовых назоўнікаў ад'ектыўнага тыпу скланення: подскарбий — *Справа пани Ивановой Александровича, п о д с к а р б е й Березоведской и сестре ее* (РИБ, XX, 895); хоружий — *хоружая* (РИБ, XXXIII, 18); вратный — *...в р а т н а я дому его опалаючи пшеницу оуснула была* (Скар. ТЦ, 73б); городничий — *Пани г о р о д н и ч а я поимавши останокъ речи...* (БА, II, 101), *Самой пани г о р о д н и ч о й дали штучку рубку* (ИЮМ, III, 54); подданный — *Жаловалъ мне конюхъ... на п о д д а н у ю господарьскую Пашковую Марыну* (АВК, XVII, 321), *п о д д а н а я пана Офанасо-*

---

108 Па аналогіі з назвай «назоўнікі са значэннем жаночасці». Гл.: Грамматика современного русского литературного языка. М., 1970, с. 120.

*вича, на имя Марушка, ей тое сказала* (Арх. зб., III, 134); войский — *я Марына Ивановна... войская городеньская...* (КВС, 661), *одъ пани войское Слонимское жадное прозбы о чары на его милость пана маршалка не мѣла* (Арх. зб., III, 124); подключий — *я Марына Ивановна... ключниковая и подключая троцъкая* (КВС, 661); конюший — *её милости паней Ерошовое Корицкое — конюшее его королевской милости* (АВК, XXII, 296); *отъ пана скарбъного и паней скарбъной заставою держатъ* (АВК, XX, 201); старший — *ее милости панною Маріянною Вицкою — старшою манастыра Минского...* (АВК, XV, 29) [109], *...желнери до манастира в котором Анна вдова была послал, абы еи до царя городу приведено: старшая еи выдат мусела* (Бельск., 352—352[б]); *того покоіового, которого пришлет* (Зб. 81, 31[б]) — *Паннамъ покоевымъ паней подстаростиной золотковых два* (ИЮМ, I, 146); обозный — *малжонъки его вельможной Техановецкой обозной великого князства Литовского* (АВК, XXIX, 133) і інш.

Адны з маскулінатываў (тыпу *подскарбий, хоружий, городничий),* асновы якіх утваралі жаночыя намінацыі, мабыць, ніколі не з'яўляліся субстантыватамі. Другія (тыпу *скарбный, покоевый, обозный),* відаць, некалі былі такімі, але ў выніку страты аманімічных прыметнікаў, якія служылі зыходнымі ва ўтварэнні (праз субстантывацыю) маскулінатываў, перасталі ўспрымацца як субстантываты [110]. Праблема размежавання назоўнікаў ад'ектыўнага тыпу, утвораных такім шляхам ад намінацый, якія з'яўляюцца субстантываванымі прыметнікамі, надзвычай складаная. Амаль адзіным крытэрыем пакуль што прызнаецца толькі наяўнасць ці адсутнасць адпаведнага аманімічнага прыметніка, што, у сваю чаргу, патрабуе пошукаў азначаемага адпаведным прыметнікам назоўніка. А гэта не заўсёды прыводзіць да жаданых вынікаў, па-першае, таму што старабеларускія помнікі не заўсёды адлюстроўвалі такія выпадкі ўжывання прыметнікаў

---

[109] Пры наяўнасці аманімічнага прыметніка: *Гасан и Яско Мортузичи... доброволне и явне вызнали, ижь што перъво сего братя их старшая рожоная Акгишъ* (АВК, XXXI, 22).

[110] Гл.: *Лопатин В. В.* Субстантивация как способ словообразования в современном русском языке.— У кн.: Русский язык. Грамматические исследования. М., 1967, с. 7.

з назоўнікамі, а па-другое, магло быць і так, што некаторыя субстантываты ўтвараліся, мінуючы ступень эліпсацыі [111].

Да разглядаемага вышэй тыпу фемінінных асабовых намінацый далучаюцца таксама і найменні, якія з'яўляюцца прозвішчамі жанчын. Гэтыя назвы ўтвараліся ад адпаведных мужчынскіх прозвішчаў, напрыклад: Тиборовский — *мещанка государьская Могилевская Станиславовая Т и б о р о в с к а я Ганна Куприевна через своего Станислава Цыборовского... оповедала* (ИЮМ, XXXII, 276), Превальский—*Превальская* (ИЮМ, XXI, 399), Кузминьский — *Кузминьская* (ИЮМ, XXI, 395), Будогоский — *Будогоская* (там жа), Комаевский — *Комаевская* (АВК, XIV, 267), Челинский — *Челинская* (ИЮМ, XXII, 233), Горский — *Горская* (АВК, XXXVI, 104). Стирнелевъ — *Стирнелевая* (РИБ, XX, 339), Гуторовъ— *Гуторовая* (ИЮМ, XXXI, 90) і інш.

Як бачым, своеасаблівасць жаночых асабовых назваў тыпу *раба, унука, кума, супруга, египтянина, хоружая, вратная, городничая, конюшая* і г. д. выяўляецца не толькі ў фармальным адрозненні, гэта значыць у наяўнасці флексій жаночага роду, але і ў тым, што яны выступаюць у адносінах да адпаведных маскулінатываў як самастойныя лексемы. У сваю чаргу адрозненне паміж словамі тыпу *кума, сосѣда, супруга, раба* і лексемамі тыпу *конюшая, хоружая, подключая, скарбная* выяўляецца толькі ў сістэме флексій, гэта значыць у размеркаванні іх па розных словазмяняльных тыпах.

Па свайму паходжанню разглядаемыя жаночыя намінацыі неаднолькавыя. Частка з іх (*роба (раба), унука, супруга, подруга, сосѣда* і інш.), калі меркаваць па паказаннях вядомых лексікаграфічных крыніц старажытнарускай мовы, атрымана ў спадчыну старабеларускай мовай ад усходнеславянскага моўнага перыяду. Другая частка (*бачмага, египтянина, городничая, хоружая, конюшая, вратная, войская, скарбъная, покоевая, обозная* і інш.) у лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы, у прыватнасці ў слоўніку І. І. Сразнеўскага, не адзначана і не мае там, за выключэннем

---

[111] Гл.: *Потебня А. А.* Из записок по русской грамматике, т. 3. М., 1968, с. 42—46.

асобных[112], адпаведных мужчынскіх асабовых назоўнікаў, ад асноў якіх яны ўтвараліся. Гэта дае падставу лічыць некаторыя з фемінінатываў адзначанага тыпу заходнерускімі па свайму паходжанню.

## Субстантываты са значэннем асобы жаночага полу

У сістэме словаўтварэння жаночых асабовых намінацый старабеларускай мовы субстантываваныя прыметнікі са значэннем асобы жаночага полу займаюць прыкметнае месца.

Субстантывацыя як сродак словаўтварэння прыцягвала ўвагу многіх вучоных, пачынаючы з М. В. Ламаносава[113]. У беларускім мовазнаўстве ўпершыню зацікавіўся гэтай з'явай Я. Ф. Карскі[114]. У наш час праблема субстантывацыі знайшла паглыбленае вывучэнне ў працах М. Г. Булахава[115], В. А. Бекіша[116], П. В. Вярхова[117], М. Д. Міхея[118].

---

112 Тут маюцца на ўвазе зафіксаваныя І. І. Сразнеўскім словы:
а) *единакъ* — 'інак' (1; 810) пры адсутнасці *единака-единока;*
б) *конюшии* як прыметнік і як сінонім да *конюхъ* (1; 1278) пры адсутнасці *конюшая;*
в) *войский* у значэнні 'вайсковы, ваяўнічы' і нават 'во̀йска і войская' ў значэнні 'вайна' (1, 287). У старабеларускай мове *войская* абазначала жонку *войскага* — апякуна жонак і дзяцей у ваенны час.

113 У нашу задачу не ўваходзіць агляд літаратуры, прысвечанай гэтаму пытанню. Называем толькі работы, якія маюць непасрэднае дачыненне да разглядаемых намі пытанняў.

114 Гл.: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 42 і інш.

115 Гл.: *Булахаў М. Г.* Словаўтварэнне прыметнікаў у старабеларускай мове.— «Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР», 1960, вып. 8, с. 146 і інш.; *Яго ж.* Канверсійныя спосабы ўтварэння новых лексічных адзінак у старабеларускай мове.— У зб.: Беларуская лексікалогія і этымалогія. (Праграма і тэзісы міжрэспубліканскай канферэнцыі па беларускай лексікалогіі і этымалогіі, 19—23 лютага 1968 г.) Мінск, 1968, с. 19 і інш.; Граматыка беларускай мовы, т. 1. Мінск, 1962, с. 174—178.

116 Гл.: *Бекіш В. А.* Субстантываваныя прыметнікі ў ролі назваў асоб.— У зб.: Праблемы беларускай філалогіі (Тэзісы дакладаў рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю БССР і КПБ). Мінск, 1968, с. 14—16; *Бекиш В. А.* Исследование лексики белорусских памятников XV—XVII ст. (наименование лиц). Автореф. канд. дис. Минск, 1971.

117 Гл.: *Вярхоў П. В.* Субстантывацыя прыметнікаў у старабеларускай мове.— У зб.: Праблемы мовы і літаратуры. Мінск, 1972, с. 33—42.

118 Гл.: *Михей Н. Д.* Субстантивация прилагательных и причастий в современном белорусском литературном языке. Автореф. канд. дис. Минск, 1975.

Пад субстантывацыяй прыметнікаў звычайна разумеюць такі працэс, калі прыметнікі (ці нават дзеепрыметнікі) «страчваюць сваё агульнае значэнне якаснасці і набываюць больш вузкае значэнне прадметнасці»[119], захоўваючы сістэму прыметнікавых флексій[120], а ў шэрагу выпадкаў і аманімічную суадносласць з зыходнымі прыметнікамі, ад якіх утвараліся субстантываты[121]. З гэтага ж пункту гледжання і аналізуюцца намі субстантываты са значэннем асобы жаночага полу, якія прадстаўлены ў старабеларускай мове.

Большасць субстантыватаў разглядаемага тыпу ўтворана, відаць, шляхам эліпсіса назоўнікаў жаночага роду, да якіх гэтыя субстантываты выступалі ў ролі азначэнняў: *Жаловала намъ Войташковая свиренная Өилицея* (РИБ, XX, 240), *жона Подбенъского, з двема дочерми и з служащею* (КПМ, II, 169). *Авраамъ два сына имелъ естъ, единого от рабыне, а другога от свободныя* (Скар. ДЗ, 4), *яко любовникъ ко любой своей или яко женихъ к невесте своей, тако и Хрстосъ ко церькви своей сниде* (Скар. ПП, 1б), *хорошая* (Бяр., 308), *прихожаа* (Бяр. 58), *щасливая* (Бяр., 273), ...*и тут Бова с прекрасною совокупился трижды, и с тое поры прекрасная Дружнена понесе чрево* (Бава, 255), *нѣякую панну Красовскую служебную охмистрины взято въ секвестръ до покою* (АЗР, V, 74), *А вдовы и пущеной и плюгавой не пойметь* (Хр. 2405, 123б), *стая зоставшы сама благдарыла бга гуляючыся по пустыни* (Зб. 82, 21) і інш. Некаторыя з іх (напрыклад, *хорошая, щасливая, прекрасная* і інш.), відаць, былі аказіянальнымі субстантыватамі.

Цікава, што амаль усе пералічаныя вышэй субстантываты характарызуюцца патэнцыяльна магчымымі су-

---

[119] Граматыка беларускай мовы, т. 1. Мінск, 1962, с. 174.

[120] Акад. В. У. Вінаградаў у свой час пісаў: «Канчаткі прыметнікаў, якія пападаюць у катэгорыю прадметнасці, там функцыянальна пераўтвараюцца. Яны становяцца канчаткамі-суфіксамі назоўніка і перастаюць быць знакамі якасці».— *Виноградов В. В.* Русский язык. М., 1972, с. 158.

[121] Гл. аб субстантывацыі і яе асноўных прыметах: *Лопатин В. В.* Субстантивация как способ словообразования в современном русском языке.— У кн.: Русский язык. Грамматические исследования. М., 1967. У спасылачных гнёздах гэтага артыкула прадстаўлена вялікая літаратура па закранутаму пытанню.

адносінамі з адпаведнымі мужчынскімі асабовымі назвамі: *свиренная* (свиренный), *служащая* (служащий), *свободная* (свободный), *любая* (любый), *прихожаа* (прихожый), *служебная* (служебный) і г. д. Праўда, у большасці выпадкаў мы не маем у сваім распараджэнні прыкладаў, дзе б ужываліся адпаведныя субстантываты мужчынскага роду. Але ўсё ж можна меркаваць, што пэўная частка аналагічных утварэнняў са значэннем асобы жаночага полу магла ўзнікаць у старабеларускай мове шляхам флексійнага афармлення ад асноў адпаведных мужчынскіх субстантыватаў ці ўтварацца паралельна, напрыклад па мадэлі:

*прихожий чалавекъ* ⟶ *прихожая жанчына*
↓ ↓
*прихожий* ∅ ⟶ *прихожая* ∅ ;

*свиренный работникъ* ⟶ *свиренная работница*
↓ ↓
*свиренный* ∅ ⟶ *свиренная* ∅

Асобную групу сярод разглядаемых утварэнняў са значэннем асобы жаночага полу складаюць субстантываты, якія не мелі (і не маглі мець нават патэнцыяльна) адпаведных мужчынскіх назваў у старабеларускай мове па прычынах нямоўнага характару. Яны ўзнікалі паводле эліпсіса, у выніку страты азначаемых імі жаночых асабовых назоўнікаў: *мужатая* (з мужатая жона): *нарецеться мужатая понѣже от мужа взята естъ* (Скар. КБ, 11$^{б}$); *...бѣда беременным и персями кормячим в оные дни...* (Каз. Кір., 50$^{б}$), *беременную в живот ногою ударил и плод в неи забил* (Бельск., 249$^{б}$); *пущеная* (з пущеная жона): *Панну за малженку возме. А вдовы и пущеной и плюгавой непойметъ* (Хр. 2405, 123$^{б}$); *Не маютъ теды входити до монастыря... женскаго, а ни мужъ, а ни невѣста, такъ замужная яко вдова* (Зб. вып., 75$^{б}$), параўн.: *могуть обитати въ монастырѣ женском жены замужния* (Зб. вып., 75$^{б}$).

Некаторыя з разглядаемых жаночых намінацый утвараліся, відаць, мінуючы ступень эліпсацыі, па мадэлі субстантыватаў, якія ўжо існавалі ў старабеларускай

мове. Такім шляхам, мабыць, узнікла назва *белоголовая* 'замужняя жанчына з простага люду', якая паходзіць з атрыбутыўнага словазлучэння *белая голова: Жолнере, которые гледѣли на мужство тое б ѣ л о е г о л о в ы... торгнулі ся на оную панну* (Атыла, 211—212), *опанован млстою одной б ѣ л о и г о л о в ы оуродивои* (Мак., 12). Намінацыя *белоголовая* часта ўжывалася ў старабеларускай мове ў форме *белоголова: взявшы, из... ей страхи, розными способами, яко б е л о г о л о в е, и прикладаючы до персей мушкеты... пытали, где бы были ямы зе збожем моим* (ИЮМ, XXIV, 456). Паралельна з формай *белоголова* існавала форма *белоглова,* якая з'яўляецца польскай па паходжанню[122], напрыклад: *За обмыце столовъ, лавъ у каменицы и у светелце б е л о г л о в ы м ъ двюмъ заплатили* (ИЮМ, XIII, 133), *б е л о г л о в е, што въ турме седела, дали осмак пятнадцать* (ИЮМ, III, 37).

Субстантываты са значэннем асобы жаночага полу неаднолькавыя па сваёй семантыцы. Тут акрэсліваюцца наступныя лексіка-тэматычныя групы:

а) назвы жаночых асоб паводле сямейнага становішча *(замужная, мужатая, пущеная);*

б) намінацыі са значэннем заняткаў жанчыны *(свиренная, служебная, служащая);*

в) назвы асоб жаночага полу паводле іх фізіялагічнага стану *(беременная);*

г) жаночыя асабовыя намінацыі са значэннем сацыяльнага становішча, унутраных якасцей і знешніх прымет *(свабодная, белоголовая, щасливая, святая, прекрасная, хорошая, плюгавая* і інш.);

д) назвы жаночых асоб паводле адносін *(любая).*

Неаднолькавыя разглядаемыя субстантываты і па свайму паходжанню.

Большая частка іх, мабыць, атрымана ў спадчыну ад агульнаўсходнеславянскага моўнага перыяду *(мужатая, беременная, пущеная, замужная, прихожаа, плюгавая, щасливая, прекрасная, служебная, любая, святая, хорошая, свободная* і інш.). Праўда, з упэўненасцю аб гэтым можна гаварыць толькі адносна намінацый *му-*

---

[122] Гл.: *Булыка А. М.* Назв. работа, с. 40.

*жатая, свободная*[123], *беременная*[124]. Што датычыцца астатніх слоў, то аб іх усходнеславянскай прыналежнасці можна гаварыць, абапіраючыся на ўскосныя доказы. Гэтыя словы не зафіксаваны ў вядомых лексікаграфічных крыніцах старажытнарускай мовы ў абліччы субстантыватаў. Але многія з іх (*прихожаа, щасливая, служебная, любая, стая, хорошая*) маюць там, у прыватнасці ў слоўніку І. І. Сразнеўскага, аманімічныя прыметнікі ў форме мужчынскага роду, якія, будучы азначэннямі да назоўнікаў жаночага роду, маглі субстантывавацца ў выніку эліпсацыі назоўніка.

Для субстантывата *плюгавая* ў слоўніку І. І. Сразнеўскага няма аманімічнага прыметніка *плюгавая* (плюгавый). Але такі прыметнік усё ж, відаць, існаваў у старажытнарускай мове. Сустракаецца ён і ў некаторых заходнеславянскіх мовах (чэшскай, польскай, славацкай) [125].

Няма ў слоўніку І. І. Сразнеўскага субстантывата *пущеная* 'адпушчаная, разведзеная жонка' і адпаведнага прыметніка. Хоць такі прыметнік павінен таксама быць у старажытнарускай мове, паколькі ў І. І. Сразнеўскага зафіксаван назоўнік *пущеница* 'адпушчаная, разведзеная жонка', утвораны ад асновы *пущен*-ая (-ый) [126].

Што датычыцца намінацый *свиренная, белоголовая, белоголова,* то іх, відаць, можна лічыць словамі, утворанымі ў межах заходнерускага моўнага арэалу.

Да аналізуемай катэгорыі слоў далучаюцца *фемінінныя назвы* на *-ин*-ая (*-ын*-ая), *-ов*-ая (*-ев*-ая), якія маюць некаторыя асаблівасці свайго ўтварэння і функцыяніравання. Разгледзім іх асобна.

---

[123] Словы *мужатая* 'замужняя', *свободная* 'нерабыня' прыводзяцца ў слоўніку І. І. Сразнеўскага.— *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 2, с. 188; т. 3, с. 280.

[124] Слова *беременная* адзначана ў некаторых слоўніках (гл.: *Шанский Н. М., Иванов В. В., Шанская Т. В.* Краткий этимологический словарь русского языка. М., 1961, с. 34) як уласна-рускае, зафіксаванае ў помніках, пачынаючы з XVI ст. Наяўнасць гэтай намінацыі ў крыніцах XVI ст., напісаных на тэрыторыі заходнерускага моўнага арэалу, дае падставу лічыць назву *беременная* агульнаўсходнеславянскай па паходжанню.

[125] Гл.: *Фасмер М.* Этимологический словарь русского языка, т. 3. М., 1971, с. 289.

[126] Гл.: *Срезневский И. И.* Материалы..., т. 2, с. 1744.

### Намінацыі на -*ин*-ая (-*ын*-ая)

Намінацыі на -*ин*-ая (-*ын*-ая) (так званыя назоўнікі ад'ектыўнага тыпу скланення) складаюць асобную групу сярод фемінінных назваў старабеларускай мовы.

Частка іх матывавалася невытворнымі і вытворнымі асновамі асабовых назоўнікаў (агульных і ўласных): дядя — *...передъ нами листъ дядиное своее...* (РИБ, XXVII, 381), *...небожъчица, дядиная наша...* (БА, II, 84); староста — *...отъ сестръ моихъ рожоныхъ, старостиное Луцкой кнегини Андреевой* (АЗР, III, 135), *...маршалъковая господарская старостыная Чорнобылъская, выслала почту коней 6 збройно по козацъку...* (РИБ, XXXIII, 241); судья — *Ганъна Рачъковна, судыная Дороштъская* (РИБ, XXXIII, 390), *Пани Ерофіевая Гостская, судиная земская Луцкая* (Арх. зб., XI, 71), *...пани Раинѣ Друцкой... судьиной кгродской Полоцкой...* (АВК, IX, 44); воевода — *...ее милость пани воеводиная Смоленская при церкви для набоженства на тотъ часъ господою стояти рачила* (АВК, VIII, 31), *Самой пани воеводиной дали талерей битыхъ пять, золот тридцать* (ИЮМ, III, 53); канцлеръ — *канцлерыная* (Еўл., 159); казнодѣй — *...паней Кристины Домбровское... казнодѣиной збору евангелицкого Любечанского* (АВК, XII, 455), *тая казнодейная Анущиска тые вказы свое... пустила* (АВК, XXI, 461). Утварэнні на -*ин*-ая (-*ын*-ая) ад асноў уласных асабовых назваў [127] нічым не адрозніваліся па словаўтваральнай структуры ад прыведзеных вышэй вытворных слоў: Сапѣга — *...пани Богъдановая Сапежыная судиная земская* (АВК, XXX, 225); Клыжъ — *...при матце моей, Агафъи Юревой Клыжыной зостати маетъ...* (ИЮМ, XXII, 214); Дюнда — *Дюндиная* (ИЮМ, XXII, 245); Сорока — *...пани Богумила Свейковщанка Василевна Сорочыная* (Арх. Зб., III, 103); Жаба — *Она, урожоная Анна Униховская, хоронжанка Минска Крыштофовая Жабиная... мѣла съ тое маетности... до Полоцка ѣхати...* (ИЮМ, XXII, 356); Кузма — *...Отъ Будачихи Кузминое горшковъ чотыри* (ИЮМ, V, 133) і г. д.

---

[127] Гл. аб антрапанімічных жаночых назвах на -*ин*-ая (-*ын*-ая) цікавыя назіранні М. В. Бірылы ў яго кнізе «Беларуская антрапанімія» (Мінск, 1966), с. 308—320.

Другая частка ўтварэнняў на *-ин*-ая (*-ын*-ая) у старабеларускай мове з'яўляецца вынікам далучэння гэтага суфікса да асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду, якія нагадваюць па сваёй структуры субстантываваныя прыметнікі, але на самай справе такімі, відаць, не з'яўляюцца: подскарбий — *пани Богушовая, подскарбиная земская...* (АЮЗР, I, 88), *...бывшою Винцентовою Корвановою Кгонсевскою — подскарбиною Велижскою* (АВК, IX, 42); конюший — *пани Ивановая Воловича, конюшиная господарская Троцкая* (АВК, XXI, 23); подчаший — *отъ подчашиное господарской, старостиное Дорогицкой пани Миколаевой...* (АЗР, III, 135), *...панъ Владыславъ... подчашый Оршанъский и пани малжонка его милости... подчашиная Оршанская* (АВК, XXIX, 12); хоружий — *хоружиная* (РИБ, XXXIII, 397); державчий — *державчиная Немонойтская вызнаваю и явно чиню тымъ моимъ листомъ* (АВК, XXII, 334); ловчий — *...ей милости пани ловчиной право дожывотное... ест упрывилеваное* (АВК, XXX, 149), *...пани Теодорою Шиленскою — ловчиною Волынскою* (АВК, IX, 42); возничий — *...а Катерыну Яновну Яновую, возничыную тых усыхъ особъ...* (АВК, XXXII, 109); подкоморий — *...паней Масалское подкоморыное Городенское...* (АВК, XXX, 238), *...пани подкомориная Берестейская... оповѣдала...* (АВК, II, 24); подстолий — *Криштофовой Каминской — подстолиной Новогородской...* (АВК, XI, 98), *...панею Доротою... подстолиною Слонимскою...* (АВК, XV, 305); пивничий — *...ей млсти паней Катарыны Товтъвидовны бывшей Стефановой Перхлинской пивничыной Вел. Княз. Лит.* (АВК, XXXI, 361); подстаростий[128] — *Для самой Ей млсти паней подстаростиной рубку штучку заплатили* (ИЮМ, I, 215); маркграбий (маркграбя, маркграбъ)[129] — *...кнежны ей милости Радивиловны — маркграбиной Брандебургской...* (АВК, XII, 488); городничий — *...пани Анною... городничиною Оршанскою* (АВК, XV, 233), *Для пані Отрошкевичевой городничиной рубокъ, который самъ панъ райца... старговалъ у Плакси* (ИЮМ, V, 69).

---

[128] *Вина кгарнецъ для пана подстаростего...* (ИЮМ, I, 215).
[129] 'пагранічны ўладарны князь' (сярэдневерхненямецк. marcgrave). Гл.: *Булыка А. М.* Назв. работа, с. 197.

Прыведзеныя фемінатывы на *-ин*-ая (*-ын*-ая) выступаюць у старабеларускай мове са значэннем «жонка асобы, названай адпаведнай мужчынскай намінацыяй».

Суфікс *-ин*-ая (*-ын*-ая), які ўтвараў разгледжаныя вышэй словы, паходзіць ад прыметнікавай дэрыватэмы *-инъ (-ынъ)* са значэннем прыналежнасці. Дадзенае значэнне прыкметна адчуваецца ў словах на *-ин*-ая (*-ын*-ая): *воеводиная, старостиная, подкомориная, городничиная,* гэта значыць тая, што належыць ці мае непасрэднае дачыненне да ваяводы, падкаморыя, старасты, гараднічага.

Формы на *-ин*-ая (*-ын*-ая) упачатку былі, мабыць, поўнымі прыналежнымі прыметнікамі, якія з цягам часу субстантываваліся і пачалі суадносіцца з адпаведнымі мужчынскімі асабовымі назвамі. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, ужыванне ў асобных выпадках побач з субстантываванымі формамі поўных прыналежных прыметнікаў на *-ин*-ая (*-ын*-ая) у спалучэнні з асабовымі назоўнікамі жаночага роду: *Х о р у ж и н а я вдова з деверомъ своимъ...* (РИБ, XXXIII, 888).

Пераважная большасць слоў на *-ин*-ая (*-ын*-ая), мяркуючы па матэрыялах, з'яўляюцца па свайму паходжанню ўласна-беларускімі ўтварэннямі. Такія меркаванні грунтуюцца, па-першае, на тым, што ні адно з пералічаных вышэй слоў не зафіксавана, напрыклад, у слоўніку І. І. Сразнеўскага, хоць для некаторых з іх там прадстаўлены мужчынскія асабовыя адпаведнікі *(дядя, староста, ловчий, воевода),* а па-другое, мадэль утварэння фемінінных назваў на *-ин*-ая (*-ын*-ая) наогул была неўласцівай для старажытнарускай мовы. Неўласцівай яна засталася і для старарускай мовы.

### Намінацыі на *-ов*-ая (*-ев*-ая)

Фемінінныя асабовыя намінацыі на *-ов*-ая (*-ев*-ая) прадстаўлены ў старабеларускай мове значнай колькасцю прыкладаў [130]. Утварэнне гэтай катэгорыі слоў адбывалася рознымі шляхамі. Адны з іх узнікалі, відаць, у выніку субстантывацыі прыналежных прыметнікаў жаночага роду на *-ов*-ая (*-ев*-ая) дзякуючы страце

[130] Распаўсюджанымі яны былі і ў стараўкраінскай мове. Гл. аб гэтым: *Гумецька Л. Л.* Нарис словотворчої системи української актової мови XIV—XV ст. Київ, 1958, с. 31.

(эліпсісу) назоўнікаў, да якіх яны выступалі азначэннямі (тыпу *братавая жена — братавая, каштеляновая жена — каштеляновая* і г. д.). Другія маглі з'явіцца «імгненна, па мадэлі ўжо існуючых у мове субстантыватаў» [131]. Трэція, магчыма, паходзяць ад субстантываваных прыметнікаў на *-ов*-ый (*-ев*-ый) са значэннем асобы мужчынскага полу ў выніку далучэння флексіі са значэннем жаночасці.

Размежаванне слоў, утвораных такімі шляхамі, складае надзвычай цяжкую праблему. Для шэрага намінацый наогул немагчыма вызначыць шляхі іх узнікнення. Гэта тлумачыцца ў пэўнай меры тым, што значная частка жаночых асабовых намінацый на *-ов*-ая (*-ев*-ая) страціла семантычную суадноснасць з тымі прыметнікамі, якія паслужылі базай для ўтварэння названых намінацый. Былыя «роднасныя адносіны» тут адчуваюцца толькі ў фармальным (структурным) супадзенні субстантыватаў з адпаведнымі зыходнымі прыметнікамі.

«Апрадмечванне» ўтварэнняў на *-ов*-ая (*-ев*-ая) прывяло да таго, што амаль усе яны пачалі выступаць у старабеларускай мове як намінацыі, семантычна матываваныя адпаведнымі аднакарэннымі мужчынскімі назвамі і, больш таго, успрымаюцца як словы, утвораныя ад асноў гэтых назоўнікаў. Напрыклад: король — *...господариня королевая её милость при всемъ томъ рачила его оставити...* (АЮЗР, I, 295), *...того ж году у восенъ королевая умерла* (Патр. А., 64), *И была у короля Аполона Кролевая велми хоро*[*ша*] (Трыст., 1); конюшокъ — *...ис зависти геленоу конюшковоую албо стайничкою назвали* (Тры кар., 72б); лекарь — *Жаловала мещанка Виленская Станиславовая, лекаревая, Маркгарета на пана Троцкого* (РИБ, XX, 571); докторъ — *И Докторовая мовила: я до тое Жидъки и до сестры своее о томъ не шлюся* (РИБ, XX, 1012); конюхъ — *Жаловалъ мне конюхъ... Панасъ Ивашевичъ на подданую господарьскую Пашковую Марыну конюховую жъ* (АВК, XVII, 321); машталеръ — *машъта-*

---

[131] *Лопатин В. В.* Субстантивация как способ словообразования в современном русском языке.— У кн.: Русский язык. Грамматические исследования. М., 1967, с. 208. Гл. таксама: *Потебня А. А.* Из записок по русской грамматике, т. 3. М., 1968, с. 42—45; *Перльмуттер Л. Б.* Переход прилагательных в существительные.— «Русский язык в школе», 1948, № 1, с. 13 і інш.

*леровая* (КВС, 665); войтъ — *...и ключи того дому отъ хоромъ тутъ же передъ нами пану Станиславу тая* *в о й т о в а я* *подала...* (АВК, XXI, 181); писаръ —*...пани Миколаевую Нарушевичовую — подскарбиную земскую и* *п и с а р о в у ю* (АВК, XIII, 290), *...пани* *п и с а р о в о й* *Волчинской подарку дали горностаевъ сороки два* (ИЮМ, VIII, 193); фурманъ — *фурмановая* (АВК, XXVIII, 5); маршалокъ — *маршалковая* (РИБ, XXXIII, 241); каштелянъ (каштальянъ) — *Ее милость пани Ганна зъ Орѣховца Замойская,* *к а ш т е л я н о в а я* *Холмская* (Арх. зб. IV, 272), *Прыежчалъ... Василей Заболоцкий, жалуючы... на... княгиню Ивановую Саломерыцкую* *к а ш т а л я н о в у ю* *и старостиную Мстиславъскую...* (АВК, XXXVI, 33); стрыхаръ — *...Лукашовая Миколаевича Затевича,* *с т р ы х а р о в а я,* *на име Степанида а названая Ганна... з мужомъ своимъ Лукашомъ Миколаевичомъ стрыхаромъ... сознали тыми словы* (АВК, XX, 107); злотаръ — *злотаровая* (АВК, XX, 162); братъ — *...въ чужоложствѣ зъ* *б р а т о в о ю* *роженою...* (АЗР, IV, 210); рымаръ — *рымаровая* (АВК, XX, 193); ротмистръ — *ротмистровая* (АВК, VIII, 500); *панъ* *ч е ш н и к ъ* *Полоцкій...* (ИЮМ, XXII, 349) — *пани* *ч е ш н и к о в а я* *Полоцкая* (там жа); кухмистръ —*...отъ ее милости пани* *к у х м и с т р о в о е* *была... до пани войское Слонимское послана...* (Арх. зб., III, 135); подписокъ — *подписковая* (Арх. Зб. III, 135); енералъ — *енераловая* (Арх. зб., III, 105); свещенникъ — *свещенниковая* (Арх. зб., III, 114); тивунъ — *тивуновая* (АВК, XI, 128); воеводичь — *воеводичовая* (АВК, VIII, 117); столникъ — *стольниковая* (АВК, XXVIII, 236); подъсудокъ — *подъсудковая* (АВК, XXXIV, 339); кравецъ — *кравцовая* (АВК, XX, 369); гетманъ — *гетмановая* (АВК, XV, 299); стражникъ — *стражниковая* (АВК, XXIX, 133); бондаръ — *бондаровая* (ИЮМ, IV, 207); каштеляницъ — *...пана Францишка... каштеляница Брестянского и пани малжонки его милости, ей милости пани Катерины...* *к а ш т е л я н и ц о в о й* *Брестянской...* (АВК, XIII, 378); мистръ — *мистровая* (ИЮМ, X, 70); економъ — *економовая* (ИЮМ, XII, 16); бурмистръ — *бурмистровая* (ИЮМ, VI, 60); господинъ — *Якъ зъ делъ стреляли крыжыкъ отпалъ отъ образа, которого не змогли знайти, нагородили Покровъской* *г о с п о д и н о в о й,* *кгдыжъ ее былъ...* (ИЮМ, VI, 69); лавник — *лавниковая* (ИЮМ, VI,

44); камандантъ — *Галецкого жоне, комендантовой, за три недели дали...* (ИЮМ, XVII, 13); дворникъ — *дворниковая* (ИЮМ, XXI, 35) і інш. Сюды ж прымыкаюць словы *городничовая* і *войсковая: Для паней Одинцовой Городничовой за штучку рубку пану молчановичу дано золотыхъ осмъ* (ИЮМ, I, 215), *...а мене тамъ не пустили, и сама пани войсковая не шла* (Арх. зб., III, 150). Першае семантычна матывуецца назоўнікам *городничий,* які нагадвае субстантываваны прыметнік, другое — мабыць, субстантываваным прыметнікам *войский.*

Не ўсе назвы на *-ов-ая (-ев-ая)* семантычна матываваліся ў старабеларускай мове толькі адпаведнымі мужчынскімі асабовымі назоўнікамі. Асобныя ўтварэнні на *-ов-ая (-ев-ая)* (гэта датычыцца ў першую чаргу намінацый, якія ўтвараліся шляхам далучэння флексіі са значэннем жаночасці) захавалі акрамя структурнай і семантычную суадноснасць з адпаведнымі субстантываванымі прыметнікамі на *-ов-ый (-ев-ый),* што называюць асобу мужчынскага полу: ключниковый — *Я Марына Ивановна... войская городеньская ключъниковая и подключая троцъкая* (КВС, 1661), коваліовый — *коваліовая* (ИЮМ, XVI, 206). Такія намінацыі ўспрымаюцца як выпадкі з двайной суадноснасцю:




Агульныя тэндэнцыі фарміравання намінацый на *-ов-ая (-ев-ая)* праяўляюцца і пры ўтварэнні фемінінных уласных назваў на *-ов-ая (-ев-ая),* якія складаюць у старабеларускай мове неабмежаваны, адкрыты рад. Як правіла, яны семантычна матывуюцца асабовымі назоўнікамі, што з'яўляюцца ўласнымі мужчынскімі іменамі ці прозвішчамі, напрыклад: Федко — *А дядиная ихъ Федковая маетъ мешкати в том имѣніи* (АЛМ, I, 39), Богуфалъ, Иванъ — *Кмита Богуфаловичъ за дядиную свою Ивановую Богофаловую* (РИБ, XXXIII, 811), Александръ Нарушевичъ — *Александровая Нарушевичовая,* Ярошъ — *Ярошовая,* Литаворъ — *Литаворо-*

*вая,* Богушъ — *Богушовая,* Миколай — *Миколаевая,* Винцентъ — *Винцентовая,* Криштофъ — *Криштофовая,* Богданъ — *Богдановая,* Тышковичъ — *Тышковичовая,* Андрѣй — *Андрѣевая,* Станиславъ—*Станиславовая,* Скуминъ — *Скуминовая,* Лукашъ — *Лукашовая,* Марціянъ Кгедройт — *Марціяновая Кгедройтевая,* Ивашко — *Ивашковая,* Суринъ — *Суриновая,* Никипоръ — *Никипоровая,* Давыдъ — *Давыдовая,* Фурсъ — *Фурсовая,* Абакуновичъ — *Абакуновичовая,* Артемъ Мякишъ — *Артемовая Мякишевая; Того жъ дня, якъ былъ Федоровичъ у дорозе, дали самой Федоровичовой на хлебъ зол* (ИЮМ, XV, 48) і інш.

Некаторыя з назваў прыведзенага тыпу мелі ў сістэме старабеларускай мовы словаўтваральна суадносныя з імі аманімічныя прыметнікі на *-ов-ая (-ев-ая)*, напрыклад: *Пани Ивановая Фурсовая, войская мозырская...* (Арх. зб., IV, 274) і *Ивановой Клыжыной дочце, отписую лавку свою властную...* (АВК, XXII, 214); *...пани Ярошовая Корицкая — конюшиная господарская... пана Яроша Корицкого...* (АВК, XXII, 377) і *...пни Александровое Нышыйчыное Софеи, то есть Ярошовое Якимовичовое Марины...* (ИЮМ, XXI, 269).

Можна таксама ўказаць і на прыклады, у якіх адчуваюцца патэнцыяльныя магчымасці прыналежных прыметнікаў на *-ов-ая (-ев-ая),* утвораных ад асноў уласных мужчынскіх назваў, да субстантывацыі ў працэсе эліпсіса назоўніка: *пан Крыштофъ Можневский жаловал на мещанку Іаковoвую Потребенскую Булатниковую Оксинью.. тыми словы* (ИЮМ, XXXII, 215); *Ганне Михайловой, Немцовой дочце, одписую тканку перловую...* (ИЮМ, XXII, 214), *...пани Каролиною Людовиною Радивиловною, конюшанъкою великого князства Литовского, куръфиръштовою кнежною...* (АВК, XXIX, 114) і інш.

Уласныя намінацыі на *-ов-ая (-ев-ая),* як можна было заўважыць, ужываліся ў старабеларускай мове не толькі як аднаслоўныя фемінінныя найменні. Часцей за ўсё яны ўваходзілі ў склад разгорнутых дзвюх-, трох-, чатырох-, пяці-, шасці-, сямі- і нават девяцiслоўных назваў[132] *...пни Ивановая Харковская...* (ИЮМ, XXII,

[132] Жаночыя найменні такога тыпу падрабязна разглядаюцца ў кнізе М. В. Бірылы «Беларуская антрапанімія» (Мінск, 1966), с. 307—321.

239), *корниловая Онисковича Превальская...* (ИЮМ, XII, 399), *...пани Федоре Харитоновне, Миколаевой Кривоносовой...* (ИЮМ, XXIV, 420), *Я, Станиславъ Яновичъ Скиндеревскій, а я, Ульяна Даниловъна Косяковна Станиславовая Скиндерская* (ИЮМ, XXXI, 89), *...на мещанку Яковую Потребенсковую Будатниковую Оксинью Ескиную Жоровиху... з мужем своим Яковом...* (ИЮМ, XXXII, 215), *подданые ее милости пани Баркулабовое Корсаковое, старостинои Дисненское, Полонеи Василевны Кроснинское* (ИЮМ, XXXII, 68)[133], *Іа, Томила Стефановъна Лускиянка Ивановаіа Григорьевича Гуторовая, судиная бывшая кгродская Витебская* (ИЮМ, XXXI, 90) і г. д.

Усе жаночыя асабовыя намінацыі на *-ов-ая (-ев-ая)* з'яўляюцца ў старабеларускай мове назвамі жонак паводле пасад, заняткаў, сацыяльнага становішча мужа, роднасных адносін.

Як паказваюць аналізуемые факты, асноўная маса субстантыватаў на *-ов-ая (-ев-ая)* належаць да пісьмовых помнікаў XVI—XVII ст.ст. Гэта датычыцца як агульных, так і ўласных намінацый на *-ов-ая (-ев-ая)*. Відаць, тут адлюстравалася агульная тэндэнцыя развіцця старабеларускай мовы ў гэты перыяд.

Па свайму паходжанню асабовыя намінацыі на *-ов-ая (-ев-ая)* звязаны ў першую чаргу з тымі словаўтваральнымі працэсамі, якія адбываліся ў межах заходнерускага моўнага арэалу. Многія з іх, будучы, мабыць, яшчэ прыметнікамі, ўтвараліся ад асноў запазычаных назоўнікаў (машталеръ — *машталеровая,* фурманъ — *фурмановая,* каштелянъ — *каштеляновая,* злотаръ — *злотаровая,* римаръ — *римаровая,* ротмистръ — *ротмистровая,* енералъ — *енераловая,* гетманъ — *гетмановая,* мистръ — *мистровая,* канъцлеръ — *канъцлеровая* і інш.). Яны называлі рэаліі, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Вялікага княства Літоўскага, з яго складанымі ўзаемаадносінамі з Польшчай.

Мадэль утварэння дэрыватаў на *-ов-ая (-ев-ая)* са значэннем асобы жаночага полу была жыццяздольнай, рэгулярна функцыяніруючай у старабеларускай мове.

---

[133] Прыклады запазычаны з вышэйназванай кнігі М. В. Бірылы, с. 320—321.

# ВАРЫЯНТНАСЦЬ І АДНАКАРЭННАЯ СІНАНІМІЯ ЖАНОЧЫХ АСАБОВЫХ НАМІНАЦЫЙ

Варыянтнасць і аднакарэнная сінанімія фемінінных асабовых намінацый, як і іншых лексіка-граматычных разрадаў слоў, былі даволі пашыранай з'явай у старабеларускай мове [1]. Гэтаму садзейнічалі многія фактары (адсутнасць строга вытрыманых фанетычных, граматычных і графіка-арфаграфічных норм [2], наяўнасць разгалінаванай сістэмы словаўтварэння, пранікненне запазычанняў з другіх моў і іх складанае ўзаемадзеянне ў старабеларускай мове з мясцовай моўнай стыхіяй [3]). Між тым тэарэтычнае асэнсаванне дадзенай з'явы ў беларускай, як і ў іншых усходнеславянскіх мовах, пачалося нядаўна. Гэта пытанне, бадай, упершыню набывае адпаведнае вырашэнне ў працах В. У. Вінаградава [4], А. І. Смірніцкага [5], В. С. Ахманавай [6], І. І. Каваліка [7], Ф. П. Філіна [8], І. К. Германовіча [9], Р. П. Рагожнікавай [10],

---

[1] Гл.: *Паўленка М. А.* Варыянты-сінонімы ў беларускай мове XIV—XVII ст.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна». Сер. 4, 1972, № 2.

[2] Гл.: *Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск, 1970, с. 5 і інш.

[3] Гл.: *Жураўскі А. І.* Праблема варыянтаў у слоўніку старабеларускай мовы.— У зб.: Праблемы беларускай філалогіі. (Тэзісы дакладаў рэспубл. канферэнцыі.) Мінск, 1968, с. 42 і інш.

[4] *Виноградов В. В.* О формах слова.— «Известия АН СССР, отделение литературы и языка», т. 3, вып. 1, 1944, с. 40 і наступн.

[5] *Смирницкий А. И.* К вопросу о слове (Проблема «тождества слова»).— «Труды Ин-та языкознания АН СССР», 1954, т. 4; *Яго ж.* Лексическое и грамматическое в слове.— У кн.: Вопросы грамматического строя. М., 1955, с. 13; *Яго ж.* Лексикология английского языка. М., 1956, с. 42.

[6] *Ахманова О. С.* Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957, с. 192 і наступн.

[7] *Ковалик І. І.* Питання словотворчої омонімії і синонімії в сфері іменників слов'янських мов.— У кн.: Питання слов'янознавства. Львів, 1962.

[8] *Филин Ф. П.* О слове и вариантах слова.— У кн.: Морфологическая структура слова в языках различных типов. М.—Л., 1963.

[9] *Германовіч І. К.* З гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай лексікі.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1961, № 3, с. 87—96; *Яго ж.* Паланізмы ў беларускай літаратурнай мове 20-х— першай палавіне 30-х гадоў XX ст.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1962, № 2, с. 86—97.

[10] *Рогожникова Р. П.* Варианты слов в русском языке. М., 1966.

А. М. Булыкі[11], А. І. Жураўскага[12], П. П. Шубы[13]. Закраналася яно і ў працах Я. Ф. Карскага[14], М. Г. Булахава[15], М. С. Васілеўскага[16], П. В. Вярхова[17] і іншых даследчыкаў.

Нягледзячы на такую ўвагу да варыянтнасці, многія пытанні паводле вар'іравання слоў і словаўтваральнай сінаніміі не маюць адназначнага тлумачэння ў навуцы, застаюцца нявырашанымі. Асабліва складаным з'яўляецца гістарычны аспект вывучэння гэтай з'явы. Тут узнікае нямала цяжкасцей, звязаных, напрыклад, з размежаваннем варыянтаў рознага тыпу (фанетычных, арфаграфічных, графічных), устанаўленнем тоеснасці і адрозненняў у лексічных значэннях так званых словаўтваральных варыянтаў ці сінонімаў і г. д. У нашай рабоце гэтыя пытанні закранаюцца ў дастасаванні да жаночых Nomina agentis старабеларускай мовы.

## Варыянтнасць жаночых асабовых намінацый

Пад варыянтнасцю звычайна разумеюць такія фанетычныя, арфаграфічныя і граматычныя (марфалагічныя) змены ў слове, якія не вядуць да семантычнай трансфармацыі гэтага слова.

Наяўнасць шырока разгалінаванай варыянтнасці сярод фемінінных асабовых назоўнікаў у беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. адлюстроўвае сабой агульны працэс развіцця і станаўлення фанетычнай, графіка-арфаграфічнай і марфалагічнай сістэм старабеларускай

---

[11] *Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск, 1970.

[12] *Жураўскі А. І.* Праблема варыянтаў у слоўніку старабеларускай мовы.— У зб.: Праблемы беларускай філалогіі. (Тэзісы дакладаў рэспубл. канферэнцыі). Мінск, 1968.

[13] *Шуба П. П.* Прыназоўнік у беларускай мове. Мінск, 1971, с. 21 і інш.

[14] *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 26 і інш.

[15] *Булахаў М. Г.* Гісторыя назоўнікаў з суфіксам -*изн*-а (-*чизн*-а, -*щизн*-а) у беларускай мове.—«Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР», 1961, вып. 8. Мінск, с. 117 і інш.

[16] *Васілеўскі М. С.* Прадуктыўныя тыпы дзеясловаў у сучаснай беларускай мове. Мінск, 1970, с. 34 і інш.

[17] *Вярхоў П. В.* Назоўнікі на -*ар*(-*яр*) у беларускай мове, с. 44; *Яго ж.* Субстантывацыя прыметнікаў у старабеларускай мове.—У зб.: Праблемы мовы і літаратуры. Мінск, 1972, с. 42.

мовы. Асабліва паказальныя ў гэтых адносінах фанетыка-арфаграфічныя варыянты[18] жаночых Nomina agentis.

### Фанетыка-арфаграфічныя варыянты

Пад фанетыка-арфаграфічнымі варыянтамі разумеюцца розныя па напісанню і фанетычнай структуры тоесныя лексічныя адзінкі. Сярод жаночых асабовых намінацый гэты від варыянтнасці даволі пашыраны ў старабеларускай мове.

Тыя варыянты, што адрозніваюцца паміж сабой у межах варыятыўнага раду наяўнасцю/адсутнасцю адпаведных гукаў/літар, з'явіліся ў старабеларускай мове ў асноўным як вынік адлюстравання на пісьме фанетычных працэсаў жывой беларускай мовы. Гэтыя працэсы знаходзілі сваё ўвасабленне ў такіх фанетычных з'явах, як дыэрэзы (выкідкі), эпентэзы (устаўкі), усячэнне пачатковага гука ў слове, што абумовіла існаванне наступных фанетыка-арфаграфічных варыянтаў:

т/ø: *милостница* (Зб. 262, 83) — *милосница* (Бельск., 187б), *невѣстка* (АВК, XXXI, 101) — *невѣска* (Арх. зб., 55), *отчичка* (РИБ, XX, 1366) — *очичка* (АВК, XXXIII, 28);

а/ø: *моавитянка* (РИБ, XIX, 389) — *мовитянка* (Хр. 2405, 299б);

j/ø: (побач з апазіцыяй а/я): *зайчыха* (ИЮМ, VIII, 283) — *зячыха* (там жа, 282);

о/ø: *осподариня* (Зб. 262, 109) — *сподариня* (Барк., 165б);

н/ø: *нендзница* (Бельск., 361) — *недзница* (Мак., 12б);

г/ø: *госпожа* (Бава, 256) — *оспожа* (Чэц., 47б), *господариня* (АЮЗР, I, 295; АВК, XXI, 34) — *осподариня* (Р-Л. А., 130; Зб. 262, 109), *геретичка* (РИБ, XIX, 873) — *еретичка* (АЗР, IV, 230).

Больш стракатую карціну ўяўляюць сабой фанетыка-арфаграфічныя варыянты, якія адрозніваюцца паміж

---

[18] Працэсы эвалюцыі і станаўлення старабеларускай арфаграфіі ўсебакова і грунтоўна разглядаюцца А. М. Булыкам у манаграфіі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (Мінск, 1970).

сабой у межах варыятыўнага рада проціпастаўленнем гукаў/літар:

я/е: *княгиня* (АЗР, I, 67) — *кнегиня* (РИБ, XXVIII, 9), *племянница* (ИЮМ, II, 265) — *племенница* (Скар. КЛ, 38), *княжничка* (АВК, XV, 28) — *кнежничка* (АВК, XII, 465), *землянка* (АВК, VI, 53) — *земенка* (АВК, XXXVI, 423) і інш.;

я/а: *подкоморянка* (АВК, XXXVI, 367) — *подкоморанка* (АВК, XXXVI, 368), *паненя* (Пралог, II, 643б) — *панена* (АВК, VIII, 34), *нерядница* (Зб. 82, 123б) — *нерадница* (Зб. 752, 99б), *молодиця* (Бяр.1, 117) — *молодица* (АВК, XXXIV, 421);

е/о: *кролевна* (Патр. Б., 99б) — *кроловна* (ИЮМ. VIII, 194), *жена* (Зб. 752, 580б) — *жона* (КАР, 10б), *единачка* (Стрыйк., 539) — *одиначка* (Зб. 259, 27б);

е/о/я: *цесаревая* (Апакр., 144) — *цесаровая* (Зб. 82, 217) — *цесарявая* (Пралог, II, 674б);

о/а: *братонъна* (КВС, 497) — *братанна* (БА, II, 279), *корчмиха* (АВК, XVII, 297) — *карчмиха* (ИЮМ, VIII, 235), *роботница* (АВК, XXII, 238) — *работница* (АВК, III, 277), *единочка* (Хр. 2405, 183) — *единачка* (Мак., 149);

о/у: *цорка* (Карп., II, 42б) — *цурка* (АВК, XXX, 291), *солтанка* (АВК, XXXI, 64) — *султанка* (РИБ, VII, 1328);

он/у: *хоронжанка* (ИЮМ, XXII, 355) — *хоружанка* (АВК, II, 210);

е/и: *девка* (Наб. тур., 23) — *дивка* (АВК, XXII, 76), *воеводянка* (АВК, I, 90) — *воиводянка* (АВК, I, 330), *невестъка* (КВЗС, 5) — *невистка* (АВК, XXIV, 71);

и/а: *научителка* (Бельск., 280б) — *научателка* (Зб., 752, 21);

и/ы: *падчерица* (Зб. 255, 201) — *падчерыца* (КВЗС, 11б), *принципалка* (АВК, XV, 1) — *прынцыпалка* (АВК, XX, 372), *товаришка* (Бяр.1, 34) — *товарышка* (АВК, XXXVI, 20), *рикунья* (Арх. зб., IV, 240) — *рыкунья* (АВК, XXXVI, 130), *отчичка* (АЗР, V, 5) — *отчычка* (ИЮМ, XXI, 316);

е/а: *каштелянавая* (Арх. зб., IV, 272) — *кашталяновая* (АВК, XI, 33);

о/а, я/е: *моавитянка* (Хр. 2405, 299б) — *маавитенка* (Скар. Кр, 31б);

е/и, ья/іа: *хрестьянка* (АЗР, III, 20) — *христіанка* (РИБ, IV, 1039);

г/х: *кнегиня* (РИБ, XXXIII, 9) — *кнехиня* (РИБ, XXVII, 683);

г/кг[19]: *господыня* (АВК, XI, 50) — *кгосподыня* (АВК, XX, 178);

г/кг, ø/р, ы/и: *ганчарыха* (ИЮМ, V, 133) — *кгарнчариха* (там жа);

щ/ч: *Михалщыха* (ИЮМ, XXII, 30) — *Михалчыха* (там жа, 35), *помощниця* (Чэц., 318) — *помочниця* (там жа, 50);

д/т: *падчерица* (Зб. 255, 201) — *патчерица* (АВК, XXXII, 158);

ч/ц: *ойчичка* (АВК, XXIV, 30) — *ойчицка* (АВК, VI, 94);

т/ц: *старостянка* (АВК, XX, 107) — *старосцянка* (АВК, XIV, 370);

ж/з: *небожчица* (Еўл., 141) — *небозчица* (АВК, XXII, 93), *княжна* (АЗР, I, 60; АЮЗР, I, 121) — *князна* (АЮЗР, I, 38);

жч/щ: *небожчица* (АЗР, I, 72; АЗР, II, 120) — *небощица* (АВК, III, 2; КВЗС, 5б);

ж/щ/ст: *небожъка* (АВК, XXXIV, 308) — *небощка* (там жа) — *небостка* (Зб. 255, 228);

ст/зьт: *невѣстка* (РИБ, XX, 58) — *невѣзьтка* (там жа);

в/у: *вдова* (АЗР, I, 179) — *удова* (АВК, XXXI, 199), *внучка* (АВК, II, 44) — *унучъка* (АВК, XX, 243).

Наяўнасць вялікай колькасці фанетыка-арфаграфічных варыянтаў у старабеларускай мове абумоўлена шэрагам прычын.

Па-першае, фанетыка-арфаграфічныя варыянты ўзнікалі ў многіх выпадках як вынік фіксавання на пісьме паслядоўных фанетычных змен, што адбываліся ў жывой беларускай мове ў працэсе станаўлення яе фанетычнай сістэмы, напрыклад, графічнае абазначэнне зацвярдзення *р, ц, ч, ж* (*нерядница* — *нерадница, товаришка* — *товарышка, подкоморянка* — *подкоморанка, помочни-*

---

[19] Дыграф *кг* ужываўся ў старабеларускай пісьменнасці для абазначэння выбухнога *г* у адрозненне ад фрыкатыўнага, які абазначаўся літарай *г*. Па назіраннях А. М. Булыкі, наяўнасць дыграфа *кг* дае магчымасць лёгка адрозніваць помнікі, напісаныя на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, ад помнікаў велікарускіх, дзе гэта графема не ўжывалася. Гл.: *Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы, с. 46.

*ця — помочница, принципалка — прынцыпалка, учителница — учытелница*), пераходу *в* у *у* ў пачатку слова, *т* у *ц* (*вдова — удова, внучка — унучка — унучъка, старостянка — старосцянка*), перадача акання (*корчмиха — карчмиха, одиночка — одиначка, каштеляновая — кашталяновая*), імкненне перадаць паасобна напісанне *г* фрыкатыўнага і *г* выбухнога (*господыня — кгосподыня, игуменья — икгуменья*) і г. д.

Па-другое, варыянты ўзнікалі ў выніку графічнага адлюстравання фанетычных змен, якія адбываліся ў працэсе функцыяніравання жывой беларускай мовы таго часу. Тут маюцца на ўвазе пісьмова замацаваныя выпадкі такіх фанетычных з'яў, як выкідкі (*милостница — милосница, нѣвестка — невѣска, отчичка — очичка*), усячэнне пачатковага гука (*госпожа — оспожа, осподариня — сподариня*), асімілятыўнае змяненне (*падчерица — патчерица — паччерыца*).

Па-трэцяе, наяўнасць асобных варыянтаў была абумоўлена ў старабеларускай мове паралельным існаваннем слоў, якія мелі ў сваім фанетычным абліччы рысы царкоўнаславянскага паходжання, і слоў, якія можна лічыць усходнеславянскімі па паходжанню (*работница — роботница, одиначка — единачка, младица — молодиця* і інш.).

Па-чацвёртае, у некаторых варыянтах маглі адлюстравацца адметныя рысы паасобных дыялектаў (*братовна — брахтовна, кнегиня — кнехиня* і інш.) [20].

Па-пятае, з'яўленне шматлікіх фанетыка-арфаграфічных варыянтаў тлумачыцца пранікненнем у беларускую мову XIV—XVIII ст.ст. жаночых Nomina agentis з другіх моў, асабліва з польскай. Адны з гэтых фемінінатываў былі няўстойлівымі ў фанетыка-арфаграфічных адносінах, і таму самі па сабе параджалі варыянтныя рады (*кролевна — кроловна, солтанка — султанка, цорка — цурка, ойчичка — ойчицка, небожка — небощка — небостка*). Другія, будучы запазычаннямі з польскай мовы, выступалі да адпаведных беларускіх намінацый як свайго роду іншамоўныя фанетычныя дублеты (*королева — кролева, белоголова — белоглова, хоружанка — хоронжанка* і інш.).

---

[20] Гл.: *Жураўскі А. І.* Праблема варыянтаў у слоўніку старабеларускай мовы, с. 43.

Асобна трэба адзначыць фанетыка-арфаграфічныя варыянты тыпу *невестъка — невистка, девка — дивка,* у якіх адбілася змешванне паасобных фанетычных рыс беларускай і ўкраінскай моў [21].

Фанетыка-арфаграфічныя варыянты пры ўліку ўсіх акалічнасцей іх узнікнення ў старабеларускай мове можна аб'яднаць у пэўныя полікарыянтныя рады, напрыклад: *княгиня — кнегиня — кнехиня; помощниця — помощница — помочниця— помочница; небожчица — небощица — небощыца — небожчыца — небозчица — небозчыца; моавитянка — мовитянка — моаавитенка* і інш.

Пры супастаўленні ж графіка-арфаграфічных і фанетыка-арфаграфічных варыянтаў, прадстаўленых аднымі і тымі ж семантычна тоеснымі лексемамі, можна атрымаць нават змешаныя (графіка-фанетыка-арфаграфічныя) полівaрыянтныя рады тыпу: *нерѧдница — нерꙗдница — нерадница; падчерица — падъчерица—падчѣрица—падъчерыца—падчерыца — патчерица — паччерыца; отъчичъка — отчычъка — отъчычка — отчичка — отчычка — очичка; невестка — невѣстка — нѣвѣстка — невѣстъка — невестька — невѣсˈтка — невѣсˈтъка — нєвєстка — невѣска — невистка; небожьчица — небожъчица — небожчица — небощица — небощыца — небожчыца — небозчица — небозчыца; єгѵптѧнка — египтꙗнка — єˈгѵтѧнка — египтѧнˈка — египтꙗ͡нка — египтенка* і інш. Усё гэта сведчыць аб наяўнасці разгалінаванага і складана пераплеценага графіка-фанетыка-арфаграфічнага вар'іравання жаночых Nomina agentis у старабеларускай мове.

### Марфалагічныя варыянты

Пад марфалагічнымі варыянтамі мы разумеем адзінкі, што ўзніклі ў выніку такіх марфалагічных змен у

[21] А. М. Булыка адзначае, што старабеларускія і стараўкраінскія кніжнікі імкнуліся пазбягаць на пісьме важнейшых фанетычных рыс сваіх моў з тым, каб іх творы былі зразумелымі на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Але «старабеларускім і стараўкраінскім кніжнікам прыходзілася мяняць месца свайго жыхарства, жыць і пісаць свае творы то на Беларусі, то на Украіне, і па гэтай прычыне яны часам змешвалі ў сваіх творах асаблівасці абедзвюх моў». Гл.: *Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы, с. 66—67.

складзе слова, якія не закранаюць словаўтваральнай структуры назвы.

Гаворачы аб марфалагічных варыянтах жаночых асабовых намінацый, мы маем на ўвазе ў дадзеным выпадку марфалагічнае вар'іраванне ў зыходнай форме назваў. Выпадкі вар'іравання такога характару сярод фемінінатываў старабеларускай мовы нешматлікія.

Як правіла, марфалагічныя варыянты ўзнікалі тут у выніку пераўтварэння канца слова. Гэта знаходзіла сваё праяўленне ў паралельным ужыванні:

1) розных флексій у некаторых назвах, напрыклад, канчатка *и* і *а* (пасля мяккага) у адным і тым жа становішчы: *княгини Марья і зъ сыномъ своимъ княземъ Василемъ...* (Зб. 255, 79) — *княгиня* (АЗР, I, 130); *...Петра апостола при огни грѣючагася рабыни обличила* (РИБ, VII, 898) — *рабыня* (Скар. ДЗ, 4); *пророкини* (Каліст, II, 292б) — *пророкиня* (Скар. КВ, 30) [22];

2) дзвюх форм (поўнай і ўсечанай) назоўнікаў ад'ектыўнага тыпу скланення, якія з'яўляюцца ўтварэннямі:

а) на -*ин*-ая (-*ын*-ая): *пани воеводиная Смоленская при церкви... стояти рачила* (АВК, VIII, 31) — *пани воеводина Смоленская при церкви... стояти рачила* (там жа, 36); *дядиная* (БА, II, 327) — *дядина* (там жа); *подчашиная* (АВК, XV, 271) — *подчашина* (АВК, XX, 494); *хоружыная* (РИБ, XXXIII, 397) — *хоружына* (там жа, 335); *конюшиная* (АВК, XXII, 377) — *конюшина* (там жа, 332) і інш.;

б) на -*ов*-ая (-*ев*-ая): *тивуновая Троцкая* (АВК, XI, 128) — *тивунова Троцка* (там жа); *господариня королевая её милость при всемъ томъ рачила его оставити* (АЮЗР, I, 295) — *от королевы правилъ поклонъ же* (АЗР, I, 267); *царевая* (Бельск., 180б) — *царева* (Біблія, 599); *цесаровая* (Пралог, I, 577) — *цесарова* (Зб. 752, 190) і інш.;

в) субстантываванымі прыметнікамі: *белогловая* (ИЮМ, XIII, 67) — *белоглова* (ИЮМ, III, 37); *беременная* (Бельск., 249б) — *бременна* (там жа, 144б).

---

[22] Як ужо адзначалася, на думку Я. Ф. Карскага (гл.: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28), пад уплывам суфікса -*ин'-и* (-*ын'-и*) узнік суфікс -*ин'-а* (-*ын'-а*). Я. Ф. Карскі прапанаваў разглядаць выпадкі на -*и* (тыпу *княгини, пророкини*) як арфаграфічныя варыянты. Нам здаецца, больш дакладным будзе лічыць іх марфалагічнымі варыянтамі, якія існавалі некаторы час паралельна ў старабеларускай мове.

Паралельнае функцыяніраванне дзвюх форм аднаго і таго ж утварэння было рэгулярным. З цягам часу яно прывяло ў парах слоў тыпу *конюшиная — конюшина, тивуновая — тивунова* і г. д. да аўтанамізацыі форм *конюшина, воеводина, тивунова, королева,* якія пачалі ўспрымацца як утварэнні на *-ин*-а (*-ын*-а), *-ов*-а (*-ев*-а), уносячы тым самым пэўныя зрухі ў словаўтваральную сістэму жаночых асабовых намінацый.

## Аднакарэнныя жаночыя асабовыя намінацыі

Да аднакарэнных жаночых фемінінатываў[23] мы адносім семантычна тоесныя ці блізкія словы, утвораныя пры дапамозе пэўных фемінінных дэрыватэм ад асноў, якія маюць у сваім складзе агульны корань. Будучы шматлікімі ў беларускай мове разглядаемага перыяду, яны неаднародныя па сваёй словаўтваральнай структуры.

Адны з іх з'яўляюцца намінацыямі, утворанымі пры дапамозе розных фармантаў ад аднолькавых па структуры аднакарэнных асноў (*дѣвка — дѣвица, молодка — молодица, пасербица — пасербина, монаха — монашка, игуменка — игуменья, пророчица — пророкиня* і інш.).

Другія ўтвараліся ад розных у структурных адносінах аднакарэнных асноў пры дапамозе аднолькавых ці розных словаўтваральных афіксаў (*ворожбитка — ворожка, опекунка — опекальничка, чародейка — чародейница, рыковка — рыкунья, перекупка — перекупщица.*

Як вядома, у моваведаў няма адзінай думкі адносна таго, як лічыць намінацыі, утвораныя пры дапамозе розных дэрыватэм ад аднолькавых па структуры асноў.

Адны даследчыкі лічаць іх словаўтваральнымі варыянтамі аднаго і таго ж слова[24]. Другія — выказваюць

---

[23] Гл.: *Пайленка М. А.* Аднакарэнныя жаночыя Nomina agentis у старабеларускай мове.— «Беларуская лінгвістыка», 1975, № 8, с. 3—9.

[24] Гл.: *Смирницкий А. И.* К вопросу о слове (Проблема «тождества слова»).— «Труды Ин-та языкознания АН СССР», 1954, т. 4; *Яго ж.* Лексическое и грамматическое в слове.— У кн.: Вопросы грамматического строя. М., 1955, с. 13; *Ахманова О. С.* Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957, с. 214—217; *Огнёва Г. Г.* Проблемы варьирования словообразовательной структуры слова (на материале современного немецкого языка). Автореф. канд. дис. М., 1970 і інш.

супрацьлеглы погляд на з'яву разглядаемага тыпу[25]. Прыхільнікі гэтага погляду адносяць такія словы да самастойных адзінак, сінанімічных паміж сабой.

Вядома, калі ўлічваць, што далучэнне да кораня ці асновы марфем з дэрывацыйным значэннем заўсёды павінна прыводзіць да ўтварэння новых лексічных адзінак, няхай нават супадаючых па лексічнаму значэнню, такія словы трэба прызнаць рознымі словамі, як гэта робяць, напрыклад, Ф. П. Філін, Р. П. Рагожнікава і інш. Але калі прымаць пад увагу той факт, што паміж словамі дадзенага тыпу немагчыма ці амаль немагчыма выявіць якое-небудзь лексіка-семантычнае адрозненне, а адрозненне іх тычыцца толькі словаўтваральнай структуры, утварэнні тыпу *игуменка — игуменья, швакгерка — швакгрына, рыковка — рыкунья* і г. д. можна было б лічыць лексіка-граматычнымі (словаўтваральнымі) варыянтамі аднаго і таго ж слова, як гэта прапанаваў у свой час А. І. Смірніцкі, а ўслед за ім В. С. Ахманава і інш.

Для беларускай мовы гэта пытанне ўскладняецца яшчэ тым, што фарміраванне дублетных слоў адбывалася тут не толькі за кошт працэсаў словаўтварэння, але і як вынік складанага ўзаемадзеяння беларускай мовы з рускай, украінскай, польскай і іншымі мовамі на працягу стагоддзяў.

Нам здаецца, станоўчае рашэнне ўзнятага пытання ў пэўнай ступені абумоўлена цяжкасцю акрэслівання дакладных межаў (асабліва калі гутарка ідзе аб гістарычным аспекце вывучэння гэтай з'явы) паміж семантычнай тоеснасцю і блізкасцю значэнняў у разглядаемай катэгорыі слоў, што, відаць, з'яўляецца адлюстраваннем недастаткова выразнага праяўлення дадзеных адрозненняў у мове[26]. В. С. Ахманава, са спасылкай на В. У. Вінаградава[27], піша так аб гэтым: «З прычыны

---

[25] Гл.: *Филин Ф. П.* О слове и вариантах слова.— У кн.: Морфологическая структура слова в языках различных типов. М.—Л., 1963, с. 130 і наступн.; *Рогожникова Р. П.* Варианты слов в русском языке. М., 1966, с. 10—11, 90 і інш.; *Яе ж.* Соотношение вариантов слов, однокоренных слов и синонимов.— У кн.: Лексическая синонимия. М., 1967; *Иванникова Е. А.* К вопросу о взаимоотношении понятия варианта с понятием синонима.— У кн.: Синонимы русского языка и их особенности. Л., 1972 і інш.

[26] Гл.: *Иванникова Е. А.* Назв. работа, с. 140.

[27] Гл.: *Виноградов В. В.* О формах слова, с. 40—41.

таго, што розным афіксальным марфемам уласціва розная ступень лексіка-семантычнай самастойнасці, практычна адрозніваць розныя словы-сінонімы ад розных словаўтваральных (марфалагічных) варыянтаў аднаго і таго ж слова аказваецца часта нялёгка, тым больш, што ў мове бесперапынна адбываюцца разнастайныя працэсы, якія прыводзяць то да семантычнай дыферэнцыяцыі варыянтаў аднаго і таго ж слова і пераўтварэння іх у розныя словы, то да згладжвання семантычных адрозненняў у адным і тым жа слове»[28]. Зыходзячы з гэтага, некаторыя даследчыкі імкнуцца знайсці выхад са становішча ў звужэнні самога паняцця варыянт слова.

Адны з іх лічаць, што да варыянтаў трэба адносіць толькі такія аднакарэнныя словы, сэнсавая блізкасць якіх заснавана на тоеснасці іх граматычных функцый[29].

Другія схільны бачыць у марфалагічных (словаўтваральных) варыянтах толькі дублеты, пад якімі яны разумеюць фанетычна блізкія, лексічна і стылістычна тоесныя ўтварэнні[30]. У адпаведнасці з гэтым атрымоўваецца, што аднакарэнныя словы, якія ўтвораны пры дапамозе паралельных словаўтваральных сродкаў і якія маюць хоць бы толькі стылістычныя адрозненні, лічацца рознымі словамі, сінонімамі. А словы, якія ўтвораны такім жа спосабам, але якім неўласцівы стылістычныя і іншыя адрозненні, прызнаюцца варыянтамі аднаго і таго ж слова, гэта значыць несінонімамі.

Асобныя даследчыкі[31] яшчэ больш звужаюць паняцце варыянта. Яны лічаць, напрыклад, самастойнымі словамі нават такія фанетычныя варыянты, якія адрозніваюцца толькі стылістычна. «Такі падыход да з'явы варыянтнасці і з'явы сінаніміі,—піша Е. А. Іваннікава,—

---

[28] *Ахманова О. С.* Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957, с. 215.

[29] Гл.: *Соколов О. М.* О морфологической синонимии как пределе морфологического варьирования слова и о некоторых явлениях распада вариантности слова.— «Учен. зап. Томского ун-та. Русский язык», 1959, вып. 39, с. 87, 90 і наступн.

[30] Гл.: *Гречко В. А.* Однокоренные синонимы и варианты слова.— У кн.: Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.—Л., 1966; *Иванникова Е. А.* Назв. работа, с. 140.

[31] Гл.: *Капранов В. А.* Фонетическая вариантность слов и синонимия.— У кн.: Лексическая синонимия. М., 1967, с. 139—141.

дапускае зрушэнне асноўных прымет вызначаемых паняццяў: з аднаго боку, пры вызначэнні лексічнага варыянта, чыста структурнай з'явы па сваёй прыродзе, прымаецца ў якасці асноўнага крытэрыя прымета семантычнага парадку, а з другога боку, у аснову вызначэння сінаніміі, з'явы чыста семантычнай па свайму характару, кладзецца структурны крытэрый. Як семантычная прымета не адпавядае сутнасці структурнай варыянтнасці, так і структурны крытэрый не адпавядае прыродзе сінанімічных узаемаадносін»[32]. А таму, на яе думку, пры вызначэнні словаўтваральных варыянтаў, тоесных ці блізкіх па свайму значэнню, павінна ўлічвацца ў першую чаргу структура гэтых адзінак. Паколькі ж аднакарэнныя намінацыі, няхай нават абсалютна тоесныя ці вельмі блізкія па значэнню, «утвораны пры дапамозе словаўтварэння, гэта значыць асноўнага спосабу стварэння слоў»[33], яны павінны быць прызнаны асобнымі самастойнымі словамі.

Прызнаючы гэта, мы ў той жа час адзначаем, што такія словы спецыфічныя і па свайму ўтварэнню, і па ўзаемаадносінах паміж сабой, і па функцыяніраванню ў мове. Гэта спецыфіка не можа не ўлічвацца і пры найменні ўказанага разраду намінацый.

У лінгвістычнай літаратуры ёсць нямала тэрмінаў для абазначэння разглядаемай катэгорыі слоў. Іх называюць словаўтваральнымі варыянтамі, словаўтваральнымі сінонімамі, аднакарэннымі сінонімамі, сінонімамі-дублетамі, дублетамі, аднакарэннымі словамі, варыянтамі-сінонімамі[34]. Кожны з названых тэрмінаў мае, відаць, свае станоўчыя якасці і свае слабыя месцы. Але кожны з іх можа быць выкарыстаны для аналізу адпаведных моўных з'яў. Усё залежыць ад таго, якое канкрэтнае значэнне надаць таму ці іншаму тэрміну. Тэрмін «варыянты-сінонімы» нам здаецца найбольш зручным

---

[32] *Иванникова Е. А.* Назв. работа, с. 140—141.

[33] Там жа, с. 141.

[34] Гл. аб гэтым: *Рогожникова Р. П.* Варианты слов в русском языке. М., 1966, с. 10—11; *Шуба П. П.* Прыназоўнік у беларускай мове. Мінск, 1971, с. 39—45; *Паўленка М. А.* Варыянты-сінонімы назоўнікаў у беларускай мове XIV—XVII ст.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна». Сер. 4, 1972, № 2, с. 33—34.

для абазначэння разглядаемай катэгоры слоў[35], пакольки ў ім улічваецца, з аднаго боку, факт утварэння намінацый ад адной і той жа асновы (словаўтваральнае вар'іраванне ўтвараючай асновы), а з другога боку, характар іх семантычных узаемаадносін, гэта значыць тое, з чаго звычайна зыходзяць пры вызначэнні сінанімічных адносін паміж словамі, у тым ліку і аднакарэннымі[36]. Іх можна называць таксама аднакарэннымі аднаасноўнымі сінонімамі[37].

Што датычыцца жаночых намінацый, утвораных ад розных у структурных адносінах аднакарэнных асноў, то тут, наколькі нам вядома, няма асаблівых пярэчанняў паводле прызнання іх асобнымі самастойнымі словамі.

Будучы таксама семантычна тоеснымі ці блізкімі па значэнню, яны адрозніваюцца паміж сабой у адных выпадках толькі структурнымі асаблівасцямі ўтвараючых асноў пры адных і тых жа словаўтваральных фемінінных марфемах (*наймитка — наймичка, нарекательница — нарекалница*), а ў другіх — як структурай утваралючых асноў, так і рознымі словаўтваральнымі афіксамі, якія афармляюць жаночыя асабовыя намінацыі (*перекупщица — перекупка, папежничка — папежиха, ворожбитка — ворожея*). З гэтага выпадку мы лічым больш зручным ужываць для назвы такой катэгорыі слоў тэрмін аднакарэнныя рознаасноўныя сінонімы.

Разгледзім кожную з адзначаных разнавіднасцей аднакарэнных жаночых намінацый паасобку.

---

[35] Гл.: *Паўленка М. А.* Словаўтваральнае вар'іраванне асабовых назоўнікаў у беларускай мове XIX ст.— У зб.: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. 3. Мінск, 1975, с. 110.

[36] Гл.: *Евгеньева А. П.* О некоторых особенностях лексической синонимии русского языка.— У кн.: Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.—Л., 1966, с. 4—29; *Яе ж.* Введение.— У кн.: Словарь синонимов русского языка, т. 1. Л., 1970, с. 11: *Гречко В. А.* Однокоренные синонимы и варианты слова.— У кн.: Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.—Л., 1966, с. 118—134; *Разумникова Г. А.* Синонимические отношения непереходных глаголов с производными от них глаголами на *-ся.*— У кн.: Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.—Л., 1966, с. 135—159; *Иванникова Е. А.* Назв. работа, с. 143.

[37] Паколькі ўказаныя словы разглядаюцца ў дадзенай рабоце разам з аднакарэннымі рознаасноўнымі намінацыямі, мы, з мэтай уніфікацыі тэрмінаў, будзем ужываць у далейшым назву «аднакарэнныя аднаасноўныя намінацыі».

### Аднакарэнныя аднаасноўныя фемінатывы

Аднакарэнныя сінанімічныя ўтварэнні ад асноў, аднолькавых і па структуры, і па семантыцы, адрозніваюцца ў межах сінанімічнага рада: а) рознымі суфіксамі, б) адсутнасцю/наяўнасцю суфіксаў[38].

Аднаасноўныя асабовыя назвы, якія адрозніваюцца суфіксамі, прадстаўлены наступнымі паралелямі:

-к-а/-иц-а: *полонянъка* (АВК, XXXVI, 125—126) — *полоненица* (АВК, XXXI, 195); *А дѣвка с тою трутизною спекла два хлѣбы...* (Бава, 134) —*...з д е в и ц е ю послаша тѣ хлѣбцы...* (Бава, 241); *...Василиса Сапежанка зъ черницами з а к о н н и ч к а м и... тотъ манастыръ въ Браславскомъ повѣтѣ... на выхованье свое держати будут* (АЮЗР, II, 54) —*...инокинямъ з а к о н н и ц а м ъ фундованого...* (АЗР, IV, 521); *...матка твоя... такъ великои хвалы и радости у ч а с т н и ч к о ю будет* (Зб. 259, 8б) —*...нероздѣлною его была, наслядовницею, и всихъ... правдивою о у ч а с т н и ц е ю...* (Карп., II, 45б); *поручничка* (Зб. 259, 533б) — *поручница* (Зб. 752, 144); *дворничка* (Арх. зб., III, 149) — *дворница* (ИЮМ, 1, 31);

-к-а/-еj-а: *ворожка* (РИБ, XIX, 773) — *ворожея* (Бяр.1, 16);

-к-а/-ниц-а: *...тая с к о м о р о ш к а ходечы по городом прыпеваеть о мнѣ о Дружненне..,* (Бава, 170) — *Дружненна... пошла з города, вчинившы ся с к о м о р о ш н и ц о ю, и шла по свету* (Бава, 168); *тое стадо быдла и коны паствила п а с т у ш к а ихъ* (АВК, XXVI, 388) — *...п а с т у ш н и ц ы, невольницы моей...* (там жа, 364);

-к-а/-ин'-а: *боярка* (КВЗС, 10б) — *бояриня* (АВК, XXI, 29);

-к-а/-ов-ая: *Ее милость пани Зофея... к а ш т е л я н к а Медзирѣцка* (Ахр. зб., IV, 266) — *Ее милость пани Ганна... к а ш т е л я н о в а я Холмская* (там жа, 272);

-к-а/-ин-ая: *...ку суженью припала справа ей милости... к а з н о д е й к и збору евангелицкого Любочанского* (АВК, XII, 453) — *паней Кристины Домбровское... к а з н о д ѣ и н о й збору евангелицкого* (там жа, 455);

-анк-а(-янк-а)/-ин-ая: *подканцлеранка* (АВК, XV,

---

[38] Гл.: *Пайленка М. А.* Аднакарэнныя жаночыя Nomina agentis у старабеларускай мове.— «Беларуская лінгвістыка», 1975, № 8, с. 3 і наступн.

166) — *подканцлериная* (АВК, XI, 188)[39]; *подкомрянка* (АВК, XXXVI, 367) — *подкомориная* (АВК, II, 24); *хоружанка* (АВК, II, 210) — *хоружиная* (АВК, VIII, 10); *конюшанка* (АВК, XV, 286) — *конюшиная* (АВК, XXII, 377); *старостянка* (АВК, XXXVI, 214) — *старостиная* (АЗР, III, 135); *воеводянка* (АВК, VIII, 427) — *воеводина* (там жа); *судянъка* (АВК, XXIII, 445—446) — *судиная* (АВК, XI, 123) і інш.;

-иц-а/-ниц-а: *кормилица* (Скар. КБ, 84б) — *кормилница* (Бяр., 104); *доилица* (Жыц. Еўф. Пол., 319б) — *доилница* (Скар. КЛ, 27б); *дня тог... облюбеница до ложъницы его впроважена быт мѣла* (Зб. 81, 69) — *...в церкви с҃тог Стефана на палацу корованыи был весполок з облюбенницею своею евдокиею* (Бельск., 335б);

-иц-а/-ин-а: *Максимиян... дал ему за малжонку Деодору пасербицу свою* (Бельск., 258) — *с пасынками двема... и с пасербинами Милою а Занею Мартиновнами...* (АВК, XXVI, 482);

-иц-а/ин'-а: *И была естъ в ты часы Дельбора пророчица...* (Скар. ІК, 10) — *Тогды взяла естъ Мариамъ Пророкиня...* (Скар. ІК, 30), *Взяла теды Маріамъ пророчица бубенъ вѣ руку свою...* (Хр. 2405, 93) — *...девора пророкиня...* (Бельск., 71б);

-иц-а/-ев-ая (-ев-а): *...въскоре приѣха к немоу и своею королицею...* (ЗРЛ. С. сп., 65) — *...господариня королевая её милость при всемъ томъ рачила его оставити* (АЮЗР, I, 295) — *...отъ Алены отъ королевы правилъ поклонъ же...* (АЗР, I, 267), *...добрая панна. которые панны намъ смеялися тепер ты надо всими тыми кролица* (Трыст., 124) — *И была у короля Аполона кролевая велми хоро[ша]* (Трыст., 1) — *...розмаитые игры ку хвале на именинах кролевы справили* (Скар. ТЦ, 71б); *царица* (АЮЗР, II, 112) — *царевая* (Алекс. XV, 1б) — *царева и цесарь црствовати боудут* (Сівіла, 9);

---

[39] Намінацыі *падканцлеранка* — *подканцлериная* ўтварыліся ад асновы мужчынскага Nomina agentis *подканцлерий*: *При томъ былъ маршалокъ и секретаръ нашъ Витебскій і Браславскій панъ Иванъ Сапѣга — подканцлерій* (АВК, XIII, 10), *...Станиславъ Радивилъ, подканцлерий великого князства Литовского* (АВК, XX, 263). Параўн. побач з гэтым ужыванне *подканцлеръ*, якое сустрэлася нам адзін раз: *...ксендза Петра Кгембицкого бискупа Премысльского подканцлера Корунского* (АЗР, V, 27).

-ин-а/-ов-ая: *нѣякую панну Красовскую служебную охмистрины взято въ секвестръ* (АЗР, V, 74) — *...Жаловали... на бояриню пани охмистровое, на сестричну свою рожоную* (РИБ, XX, 1521);

-ев-ая/-их-а: *...куплено Отъ Мелещихи Дегтяревой яецъ тридцать шесть* (ИЮМ, V, 130 )—*...куплено отъ мелещихи дегтярихи голубковъ пять* (там жа, 128); *Демидовая Пушкариха* (ИЮМ, II, 8) —*Демидиха* (ИЮМ, I, 12);

-ин-ая/-их-а: *Пани Радыоновая Цюрутиная удова...* (ИЮМ, VI, 14) — *Отъ радчихи Цюрютихи отобрали за прилавок золотыхъ три...* (ИЮМ, VIII, 19);

-ин-ая/-ш-а: *...паней Сапежиной, канцлерыной, въ хоробе не долгой...* (Еўл., 159) — *Я, Гдаль Ицковичъ, факторъ ея сіятельства, княгини, канцлерши в. к. Лит. объявляю.* (ИЮМ, XVIII, 273);

-к-а/-их-а: *...заставъшы его млстъ... в дому Масюты корчмарки...* (ИЮМ, XX, 349) — *прышотши до дому корчъмихы Белоножки... знайшли и запечатовали есмо у дому ее... бочку меду кислого немного не полную...* (АВК, XXXIX, 172);

-ѣл'-а/-ениц-а: 'Роженица — матиця, *породѣля, пороженица*' (Бяр.₁, 89);

-к-а/-j-а/-іj-а: *...панны Ефрозины Трызнянки, игуменки манастыра Пинского...* (АЮЗР, II, 81) — *...госпожы игуменьи Фетимѣи и всимъ сестрамъ ее законънымъ монастыра...* (ИЮМ, XXIII, 464) — *..законницы и игуменія, урожоная панни Агафія...* (АЮЗР, II, 78);

-щин-а/-щызн-а: *...также женщинъ и дѣтокъ малыхъ брали ли бы съ собою, коли бы якого розлитія крови спodѣватися мѣли* (АЗР, IV, 297) — *...закон рожаючыи мужчызну або женщызну* (Зб. 752, 524б).

Цікава, што некаторыя сінанімічныя паралелі ўтвораны ад адных і тых жа аднакарэнных асноў пры дапамозе варыянтных суфіксаў, якія ўзніклі ў выніку фанетыка-арфаграфічнага вар'іравання, абумоўленага як зрухамі ў фанетычным складзе асноў і выклıканымі гэтымі гукава-літарнымі зменамі ў складзе суфіксаў, так і па іншых прычынах. Напрыклад:

-j-а/-иj-а: *...рыкунью нашу... звезавшы з собою взяли* (АВК, XXXVI, 130) — *...тивунъ и рыкуния, которые тамъ у светлицы были* (АВК, I, 245);

-ев-ая/-ов-ая: *канцлеревая* (Арх. зб., I, 9) — *канцлеровая* (ИЮМ, IV, 129);

-янк-а/-анк-а: *подкоморянка* (АВК, XXXVI, 367) — *подкоморанка* (там жа, 397);

-ын-а/-ын'-а: *грекына* (ЗРЛ. С. сп., 12) — *грекыня* (там жа, 11);

-j-а/-иj-а/-еj-а: *...пытале, што за воланье было? панъ п а н ь ю бил* (ИЮМ, VIII, 536) — *...а бачечы же иная невеста хотели первеи се отправит рекъ до них: о служебница хочете упрежати п а н и ю* (Зб. 255, 329) — *Умоцованый ее млсти п а н е е Слутчиное и п а н е е Комаровское поведил...* (АВК, XXXII, 9);

-ин-ая/-ын-ая: *подкомориная* (АВК, II, 24) — *подкоморыная* (АВК, XXX, 227); *хоружиная* (АВК, VIII, 10) — *хоружыная* (АВК, II, 210); *конюшиная* (АВК, XXII, 377) — *конюшыная* (АВК, XXI, 40);

-чин-а/-чын-а: *д ѣ в ч и н а зъ Горки, подданая пани Офанасовичовое... ей тое сказала...* (Арх. зб., III, 150) — *д е в ч ы н ы дочки летников чотыры мухаеровых...* (АВК, XXXIII, 229);

-щызн-а/-чизн-а: *женщызна* (Зб. 752, 524б) — *женчизна* (Хр. 2405, 127б);

-ин'-а/-ын'-а [40]: *государиня* (Троя, 6) — *государыня* (АЗР, I, 277); *господариня* (АЮЗР, I, 295) — *господарыня* (РИБ, XX, 66); *господиня* (Бельск., 235б) — *господыня* (Зб. 752, 82); *бояриня* (АВК, XXI, 6) — *боярыня* (там жа, 29); *грекиня* (Бава, 87) — *грекыня* (ЗРЛ. С. сп., 11).

Вышэй былі прыведзены сінанімічныя рады аднаасноўных жаночых Nomina agentis, утвораных пры дапамозе розных суфіксаў ці іх варыянтаў. Але ў старабеларускай мове не менш цікавымі з пункту гледжання іх утварэння і функцыяніравання з'яўляюцца аднаасноўныя сінанімічныя намінацыі, якія адрозніваюцца адсутнасцю/наяўнасцю суфіксаў. Яны прадстаўлены такімі схемамі проціпастаўленняў:

---

[40] Вар'іраванне *-ин' -а* (*-ын' -а*) можна, мабыць, успрымаць і як рэфлекс арфаграфічнага вар'іравання некалі існаваўшых *-ин' -и* (*-ын' -и*) (*княгини—княгыни*), пад уплывам якіх узніклі ў старабеларускай мове *-ин' -а* (*-ын' -а*). Гл.: *Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28. Можна меркаваць, што ў шэрагу выпадкаў гэты рэфлекс падтрымліваўся тымі фанетыка-арфаграфічнымі з'явамі, якія адбываліся ў старабеларускай мове.

ø-а/-к-а: *жона* (Стрыйк., 470б) — *жонка* (АВК, XXXVI, 91); *внука* (Вісл., 9; Арх. зб., I, 313) — *внучка* (АВК, II, 44); *тотя* (АВК, XX, 201) — *тетка* (АВК, XXXI, 216); *прабаба* (Скар. КР, 1) — *прабабка* (АВК, XXX, 404); *монаха* (Бяр., 58) — *монашка* (АЗР, IV, 262); *сосѣда* (Хр. 2405, 88б) — *суседка* (АВК, XXXI, 481); *...приказано невѣсты бременное не бит* (Зб. 261, 241б) — *невестка же его жена финеисова беременна была* (Скар. ТЦ, 12б); *египтянина* (Пралог, I, 568) — *египтянка* (Бельск., 320б) і інш.;

ø-ая/-иц-а: *служебная* (АЗР, V, 74—75) — *служебница* (Хр. 2405, 39);

ø-а/-ын'-а: *Сара пакъ жена аврамова не рожаше ему сыновъ. но имела рабу египтянку* (Скар. КБ, 29) — *Авраамъ два сына имелъ, единого от рабыне, а другого от свободныя* (Скар. ДЗ, 4);

ø-а/-щин-а: *...а мати моя грешная жена на добрых людеи белье белила, темъ ся и кормилас* (Бава, 243) — *за кождую голову маеть платит за мужчизну и за женъщину водле статута* (КВЗС, 68б);

ø-ы/-в-а: *...жона его была неплоды* (Чэц., 147) — *ты родился от неплодви і остаревшися оузрослъ в пустыни* (Чэц., 38б) [41];

ø-ея/-ин-ая: *подскарбеи Березковецкои и сестре ее* (РИБ, XX, 895) — *...пани Богушовая, подскаръбиная земъская* (РИБ, XXX, 20);

ø-ая/-ов-ая: *Одъ пани войское Слонимское жадное прозбы о чары на милость пана маршалка не мѣла* (Арх. зб., III, 124) — *...а мене тамъ не пустили, и сама пани войсковая не шла* (там жа, 150);

ø-а/-иц-а/-к-а: *...а на татарце удове Рахметце Васковне видел есьми рану пробитую коломъ* (АВК, XXXI, 199) — *Матейчое вдовицы сынъ...* (АВК, XVIII, 35) — *...вдовицъ з дому своего выпрововалесъ порожнихъ* (Хр. 2405, 58) — *оддала... две ризы свое двема вдовкам убогим...* (Зб. 255, 349);

ø/-к-а: *коли мать умреть тогды дѣти беруть половину отъ усего имѣнія* (АЗР, I, 13) — *отецъ и матка не повинны за него платить тых пѣнезей* (АЗР, I, 12; АВК, XXI, 77);

---

[41] Проціпастаўленне *неплоды*//*неплодва* ўзнікла, відаць, як астатак скланення на *ы* ($<\bar{u}$) тыпу *свекры*/*свекръве*.

ø/-ьц-а/-к-а: *ятровъ* (Скар. КР, 137б) — *ятровьца* (там жа, 3) — *ятровка* (Бяр., 210);

ø-ая/-ин-ая/-ов-ая: *самой пани городничой дали штучку рубку* (ИЮМ, III, 54) — *пани Анною... городничиною Оршанскою* (АВК, XV, 233) — *Для паней Одинцовой Городничовой за штучку рубку пану молчановичу дано золотыхъ осмъ* (ИЮМ, I, 215);

ø-и/-ушк-а/-ухн-а/-ер: *будѣт яснѣти всих справедливыхъ царица мати божая* (Зб. 259, 559б) — *матушка наша стоит на луках морских* (Бава, 261) — *паномъ отцомъ моимъ Василемъ Садовскимъ и матухною... панею Томилою* (АВК, XXXIII, 133) — *и матер его да даст ти живот вѣчный* (Дыяр., 169 б).

Аднаасноўныя сінанімічныя фемінінатывы прадстаўлены ў старабеларускай мове больш як 40 сінанімічнымі радамі (тут прыведзены найбольш тыповыя), якія звычайна складаюцца з двух кампанентаў (*законничка — законница, боярка — бояриня, пророчица — пророкиня, казнодѣйка — казнодѣиная, корчмарка — корчмиха, сосѣда — суседка, раба — рабыня* і г. д.). Але сінанімічны рад мог налічваць і больш кампанентных адзінак. Гэта ў першую чаргу характэрна для паралелей, кампаненты якіх адрозніваюцца адсутнасцю/наяўнасцю суфіксаў (*вдова — вдовица — вдовка, дочь — дочка — дочерь, ятровъ — ятровьца — ятровка, мати — матушка — матухна — матер* і інш.).

Жаночыя асабовыя намінацыі, якія ўваходзяць у той ці іншы сінанімічны рад, звычайна выступаюць у адносінах адна да другой як словаўтваральныя дублеты, гэта значыць як семантычна тоесныя ўтварэнні (*раба — рабыня, кормилица — кормилница, казнодѣйка — казнодѣиная, боярка — бояриня* і г. д.). Выключэнне складаюць, па-першае, асобныя выпадкі, калі, напрыклад, адзін з кампанентаў сінанімічнага рада выяўляе больш шырокі аб'ём лексічных значэнняў, чым другі (*жена (жона)* '1. Жонка, 2. Жанчына' — *женъщина* 'жанчына', а па-другое, паралелі, членам якіх уласцівы стылістычныя адрозненні, абумоўленыя жанравымі асаблівасцямі пісьмовых помнікаў ці афіцыйнай і бытавой сферай ужывання намінацый (*мати — матушка — матухна — матер, корчмарка — корчмиха, Дегтяревая — Дегтяриха, Цюрютиная — Цюрютиха* і інш.).

Пераважная большасць аналізуемых назваў утвора-

на ад асноў адпаведных мужчынскіх асабовых назоўнікаў. Гэтыя асновы неаднолькавыя па сваёй структуры, словаўтваральных магчымасцях. Напрыклад, сінанімічныя намінацыі, якія адрозніваюцца паміж сабой суфіксамі, утвараліся як ад асноў невытворных (*игуменка — игуменья, скоморошка — скоморошница, канцлерыная— канцлерша, грекына — грекыня* і інш.), так і ад асноў вытворных (*своячина — своякиня, поручничка — поручница, пастушка — пастушница, дворничка — дворница, законничка — законница, казнодѣйка —казнодѣиная* і інш.), пры гэтым часта з усячэннем фіналі ўтваруючай асновы (*боярка — бояриня, кормилица — кормилница*).

Аднаасноўныя сінанімічныя фемінінатывы, якія адрозніваюцца паміж сабой адсутнасцю/наяўнасцю суфіксаў, таксама маюць свае асаблівасці. Напрыклад, тут ёсць сінанімічныя рады, у межах якіх:

а) першы член з'яўляецца словам з невытворнай асновай, а другі (ці другія), карэлятам да гэтага слова, утвораным пры дапамозе суфікса (*дочь — дочка — дочерь, вдова — вдовица — вдовка* і інш.);

б) усе члены сінанімічнага рада ўтвараюцца ад адной і той жа асновы мужчынскага Nomina agentis, але першы бяссуфіксным спосабам, а другі (ці другія) у выніку далучэння суфіка (*войская — войсковая* ад войский, *египтянина — египтянка* ад египтянинъ і інш.);

в) першы кампанент сінанімічнага рада з'яўляецца бяссуфіксным утварэннем ад асновы адпаведнага мужчынскага асабовага назоўніка, тады як другі мае двайную суадноснасць з утваруючымі асновамі: ён успрымаецца як карэлятыўнае суфіксальнае ўтварэнне ад асновы першага і як вытворная намінацыя ад асновы адпаведнай мужчынскай асабовай назвы. У сувязі з гэтым устанаўліваюцца наступныя рэгулярныя адносіны паміж мужчынскімі асабовымі намінацыямі і жаночымі Nomina agentis:




*і інш.*

Пераважная большасць сінанімічных фемінатываў з'яўляецца словамі, утворанымі пры дапамозе беларускіх словаўтваральных сродкаў (*пасербина* — *пасербица, своячина* — *своякиня, вдова* — *вдовица* — *вдовка, пастушка* — *пастушница, болгарка* — *болгариня, кормилица* — *кормилница* і інш.). Але тут сустракаюцца выпадкі, калі сінанімічны рад, відаць, цалкам запазычан з польскай мовы (*злотаровая* — *злотарка, панена* — *паненка, пани* — *панья* — *пания* — *панея*) ці з'яўляецца «агульным» для беларускай і польскай моў (*подканцлеранка* — *подканцлериная, каштелянка* — *каштеляновая, охмистрина* — *охмистровая* і інш.).

Прадстаўлены ў старабеларускай мове і сінанімічныя рады, у якіх:

а) першы член адносіцца да ўласна-беларускіх слоў, а другі ўтвараецца ад той жа беларускай асновы, але пры дапамозе дэрыватэмы, больш уласцівай польскай мове (*женщина* — *женщызна*)[42];

б) адзін з кампанентаў рада (першы) з'яўляецца ўсходнеславянскім, а другі ўтвараецца пры дапамозе ўласна-беларускіх словаўтваральных сродкаў, але па мадэлі, мабыць, больш уласцівай польскай мове (*королица* — *королевая, царица* — *царевая, казнодѣйка* — *казнодѣиная, войская* — *войсковая, городничая* — *городничиная* — *городничовая* і інш.).

### Аднакарэнныя рознаасноўныя фемінатывы

Рознаасноўныя сінанімічныя Nomina agentis жаночага роду ўтвараліся ў старабеларускай мове пры дапамозе як адных і тых жа дэрыватэм, так і дзякуючы далучэнню розных афіксаў.

Аднакарэнныя рознаасноўныя сінонімы, якія адрозніваюцца паміж сабой толькі структурай асноў, аб'ядноўваюцца ў сінанімічныя рады, у межах якіх:

1) усе члены з'яўляюцца ўтварэннямі ад розных па сваёй структуры асноў мужчынскіх асабовых назоўнікаў: *наймитка* (АВК, XXII, 100) — *наймичка* (АВК,

[42] Аб суфіксу *-изн*-а (*щизн*-а) гл.: Булахаў М. Г. Гісторыя назоўнікаў з суфіксам *-изн*-а (*чизн*-а, *щизн*-а) у беларускай мове.— «Працы Ін-та мовазнаўства АН СССР», 1961, вып. 8, с. 117—123. Асобныя заўвагі аб актывізацыі суфікса *-изн*-а на беларускай глебе гл. у Я. Ф. Карскага (*Карский Е. Ф.* Белорусы, с. 28—29.).

XXI, 102); *добродѣйка* (АВК, I, 23; АЗР, I, 218) — *добродителка* (ИЮМ, XXII, 240); *моавитянка* (Біблія, 421) — *моавитка* (Хр. 2405, 194) — *моавка* (Бельск., 76б) — *моавлянка* (Скар. КР, 2б); *мурянинка* (Скар. КЛ, 29б — *муринъка* (Пралог, II, 598б); *опекунка* (АВК, XX, 197) — *опекалничка* (Зб. 259, 472); *наследница* (Зб. 752, 33) — *наслѣдовница* (Каліст, II, 211) і інш. Сінанімічныя рады гэтага тыпу, па сутнасці, з'яўляюцца адлюстраваннем сінаніміі адпаведных мужчынскіх дублетных утварэнняў (*наймитъ — наймичъ, добродѣй — добродитель, моавитянинъ — моавитъ моавъ — моавлянинъ, мурянинъ — муринъ, опекунъ — опекалникъ, наследникъ — наслѣдовца);*

2) усе члены сінанімічнага рада ўтвораны ад адной і той жа асновы з рознымі прэфіксамі ў сваім складзе, якія знешне адрозніваюць сінонімы: *заложница* (Бяр., 228) — *наложница* (РИБ, VII, 795) — *подложница* (ЛС, 1566, 34) — *вложница* (Мак., 12) — *положница* (Бельск., 40б).

Што датычыцца аднакарэнных рознаасноўных жаночых намінацый, якія адрозніваюцца яшчэ і суфіксамі, то яны аб'ядноўваюцца ў наступныя сінанімічныя рады:

-к-а/-иц-а: *любодейка* (Скар. ТЦ, 44б) — *любодѣиница* (Чэц., 355б); *чародейка* (Скар. КВ, 15б) — *чародейница* (Будны, 19); *родичка* (АВК, XXXIV, 308) — *родственница* (ИЮМ, II, 261); *перекупка* (Зб. 261, 27б) — *перекупщица* (ВС, I, 179); *владарка* (Пралог, II, 646б) — *владычыца* (Каліст, I, 40б) і інш.;

-к-а/-их-а: *корчмитка* (АВК, XXIX, 3) — *корчмиха* (ИЮМ, VII, 509); *папежничка* (РИБ, IV, 886) — *папежиха* (РИБ, XIX, 1135);

-к-а/-ушк-а: *пастушка* (АВК, XXVI, 154) — *пасушка* (там жа);

ø-ая/-янк-а: *скарбная* (АВК, XX, 201) ад *скарбный* — *скарбянка* (АВК, VIII, 500) ад *скарбій.*

Асобныя сінанімічныя рады складаюцца з кампанентаў, адзін з якіх утвараецца ад асновы мужчынскай асабовай назвы, а другі — ад дзеяслоўнай асновы: -к-а/-еj-а: *ворожбитка* (Троя, 12) — *ворожея* (Бяр.₁, 16).

Як паказвае аналізуемы матэрыял, амаль усе сінанімічныя жаночыя Nomina agentis, утвораныя ад розных аднакарэнных асноў, з'яўляюцца дублетамі (*наймитка — наймичка, ворожбитка — ворожка, корч-*

*митка — корчмарка, любодейка — прелюбодейка, муранинка — муринка, опекунка — опекалничка, служебная — служебка* і г. д.).

Калі ўлічваць семантычную тоеснасць аднакарэнных рознаасноўных назваў са значэннем асобы жаночага полу, якія ўваходзяць у розныя сінанімічныя рады, асобныя сінанімічныя рады можна аб'яднаць у так званыя структурна змешаныя рады аднакарэнных рознаасноўных утварэнняў (*корчмитка — корчмиха — корчмарка, служебная — служебка — служебница, ворожбитка — ворожка — ворожея, канцлеревая — канцлеровая — канцлериная — канцлерша*). Некаторыя з такіх радоў часта аб'ядноўваюць кампаненты, якія з'яўляюцца адначасова і аднакарэннымі аднаасноўнымі ўтварэннямі (*канцлеревая — канцлеровая, канцлериная — канцлерша, служебка — служебница*), і аднакарэннымі рознаасноўнымі (*ворожбитка — ворожка, ворожбитка — ворожея, канцлеровая — канцлериная* і інш.). Такія рады можна было б называць камбінаванымі сінанімічнымі радамі.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

1. Праведзены з улікам статыка-дынамічных фактараў аналіз паказвае, што жаночыя асабовыя намінацыі старабеларускай мовы своеасаблівыя як у словаўтваральных, так і ў лексіка-семантычных адносінах.

2. Па сваёй словаўтваральнай структуры гэтыя фемінатывы ў пераважнай большасці вытворныя. Утварэнне іх адбывалася, як правіла, суфіксальным спосабам ад асноў адпаведных назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу. Колькасць жаночых Nomina agentis, утвораных пры дапамозе іншых словаўтваральных сродкаў ад асноў назоўнікаў іншых разрадаў ці ад асноў слоў іншых часцін мовы, у беларускай мове XIV—XVIII ст.ст. нязначная.

3. У ролі дэрыватэм, утвараючых фемінінныя назвы, выступае звыш сарака суфіксаў і іх варыянтаў, якія характарызуюцца неаднолькавай прадуктыўнасцю. Найбольш прадуктыўныя сярод іх суфіксы -*к*-а, -*иц*-а (-*ниц*-а). Пры дапамозе гэтых фармантаў і суфіксаў, якія ўзніклі на іх базе, утварылася больш палавіны ўсіх жаночых асабовых намінацый, што прадстаўлены ў аналізуемых намі пісьмовых крыніцах старабеларускай мовы.

4. Суфікс -*к*-а далучаўся як да назоўнікавых асноў невытворных, так і вытворных, ускладненых дэрыватэмамі -*аръ, -тель, -икъ (-никъ, -лникъ), -итъ, -ичь, -тухъ, -ачь, -тай, -унъ, -инъ (-анинъ, -янинъ), -ецъ, -ень* (*товарышка, кухарка, приятелька, еретичка, опекалничка, наймитка, отчичка, пастушка, прачка, ходотайка, опекунка, татарка, землянка, постоялка, перекупка* і інш.). Утвараў ён фемінатывы і ад некаторых асноў слоў іншых часцін мовы (*мужатка, приданка, ворожка* і інш.). Здольнасць фарманта -*к*-а спалучацца з такім шырокім колам як простых, так і вытворных (звычайна суфігі-

раваных) асноў слоў розных часцін мовы сведчыць аб яго практычна неабмежаваных словаўтваральных магчымасцях у беларускай мове разглядаемага гістарычнага перыяду.

5. Некалькі абмежаванымі былі словаўтваральныя магчымасці суфікса -*иц*-а (-*ниц*-а), які таксама далучаўся як да невытворных назоўнікавых асноў (*вдовица, пасербица, королица* і інш.), так і вытворных. Але апошнія былі толькі трох структурных тыпаў: асновы, ускладненыя суфіксамі -*икъ* (-*никъ*), -*щикъ* (-*чикъ*), -*ецъ* (*дверница, служебница, стодольница, небожчица, перекупщица, старица, черница* і інш.).

6. Асобную групу сярод фемінінных Nomina agentis складалі назвы з фармантам -*ин*-ая (-*ын*-ая) (так званыя імёны ад'ектыўнага тыпу скланення): *канцлерыная, казнодѣиная, воеводиная, конюшиная, подскарбиная, хоружиная, подчашиная, подкомориная, ловчиная, пивничиная, подстолиная* і інш. Большасць іх утваралася ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду, якія нагадваюць паводле структуры субстантываваныя прыметнікі, хоць на самай справе такімі, відаць, і не з'яўляюцца (*конюший, подскарбий, хоружий, подчаший, подкоморий, ловчий, пивничий, подстолий* і інш.). Мадэль утварэння намінацый на -*ин*-ая (-*ын*-ая), станаўленне якой адбылося ў межах заходнерускага моўнага арэалу і, мабыць, не без уплыву польскай мовы, была прадуктыўная ў старабеларускай мове. Гэта знайшло сваё адлюстраванне нават ва ўтварэнні шматлікіх фемінінных намінацый на -*ин*-ая (-*ын*-ая) ад асноў мужчынскіх уласных імёнаў ці прозвішчаў (*Сапежыная, Клыжыная, Дюндиная, Сорочыная, Кузминая, Жабиная* і г. д. ад *Сапѣга, Клыжъ, Дюнда, Сорока, Кузма, Жаба*).

7. Прадстаўленыя значнай колькасцю ў старабеларускай мове фемінінныя Nomina agentis на -*ев*-ая (-*ов*-ая) утвараліся як у выніку субстантывацыі адпаведных прыналежных прыметнікаў жаночага роду паводле эліпсіса назоўнікаў у складзе атрыбутыўнага словазлучэння ці «імгненна, па мадэлі ўжо існуючых у мове субстантыватаў», так і ад асноў субстантываваных прыметнікаў на -*ев*-ый (-*ов*-ый) пры дапамозе флексіі са значэннем жаночасці. Размежаванне слоў, утвораных названымі шляхамі, з'яўляецца надзвычай цяжкім, а

для шэрага намінацый наогул немагчымым, што тлумачыцца, з аднаго боку, стратай семантычнай суаднесенасці паміж жаночымі Nomina agentis на -*ев*-ая (-*ов*-ая) і прыметнікамі, якія паслужылі базай для ўтварэння гэтых назваў, а з другога боку, немагчымасцю дакладна акрэсліць намінацыі на -*ев*-ая (-*ов*-ая), якія ўзніклі «імгненна», па мадэлі ўжо існуючых утварэнняў.

8. «Апрадмечванне» ўтварэнняў на -*ев*-ая (-*ов*-ая) абумовіла той факт, што ўсе яны пачалі выступаць у старабеларускай мове як намінацыі, семантычна матываваныя адпаведнымі аднакарэннымі мужчынскімі назвамі і, больш таго, успрымацца як словы, утвораныя ад асноў гэтых назоўнікаў (*конюшокъ — конюшковая, король — королевая, лекарь — лекаревая, докторъ — докторовая, войтъ — войтовая, писаръ — писаровая, фурманъ — фурмановая, енералъ — енераловая, свещенникъ — свещенниковая, тивунъ—тивуновая, воеводичь— воеводичовая, кухмистръ — кухмистровая, дойлидъ — дойлидовая* і г. д.).

Мадэль дэрыватаў на -*ев*-ая (-*ов*-ая) была вельмі прадуктыўная. Яна рэгулярна функцыяніруе ў старабеларускай мове. Станаўленне і функцыяніраванне яе ў беларускай мове разглядаемага перыяду, мяркуючы па нашых матэрыялах, адбывалася ў пэўнай ступені таксама пад уплывам польскай мовы.

9. Жаночыя асабовыя намінацыі, утвораныя ў старабеларускай мове пры дапамозе іншых суфіксаў, уяўляюць сабой стракатую карціну як у колькасных адносінах, так і паводле структурных асаблівасцей.

10. Існуючыя побач с суфіксальна ўтворанымі назвамі жаночыя асабовыя субстантываты ўзнікалі шляхам субстантывацыі стэрэатыпных па структуры прыметнікаў (ці дзеепрыметнікаў) жаночага роду ў выніку эліпсацыі назоўнікаў, да якіх прыметнікі выступалі азначэннем (*свиренная, прихожаа, прекрасная, плюгавая, беременная, белоголовая, замужная, пущеная* і інш.). Адны з субстантыватаў характарызаваліся патэнцыяльна магчымымі суадносінамі з адпаведнымі мужчынскімі асабовымі назвамі (*свиренная — свиренный, служащая — служащий, прихожаа — прихожий, щасливая — щасливый*). Другія не мелі адпаведных мужчынскіх назваў па прычынах нямоўнага характару (*мужатая, беременная, замужная, белоголовая, пущеная*).

11. Намінацыі, утвораныя шляхам выкарыстання флексіі са значэннем жаночасці, матываваліся, з аднаго боку, асновамі агульных назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу (*рабъ — раба, кумъ — кума, монахъ — монаха, единокъ — единока, соседъ — соседа, египтянинъ — египтянина*), а з другого боку, асновамі назоўнікаў ад'ектыўнага тыпу скланення (*хоружий — хоружая, подключий — подключая, конюший — конюшая, скарбный — скарбная*). Рэгулярнае функцыяніраванне дадзенай мадэлі ў значнай ступені падтрымлівалася актыўнасцю ўтварэння такім спосабам фемінатываў ад адпаведных маскулінных прозвішчаў (*Тиборовский — Тиборовская, Превальский—Превальская, Комаевский — Комаевская, Гуторовъ — Гуторовая, Будогоский — Будогоская*).

12. Наяўнасць жаночых асабовых намінацый, якія мелі двайную (і больш) суаднесенасць з утваруючымі асновамі, была абумоўлена як існаваўшай у старабеларускай мове аднакарэннай дублетнасцю сярод мужчынскіх асабовых назоўнікаў (*братаничь — братанокъ⟶братанка, сестренецъ — сестранецъ — сестрынецъ — сестранокъ⟶сестрынка* (*сестранка*) і інш.), так і складанымі словаўтваральнымі ўзаемапераходамі паміж утваруючымі і вытворнымі словамі ў межах словаўтваральнага гнязда:

*анъ* ⟶ *паничь*; *анъ* ⟶ *панна*; *паничь* ↓ *панна*
*ани* ⟶ *панна*
*анена* ⟶ *паненка*,

*рабъ* ⟶ *раба*; *рабъ* ⟶ *рабыня*; *раба* ↓ *рабыня*

*онахъ* ⟶ *монаха*; *онахъ* ⟶ *монахиня*; *монаха* ↓ *монахиня*,
*король* ⟶ *королевичь*; *король* ↓ *королева*; *король* ⟶ *королевна*; *королева* ⟶ *королевна*; *королевичь* ↓ *королевна*,
*князь* ⟶ *княжничь*; *князь* ↓ *княгиня*; *князь* ⟶ *княжна*; *княжничь* ↓ *княжна*.

13. Для суфіксаў, якія прымалі ўдзел ва ўтварэнні жаночых. Nomina agentis, характэрна пэўная спецыфіка спалучальнасці з утваруючымі асновамі. Дэрыватэмы -*лиц*-а, -*лниц*-а, -*овиц*-а, -*инк*-а, -*енк*-а, -*ушк*-а, -*ин*-а

(*-ын*-а), *-ј*-а (*-іј*-а), *-адʼј*-а, *-ех*-а (*-ох*-а, *-ах*-а), *-ухн*-а, *-чизн*-а (*-щызн*-а), *-ис*-а (*-исс*-а), *-ен*-а, *-ш*-а, *-чин*-а (*-чын*-а), *-щин*-а (*-шчын*-а), *-овь*, *-ерь* (*-еръ*), *-ин*-ая (*-ын*-ая), *-ев*-ая (*-ов*-ая), *-в*-а далучаліся да поўнай па структуры ўтвараючай асновы (*дои*-ти — *доилица*, *корми*-ти — *кормилница*, *открокъ* — *открoковица*, *староста* — *старостинка*, *панъ* (*пани*) — *паненка*, *мать* — *матушка*, *охмистръ* — *охмистрина*, *игуменъ* — *игуменья*, *попъ* — *попадья*, *мать* — *мачеха*, *мать* — *матухна*, *дѣва* (*дѣвча?*) — *дѣвчина*, *жена* (*женска*) — *женъщина*, *диаконъ* — *диакониса*, *панъ* (*пани?*) — *панена*, *канцлеръ* — *канцлерша*, *свекоръ* (*свекры*)—*свекровь*, *мати*—*матерь*, *пивничий* — *пивничиная*, *римаръ* — *римаровая*, *неплоды* — *неплодва* і г. д.). Тады як фарманты *-к*-а, *-анк*-а (*-янк*-а), *-иц*-а, *-ниц*-а, *-инʼ*-а (*-ынʼ*-а), *-их*-а (*-ых*-а), *-чих*-а (*-чых*-а), *-еј*-а ў адных выпадках спалучаліся з поўнымі асновамі (*ходатай* — *ходатайка*, *воевода* — *воеводянка*, *король* — *королица*, *нарекатель* — *нарекательница*, *князь* — *княгиня*, *папежъ* — *папежиха*, *Цыбуля* — *Цыбулчиха*, *жати* (*жн*-у) — *жнея*), а ў другіх — далучэнне іх выклікала ўсячэнне маскуліннага фарманта ўтвараючай асновы (*земенинъ* — *земянка*, *шляхтичь* — *шляхтянка*, *племенникъ* — *племенница*, *облюбеникъ* (*облюбенецъ*) — *облюбенница*, *болгаринъ* — *болгариня*, *радчикъ* — *радчиха*, *ворожити* — *ворожея* і інш.). Што ж датычыць фармантаў *-ас*-а, *-ѣлʼ*-а, *-н*-а (*-овн*-а, *-евн*-а), то яны спалучаліся толькі з усечанымі асновамі (*рабинъ* — *рабаса*, *породити* — *породѣля*, *братаничь* — *братанна*, *царевичь* — *царевна* і інш.).

14. Будучы разнастайнымі паводле лексіка-семантычных прымет, жаночыя асабовыя намінацыі старабеларускай мовы аб'ядноўваюцца ў асобныя лексіка-семантычныя разрады ці групы, межы паміж якімі ў пэўнай ступені ўмоўныя. Гэта звязана як з полісемантычнасцю многіх фемінінных Nomina agentis, так і з недастатковай семантычнай выразнасцю асобных утварэнняў.

15. Сярод суфіксаў, якія ўтваралі словы розных лексіка-семантычных груп, існавала пэўная спецыялізацыя. Фарманты *-ов*-ая (*-ев*-ая), *-ин*-ая (*-ын*-ая) утваралі імёны, якія з'яўляюцца назвамі жонак па роду дзейнасці, прафесіі, сацыяльнаму становішчу мужа (*гетмановая*, *золотаровая*, *тивуновая*, *енераловая*, *ротмистро-*

*вая, воеводиная, хоружиная, казнодѣиная, ловчиная, возничиная* і інш.). Суфіксы *-н*-а (*-овн*-а, *-евн*-а) утваралі пераважна назвы, якія абазначалі асобу жаночага полу паводле заняткаў, роду дзейнасці, сацыяльнага становішча і г. д. бацькі (*панна, королевна, каштеляновна, чашъниковна, маршалковна, стольниковна, поповна, княжна, царевна* і інш.). І толькі дэрыватэмы *-к*-а, *-н'*-а, *-иц*-а і іншыя маглі ўтвараць семантычна разнастайныя фемінінныя Nomina agentis (*акторка, прынцыпалка, наймитка, корчмарка, товарышка, папежничка, внучка, цыганка, королица, шапочница, грѣшница, богомолица, пасербица, супружница, старица, кнегиня, инокиня, прокиня, грекиня, своякиня, монархиня, бояриня, рабыня* і інш.).

16. Наяўнасць сярод фемінінных асабовых намінацый шматлікіх варыянтаў (асабліва фанетыка-арфаграфічных тыпу *племянница — племенница, подкоморянка — подкоморанка, господыня — кгосподыня, старостянка — старосцянка, вдова—удова, княжна — князна, небожчица — небощица, падчерица — патчерица* і г. д.) і шырока разгалінаванай аднакарэннай сінаніміі (*игуменка — игуменья, ворожбитка — ворожка — ворожея, корчмитка — корчмарка — корчмиха, заложница — наложница — подложница — йоложница — вложница, моавитянка — моавитка — моавка — моавлянка* і г. д.) ёсць, з аднаго боку, адлюстраванне агульнага працэсу развіцця і станаўлення фанетыка-арфаграфічнай, марфалагічнай і словаўтваральнай сістэм старабеларускай мовы, а з другога боку — сведчанне таго, што гэты працэс для шэрага жаночых асабовых назваў таго часу быў складаным і супярэчлівым.

# ІНВЕРСІЙНЫ СЛОЎНІК [1]

120, 86, 85, 84, 83 прихожаа
43, 36, 25 баба
112, 36 прабаба
81, 79, 78, 77, 26 раба
121, 114, 113, 112,
122, 112, 77 неплодва
122, 73, 51, 46 дева
100, 71, 70, 25 королева
121, 109, 103, 102,
109, 102 царева
51 золва
41, 25 вдова
99, 89, 84, 80, 68, 60, 54, 51, 50,
123, 115, 114, 113, 112, 110, 100,
102, 100, 86, 85 белоголова
85 белая голова
109, 100, 71 (кролева) кролова
103, 102, 71 тивунова
102 цесарова
71 сурокготарова
71 золотарова
71 молярова
81, 79 бачмага
79 небога
81, 79, 27 подруга
81, 79 супруга
113, 112, 81, 79, 39 суседа
121, 114,
100, 97, 47 госпожа
43, 36, 35, 27, 25 бабка
112, 36, 35, 27 прабабка
117 служебка
123, 116, 39 моавка
41, 38, 31, 30, 27 девка
108, 103, 98, 57, 48, 43,
41 торговка
115, 114, 113, 112 вдовка
68 жидовка
40, 27 московка
103 рыковка
113, 31 ятровка
37, 35 литовка
112, 44, 39, 26 суседка
114, 113,
90 жидка

103 молодка
99, 38, 27, 26 небожка
100,
43, 42, 41, 26 ворожка
123, 118, 117, 116, 108, 103, 44,
44, 37, 36, 31 ходотайка
122, 118,
116, 37, 36, 26 любодейка
117,
116 прелюбодейка
37 злодейка
113, 108, 36 казнодейка
115, 114,
116, 103, 36 чародейка
37, 36, 27, 25 добродейка
116,
39, 38 вуйка
44, 38, 31 прынцыпалка
123, 100, 98,
32 сполобывателка
37, 36, 31 благодетелка
27 (родителька) родителка
44, 37, 32, 30,
116, 36, добродителка
32, 30 взгардителка
32, 30 сказителка
37, 32, 30 гонителка
(научутелька) научителка
98, 44, 32, 26
32, 29 потешителка
29, 27, 25 неприятелка
37, 32,
118, 37, 34 постоялка
38, 26 мамка
36, 27 чужоземка
43, 34, 27 поганка
123, 43, 39, 27 цыганка
42, 41, 26 подданка
44, 42, 41, 26 приданка
118,
45 сапежанка
98, 87, 45 хоружанка
109, 100,
35, 26, 25 выволанка
44, 37,

[1] У слоўнік уключаны толькі словы, ужытыя ў кантэксце ілюстрацый. Варыянты фемінінатываў, як правіла, не размяжоўваюцца. Лічбы ўказваюць на старонку работы.

76, 45, 26 подканцлеранка
115, 109, 108,
(подкоморянка) подкоморанка
123, 111, 109, 99, 98, 45
121, 43, 34 сестранка
121, 43, 25 братанка
100, 98, 44, 38, 26 султанка
45, 26 лесничанка
35 слутъчанка
93, 45 конюшанка
51, 37, 35, 34, 26 мещанка
94, 93, 90, 81, 67, 66, 65,
42, 41, 26 приведенка
110, 104, 103, 39 игуменка
123, 114,
121, 115, 46, 25 паненка
122,
117, 116, 35 мурянинка
117, 116, 27 муринка
35, 27 филистинка
46 старостинка
41, 40, 38, 36, 27 жонка
112, 69, 67, 43,
88, 80, 58, 31, 26 малжонка
109, 91,
37, 36 беложонка
39, 36, 31, 27 патронка
117, 116, 103, 32 опекунка
118,
121, 43, 34, 27 сестрынка
35 перехрестынка
116 скарбянка
35, 34 псковянка
45, 44, 26, 25 воеводянка
122, 98,
35, 34, 27 евреянка
34, 28, 27 хеттянка
35, 34 коверзянка
35, 37 ариянка
35, 34 витблянка
123, 116, 34 моавлянка
35, 24 селянка
108, 44, 39, 26 каштелянка
115,
98, 51, 37, 35, 26 земянка
118,
66, 34, 27 римянка
35 вознянка
108, 35, 32, 26 полонянка
35, 34 смольнянка
97, 35, 34, 27 моавитянка
123, 116, 101, 98,
34, 27 сиріанитянка
34, 27 аммонитянка
35, 28, 27 идумейтянка
35, 34, 27 израилтянка
114, 112, 101, 34 египтянка
99, 44, 26, 25 старостянка
123, 109, 100,
48, 45, 26 шляхтянка
109, 45 судьянка
98, 37, 34 хрестьянка
121, 79, 77 единока
35 закупка
116, 107, 103, 35 перекупка
118,
37, 32 поварка
115, 35, 27 болгарка
116, 29 владарка
32, 29, 28, 26, 25 арендарка
44, 37,
32, 29 лекарка
37, 32, 28, 26 пекарка
37, 32, 29 аптекарка
37, 32, 29, 26, 25 шинкарка
32, 29, 28, 26, 25 корчмарка
123, 117, 113, 110, 37,
37, 32, 29 млынарка
29 шипарка
118, 112, 27 татарка
115 злотарка
32 золотарка
32 гафтарка
32 почтарка
118, 37, 32, 29, 26 кухарка
44, 39, 27, 26 швакгерка
104,
39 шмухлерка
39 антецесорка
44, 39 поссессорка
44, 39 сукцессорка
44, 39, 27, 25 фундаторка
123, 44, 39, 26 акторка
100, 98 цурка
108, 44, 37, 34, 26 боярка
114, 113,
79 руска
39, 26 солдатка
118, 44, 42, 41, 27 мужатка
41, 38, 36, 30, 27 матка
112, 108, 87, 49 43,
112, 43, 38, 27 тетка
103, 43, 31, 26 ворожбитка
123, 117, 116, 107,
123, 116, 37, 30 моавитка
115, 107, 30, 26 наймитка
123, 118, 116,
37, 30, 26, 25 корчмитка

123, 117, 116,
31, 28, 27 мадіанитка
98, 97, 43, 38, 27 невестка
112, 101, 100, 99,
79, 78, 43, 38, 36 внука
112, 81,
36 правънука
100, 29, 26 ойчицка
37, 31, 26 швачка
100, 98, 37, 31 одиначка
118, 37, 31, 26 прачка
37, 31 дедичка
116, 44, 37, 31, 25 родичка
107, 44, 37, 31, 26 наймичка
116, 115,
37, 32, 30 заставничка
37, 32, 30 слодовничка
30 посредничка
37, 32, 30, 25 папежничка
123, 116, 107, 44,
98, 30, 26 княжничка
90 стайничка
103, 37, 32, 30 опекалничка
118, 117, 116,
108, 32, 30, 26 законничка
114, 113,
37, 32, 30, 26 дворничка
114, 108,
37, 32 30 ровесничка
108, 37, 32, 30 участничка
114, 108, 32 поручничка
30 мельничка
118, 97, 37, 27 геретичка
98, 97, 37, 31 отчичка
118, 101,
93, 43, 38, 35, 27 дочка
114, 113,
98, 31 единочка
43, 38, 36, 35, 27 внучка
123, 112, 100, 99, 50,
36, 35 правнучка
37, 31 сестрычка
114, 112, 103 монашка
44, 39, 38 мнишка
114, 108, 39, 38 скоморошка
116 пасушка
122, 113, 46 матушка
108, 37, 32, 26 пастушка
118, 116, 115, 114,
98, 38, 30, 26 товарышка
123, 118, 99,
37, 32, 30 бурителька
118, 30, 27 приятелька
38 нянька

37, 32, 29 звездарька
121, 81, 79, 77 кума
121, 65, 64, 27 королевна
123,
122, 65, 64, 63, 27 царевна
123,
65, 64, 27, 25 подсудковна
65, 64, 63, 27 дядковна
65, 64 слодовъниковна
123, 64, 27 чашъниковна
66, 65, 64, 27 стольниковна
123, 65, 64, 27 маршалковна
100, 98, 65, 51 кроловна
123, 65, 64, 27 каштеляновна
65, 64, 63, 27, 25 поповна
123,
27, 25 господаровна
65, 64, 27 писаровна
100 братовна
65, 56, 54, 52, 43, 25 жена
112, 98, 92, 84, 83, 73, 69,
122, 113,
115, 98, 76, 46, 25 панена
122, 121,
65, 64 ксенжна
65, 64, 46, 27, 25 княжна
123, 121, 99, 93,
111, 110, 74, 27 женчызна
115,
103, 63, 62, 58 пасербина
115, 109,
63, 62, 60, 59 воеводина
109, 103, 102, 72,
72, 63, 62, 60, 59 дядина
102,
102, 63, 62, 59, 26 хоружина
112, 81, 79, 27 египтянина
121, 114,
63, 62, 59 подкоморина
110, 83, 62, 59 охмистрина
72, 63, 62, 59 старостина
111, 73, 27, 25 девчина
122,
114, 63, 62, 59 своячина
115,
62, 60, 59, 26 подчашина
102, 72, 63,
102, 72, 63, 58 конюшина
103,
110, 74, 73, 27 женщина
122, 115, 113, 112,
59 судьина
50, 48, 46, 45, 41, 27 панна
85, 84, 83, 80, 76, 73, 64, 63,

116, 103, 52 чародейница
107, 49 нарекалница
48, 47, 26 началница
57 зачателница
57 правителница
57 кормителница
114, 113, 109, 57 кормилница
122, 115,
109, 56 доилница
48, 28, 26 схимница
122, 109, 50 облюбенница
27 девственница
116 родственница
56, 55, 48, 47 племенница
123, 122, 98,
52, 27 иноплеменница
49 крупенница
55, 49, 48, 46, 25 законница
114, 113, 110, 108, 68,
52, 27 идолопоклонница
119, 55, 49, 48, 47 дверница
49 коверница
48, 27 суперница
54, 53, 50, 28, 26 черница
119, 108, 76, 60,
114, 108, 55, 49 дворница
48 подворница
79, 54 красница
55, 49, 48, 27 прелесница
56,
48 ненависница
48 спросница
27 обетница
48 клеветница
49, 48, 26, 25 работница
100, 98, 55,
48 причастница
56, 55, 49 несчастница
55, 52, 27 злосчастница
108, 48 участница
100, 97, 48 милостница
56, 55, 26 нешляхетница
55, 49, 27 поплечница
49 танечница
56, 55, 48, 26 вшетечница
99, 49, 48, 26 помочница
101,
55, 49, 48, 26 шапочница
123,
114, 108, 48 поручница
49, 48, 47, 26, 25 ключница
55,
123, 55, 48, 27 грешница
57, 56, 26 скоморошница

114, 108,
108, 58, 57 пастушница
115, 114,
107, 58, 37 нарекательница
122,
57 питательница
57 сожительница
58, 57 повелительница
57 верительница
100, 57, 26 учительница
58, 57 узорешительница
57, 56, 48, 26 невольница
108,
55, 49, 47, 26 стодольница
119,
50, 47 юница
119, 55, 49, 28, 26 старица
123,
54, 53, 51, 50, 25, 21 царица
115, 55,
55, 51, 27, 23 падчерица
123, 101, 100, 99, 98, 56,
54 сватица
87, 55, 49, 27, 25 небожчица
123, 119, 101, 99,
113, 109, 103, 51 пророчица
116 владычица
54 менъшица
51 перекупщица
51 патрыяршыца
113, 70 ятровьца
114, 110, 77, 26 канцлерша
122, 117,
49, 25 теща
53, 45, 44, 41, 39, 25 пани
91, 88, 87, 80, 79, 71, 67, 60,
110, 108, 102, 94, 93, 92
122, 121, 115, 113, 112,
75, 72, 57, 43, 38, 25 мати
114, 113, 112
75 богомати
75 дщи
113 ятровъ
75 богоматеръ
122, 112 неплоды
122, 75, 25 свекровь
122, 113, 75, 25 матерь
114, 113, 83, 75, 25 дочерь
113, 75, 43, 38, 25 дочь
114,
86, 85, 84, 83, 27 любая
85, 84, 83, 27 плюгавая
120, 86,
92, 26 ковалевая

71 (кроловая) кролевая
109, 90,
90, 71, 61, 26 королевая
120, 115, 109, 102,
81, 80 покоевая
120, 90 лекаревая
102, 98 цесаревая
115, 109, 102 царевая
117, 111 канцлеревая
20, 86, 85, 83, 27 щасливая
120 дойлидовая
91 подъсудковая
91 лавниковая
91 стражниковая
120, 91 свещенниковая
92 дворниковая
92, 80 ключниковая
91 чешниковая
91 стольниковая
91 маршалковая
91 подписковая
115, 114, 112, 92 войсковая
120, 90 конюшковая
120, 94, 91, 26 енераловая
122,
102, 86, 85, 26 белоголовая
120,
91 економовая
120, 94, 91 фурмановая
122, 94, 91, 26 гетмановая
91 господиновая
102, 91, 71, 26 тивуновая
122, 120, 103,
98, 94, 91, 90 кашталяновая
115, 108, 100,
91 бондаровая
122, 94, 91, 25 римаровая
120, 91 писаровая
115, 94, 91 злотаровая
122, 26 золотаровая
91 стрыхаровая
94, 90 машталеровая
117, 111, 94 канцлеровая
120, 90 докторовая
94, 91 мистровая
91 бурмистровая
122, 91 ротмистровая
115, 110 охмистровая
120, 91, 25 кухмистровая
26 моляровая
91, 90, 27 братовая
120, 91 войтовая
92 комендантовая
93 куръфиръштовая

90 конюховая
91, 25 кравцовая
91 каштеляницовая
120, 91 воеводичовая
115, 92 городничовая
121, 81, 79, 78 хоружая
91, 81, 80, 78, 26 войская
115, 114, 112, 93,
90, 79, 73 подданая
110, 85, 84, 83 служебная
117, 112,
121, 116, 81, 80 скарбная
85, 84, 83, 26 свободная
112, 86,
120, 86, 85, 84, 83 пущеная
120, 85, 84 замужная
81, 80 обозная
88 маркграбиная
91, 88, 26 подскарбиная
119, 112,
72, 59, 26, 25 воеводиная
123, 119, 102, 89, 87,
109, 94, 87, 59 судиная
102, 92, 87, 72, 59 дядиная
113, 108, 87, 26 казнодеиная
123, 119, 115, 114,
51 мужжиная
59, 26 (хоружыная) хоружиная
123, 119, 111, 109, 102, 88,
119, 88 подстолиная
87 (канцлерыная) канцлериная
119, 117, 114, 110,
115, 109 подканцлериная
89, 88, 59, 26 подкомориная
119, 111, 109,
59 охмистриная
88, 87, 72, 59 старостиная
109, 94, 91, 89,
88, 80 подстаростиная
88 державчиная
123, 119, 88, 26 ловчиная
122, 119, 88, 25 пивничиная
115, 113, 89 городничиная
123, 88 возничиная
88, 72, 59, 26 подчашиная
119, 102,
88, 72, 59, 26 конюшиная
119, 111, 109, 103, 102, 93,
86, 85, 84, 27 беременная
120, 102,
86, 85, 84, 83 свиренная
120,
120, 85, 83, 27 прекрасная
81, 79 вратная

120, 86, 85, 84 мужатая
86, 85, 83 святая
113, 81, 79, 26 городничая
115,
92, 81, 80, 26 подключая
121,
86, 85, 83, 27 хорошая
80, 48, 46, 30, 26 старшая
121, 81, 80, 26 конюшая
120, 85, 84, 83 служащая
84 кормящая
70, 68 золотошвея
108, 107, 70, 69, 26 ворожея
123, 122, 117, 116,
115, 111 панея
122, 69 жнея
112, 79 подскарбия
115, 111 пания
110, 68 игуменія
110, 69 рыкуния
122, 110, 77 породеля
98 паненя
63, 60, 27 врагиня
62, 60 богиня
45, 27, 26, 25, 21 княгиня
79, 75, 65, 63, 62, 60, 52,
99, 98, 91, 87,
123, 122, 121, 110
102, 101, 100
111, 63, 62, 60 грекиня
123, 113,
56, 27 немкиня
108, 63, 62, 60, 48 инокиня
123,
109, 103, 102, 27 пророкиня
123, 113,

61, 27 бездеткиня
114, 63, 62, 61 своякиня
123, 115,
63, 62, 61, 27 болгариня
122, 115,
25 (господарыня) господариня
97, 90, 73, 71, 63, 61, 28, 26,
111, 102, 100,
62, 60 маистриня
26, 25, 21 (боярыня) бояриня
113, 111, 110, 108, 63, 62, 61,
123, 114,
121, 63 монахиня
123, 62, 60, 26 монархиня
61 державчиня
102, 83, 63, 60, 26 рабыня
123, 121, 114, 113, 112,
99, 63, 61, 26 господыня
123, 100,
61 самараныня
63, 61, 28, 26 государыня
111,
26 швагрыня
63, 62, 60, 27 лотрыня
63, 62 чехыня
80 братя
112, 43, 38, 25 (тета) тетя
110 матиця
70, 69, 26, 25, 21 попадья
122,
70, 69 белья
115, 111 панья
100, 70, 68, 26 игуменья
123, 122, 114, 110, 104, 103,
103, 98, 70, 69, 26 рыкунья
110,

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

АВК — Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею, т. I—XXXIX. Вильна, 1865—1915.

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I—V. Спб., 1846—1853.

Алекс.— Александрыя пачатку XVII ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q. XVII. 5, л. 1—45б [1].

Алекс. XV — Александрыя канца XV ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q. XVII. 257, л. 1—2б.

АЛМ — Акты Литовской Метрики, т. I, вып. 1 (1413—1498). Варшава, 1896.

Апакр.— Апокрисисъ, албо отповедь на книжкы о съборе берестейскомъ (Вільня, 1598).

Ар. вр.— Памятники древней письменности и искусства. Из истории отреченных книг. IV. Аристотелевы врата или тайная тайных. Спб., 1908.

Арх. зб.— Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. I—XI. Вильна, 1867—1890.

Атыла — Гісторыя аб Атыле каля 1580 г.— Сборник Отделения русского языка и словесности, т. 44, № 3. Спб., 1888.

АЮЗР — Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, т. I—II. Спб., 1863—1865.

БА — Беларускі архіў, т. I—III. Мінск, 1927—1931.

Бава — Аповесць аб Баве каля 1580 г.— Сборник Отделения русского языка и словесности, т. 44, № 3. Спб., 1888.

Барк.— Баркалабаўскі летапіс пачатку XVII ст.— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 790.

Бельск.— «Хроніка ўсяго свету» М. Бельскага пачатку XVII ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. IV. 688, л. 1—412.

Біблія — Біблейскія кнігі пачатку XVII ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. 1. 2.

Будны — Катихисісъ для детокъ хрістианскихъ языка руского коротко выложена (Клецк, 1562).

Бых.— Летапіс па спісу Быхаўца канца XVI — пачатку XVII ст.— Полное собрание русских летописей, т. XVII. Спб., 1907.

Бяр.— Лексиконъ славенороссскій именъ толъкованіе, всечестным отцемъ Кір Памвою Берындою... згромаженый (Куцеін, 1653).

---

[1] Спасылка на рукапісныя матэрыялы паводле картатэкі Гістарычнага слоўніка беларускай мовы, якая захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР.

Бяр.₁— Лексикон славенорусский, составленный Всечестным отцем Кир Памвою Берындою.— Сказания русского народа, собранные И. Сахаровым, т. II, кн. 5, 6, 7 и 8. Спб., 1849.

Вісл.— Вісліцкі статут 1423—1438 гг.— Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I. Спб., 1846.

ВС — Витебская старина, т. IV. Витебск, 1885.

Дыяр.— «Дыярыуш» А. Філіповіча 1638—1648 гг.— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 860.

Еўл.— «Дзённік» Ф. Еўлашоўскага канца XVI — пачатку XVII ст.— Киевская старина, 1886, январь — март.

Жыц. Еўф. Пол.— Жыціе Еўфрасінні Полацкай па спісу XV ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Збор Пагодзіна № 869).

Жыц. св.— Зборнік жыцій святых сярэдзіны XVII ст.— Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, № 159.

Зб. 81 — Зборнік павучэнняў сярэдзіны XVII ст.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 81.

Зб. 82 — Зборнік павучэнняў сярэдзіны XVII ст.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 82.

Зб. 255 — Зборнік павучэнняў сярэдзіны XVII ст.— Рукапіс Центральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 255.

Зб. 259 — Зборнік павучэнняў сярэдзіны XVII ст.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 259.

Зб. 261 — Зборнік павучэнняў пачатку XVII ст.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 261.

Зб. 262 — Зборнік біблейскіх кніг пачатку XVI ст.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, RKF — 262.

Зб. 752 — Зборнік жыцій святых другой палавіны XVII ст.— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 752.

Зб. вып.— Собраніе пріпадковъ краткое и духовным особамъ потребное (Супрасль, 1722).

Зкнд. Акты — Законодательные Акты Великого княжества Литовского XV—XVI вв. Л., 1936.

ЗРЛ. С. сп.— Супрасльскі спіс летапісу 1519 г.— Полное собрание русских летописей, т. XVII. Спб., 1907.

ЗРЛ. Сп. гр. Кр.— Летапіс па спісу Красінскіх канца XVI ст.— Полное собрание русских летописей, т. XVII. Спб., 1907.

ИЮМ — Историко-юридические материалы, извлеченные из архивных книг губерний Витебской и Могилевской, вып. I—XXXII. Витебск, 1871—1906.

Каз. Кір.— Казанье святого Кирилла... (Вильня, 1596).

Каліст — Евангеліе учителное албо казаня на кождую неделю и свята урочистыи презъ святого отца нашего Калиста (Еўе, 1616).

Камед. Мараш.— «Камедыя» К. Марашэўскага 1787 г.— Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, Вц. 201.

КАР — Кніга Альбрыхта Радзівіла 1646—1648 гг.— Рукапіс Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў, ф. 389, 332.

Карп.— «Казанье двое» Л. Карповіча (Еўе, 1615).

КВЗС — Кніга Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.— Рукапіс Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў, ф. 389, кн. 228.

КВС — Кніга Віленскага замкавага суда 1552 г.— Рукапіс Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў, ф. 389, кн. 240.

КПМ — Книга посольская метрики Великого княжества Литовского, т. I—II. М., 1843.

Кн. раж.— Зборнік тлумачэнняў біблейскіх кніг сярэдзіны XVII ст. («Книга рожаев»).— Рукапіс бібліятэкі Акадэміі навук УССР, 9п/111.

ЛС, 1529 — Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. — Временник императорского общества любителей древностей российских. М., 1854.

ЛС, 1566 — Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. II. 34.

ЛС, 1588 — Статут Великого князства Литовского (Вільня, 1588).

Мак.— Духовныи беседы святого отца нашего Макаріа пустелника египетского... (Вільня, 1627).

Наб. тур.— О набоженстве турецкомъ канца XVI — пачатку XVII ст.— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 790, л. 20—24[б].

Насовіч. Рукапісны слоўнік — И. И. Носович. Алфавитный указатель старинных белорусских слов, извлеченных из Актов, относящихся к Истории Западной России, изданных в 1853 г.

Неба — Касмаграфічны трактат сярэдзіны XVI ст.— Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, 09/276 К.

Пак. Хр.— Пакуты Хрыста канца XV ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, QI. 391, л. 1—38.

Пак. $Хр._1$— Страсти Христовы в западнорусском списке XV в.— Памятники древней письменности и искусства. Спб., 1901.

Патр. А.— Патрыяршы спіс летапісу канца XVI — пачатку XVII ст. (кароткая рэдакцыя).— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 790, л. 43—65.

Патр. Б.— Патрыяршы спіс летапісу канца XVI — пачатку XVII ст. (пашыраная рэдакцыя).— Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея. Зб. Сінад. 790, л. 83[б]—103[б], 135—136.

Пін.— Александр Грушевский. Пинское Полесье. Исторические очерки. Часть вторая, XIV—XVI вв. Киев, 1903.

Пралог — Пралог XVII ст.— Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, ф. 256, № 325, л. 484—685[б].

РИБ — Русская историческая библиотека, т. IV. Спб., 1878; т. VII. Спб., 1882; т. XIX. П., 1903; т. XX. Спб., 1903; т. XXVII. Спб., 1910; т. XXX. Юрьев, 1914; т. XXXIII. П., 1915.

РКП — Ревизія пущъ и переходовъ звѣриныхъ в бывшемъ Великомъ княжествѣ Литовскомъ... (Вільна, 1867).

Р-Л. А.— Русско-Ливонские акты. Спб., 1868.

Сакр.— О сакраментах или тайнах в посполитости (Кіеў, 1627).

Сівіла — Западнорусское сказание о Сивилле пророчице по рукописи XVI в.— «Варшавские университетские известия», 1898, № 2.

Скар.— «Бивлия руска» выдання Ф. Скарыны 1517—1519 гг. ДЗ — Другазаконне; ІК — Кніга Іёва; КБ — Кніга Быцця; КВ — Кніга Выхад; КЛ — Кніга Левіт; КР — Кніга Руф; КС — Кніга суддзяў; ЛК — Кніга лічбаў; ПБ — Кніга прамудрасці божай; ПП — Кніга песні песням; ПЦ — Першая кніга царстваў; ТЦ — Трэцяя кніга царстваў; ЧЦ — Чацвёртая кніга царстваў.

Смал. камед.— Смаленская камедыя (XVIII ст.).— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. XVII. 168, л. 66[б]—70[б].

Стрыйк.— «Хроніка славян» М. Стрыйкоўскага пачатку XVII ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. IV. 688.

Троя — Траянская гісторыя першай палавіны XVI ст.— Рукапіс бібліятэкі Акадэміі навук УССР, ДА/п. 157.

Тры кар.— Аповесць аб трох каралях-валхвах XV ст.— Рукапіс бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Q. I. 391, л. 38—96б.

Тры кар.$_1$— Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском списке XV в.— Памятники древней письменности и искусства. Спб., 1903.

Трыст.— Аповесць аб Трыстане каля 1580 г.— Сборник Отделения русского языка и словесности, т. 44, № 3. Спб., 1888.

Хр. 2405 — Книга, глаголемая кроникъ сиречь собраніе от многихъ летописецъ («Хранограф» XVII ст.).— Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, № 2405.

Чэц.— Чэцця 1489 г.— Рукапіс бібліятэкі Акадэміі навук УССР, ДА/415 л.

Чэц.$_1$— Житие св. Бориса и Глеба по тексту М. Карпинского.— Русский Филологический Вестник, т. XXI. Варшава, 1889.

## ЗМЕСТ

**Николай Андреевич Павленко**

**ОЧЕРКИ БЕЛОРУССКОГО СЛОВООБРАЗОВАНИЯ**

*Женские личные номинации в старобелорусском языке*

На белорусском языке

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина.
Минск, Парковая магистраль, 11. Дом книги

Рэдактар *А. М. Ляпіч*
Мастацкі рэдактар *Л. Г. Мядзведзева*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктар *З. М. Машкевіч*

ІБ № 196

АТ 10845. Здадзена ў набор 15/VI 1977 г. Падпісана да друку 20/XII 1977 г. Фармат 84×108 1/32. Папера друкарская № 1. Ум. друк. арк. 7,14. Ул.-выд. арк. 7,77. Тыраж 1200 экз. Цана 1 руб. 20 кап. Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, Паркавая магістраль, 11. Дом кнігі. Друкарня імя Ф. (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.